



# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

19 САКАВІКА 1999г. № 11/3991 КОШТ 12 000 РУБ.


## КАНСЕРВАТЫЎНАСЦЬ ВЁСКІ — САЮЗНІК РЭФОРМЫ

**Анатоль КАЛАЧОЎ: "Калі ў гараджан заработная плата — асноўны даход, які забяспечвае пражыццё, то селянін забяспечвае сябе, галоўным чынам, за кошт сваёй гаспадаркі. За калгас і саўгас ён трымаецца толькі каб не пашкодзіць сваёй сям'і. Бо могуць адмовіць у многім: у нарыхтоўцы сена, саломы, паліва, не выпішуць зерня, не дадуць каня, ды ці мала яшчэ іншых "мер" у дзяржавы..."**

5

## БАЛАДЫ ЛЁСУ

**Міколы МЯТЛІЦКАГА**

8

## ДВА АПАВЯДАННІ

**Васіля ТКАЧОВА**

9

## ТАЯМНІЦЫ КАРЛА БАРАМЕЯ

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ: "У той самы лютаўскі вечар, калі тысячы сталічных жыхароў дэманстравалі "пацалунак Гінеса" і Альберт Скараход ставіў свой легендарны рэкорд, стоячы на галаве падчас выканання песні, Пінск слухаў юнага саліста, здатнага даць фору многім аўтарытэтам, рэкардсменам і "зоркам".**

10—11

## "Я — СПРАДВЕЧНЫ ШУКАЛЬНІК..."

**Творы ўдзельнікаў семінара маладых літаратараў, які адбыўся на пачатку сакавіка ў "Іслачы".**

13—15

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на наш штотыднёвік на другі квартал 1999 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі на месяц — 70 тысяч рублёў, на квартал — 210 тысяч рублёў.

**Наш індэкс — 63856.**



# "Там, дзе Іслач бруіцца..."



Імгненні семінара маладых літаратараў...

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА



# КОЛА ДЗЁН

***"Хочаш жыць — умей круціцца..." Дзе і калі ўзнікла-нарадзілася гэтая прымаўка? Быў жа час, калі яна начыста выходзіла з ужытку, агучвалася зрэдку хіба ў крымінальным асяроддзі. А цяпер вось амаль ганарова прамаўляецца і ў коле нібыта інтэлігентных людзей. А як жа! "Хочаш жыць — умей круціцца!" Умей што-небудзь танней купіць і даражэй прадаць. Куплю — прадам! Абвесткі аб гэтым запаўняюць газетныя палосы...***

***А дзівак-паэт, між тым, насуперак гэтаму ўсеагульнаму купляння-прадажніцтву, наіўна і цнатліва кажа: "Што на зямлі чалавека трымае? Тое, што нельга прадаць і купіць... Што нас у свеце падманным ратуе? Тое, што нельга купіць і прадаць..." Купіць і прадаць нельга Радзіму, Любоў ды Сумленне. Толькі ж — хто ўчуе дзівака-паэта? А сёй-той, учуўшы, яшчэ і пасміхнецца: "Радзіма? Любоў? Сумленне? Усё гэта заляжалы тавар..."***

***Вось і круцімся... Жывём...***

## ПАДРАХУНКІ ТЫДНЯ

Паводле афіцыйных дадзеных, за апошнія сем гадоў нараджальнасць у Беларусі скарацілася на 37 працэнтаў, а смяротнасць павялічылася на 25 працэнтаў... Летась страты ад пажараў склалі па краіне 792,2 мільярда рублёў... З 1990 года колькасць клубных устаноў скарацілася на 21 працэнт (пераважна на вёсцы), бібліятэк — амаль на 16 працэнтаў; гэта значыць, зачыніўся кожны пяты клуб і амаль кожная шостая бібліятэка... Лічбы гэтыя, апублікаваныя ў друку днямі, красамоўна гавораць пра якасць нашага жыцця...

## ЗАЦІШША ТЫДНЯ

Цэнтрвыбаркам паведаміў, што за ўвесь час выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы ад грамадзян краіны паступіла толькі чатыры скаргі. Высновы з гэтага зроблены такія: людзі сталі менш скардзіцца таму, што на самым высокім узроўні была праведзена арганізацыйная, растлумачальная работа сярод выбаршчыкаў. А між тым ці не тлумачыцца адсутнасць скаргаў і заяў абыякавасцю насельніцтва да прызначаных на 4 красавіка выбараў?

## "ЧАРАДЗЕЙСТВА" ТЫДНЯ

З Амерыкі прыйшло паведамленне, што на сёлетнім, 71-ым уручэнні "Оскара", якое пройдзе ў Галівудзе, афіцыйным моцным напіткам будзе мінская гарэлка "Усяслаў Чарадзей". На віна-гарэлачным заводзе "Крышталь" вестку, вядома, успрынялі з радасцю. Поспех — нечуваны! Ён адкрывае шырокія перспектывы для прадукцыі завода. З другога ж боку... Пры цяперашняй цане пшаніцы — 85 долараў за тону — вытворчасць "белай" становіцца стратнай, рэальная цана паўлітроўкі вагаецца ў межах 350—380 тысяч рублёў. Запасаў зерня няшмат, а валютных сродкаў няма. Вырашэння пытання не спрыяе нават і вялікае "чарадзейства"...

## ПРАВА ТЫДНЯ

У сувязі з 50-годдзем прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека Цэнтр па вывучэнні ААН, які працуе ў Беларусі, праводзіць у гэтыя дні акцыю: "Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека — у кожную сям'ю". Мэта акцыі — максімальна шырокае азнаямленне насельніцтва Беларусі з гэтым асноўным міжнародным дакументам. Кожны, хто пажадае, можа бясплатна атрымаць тэкст Дэкларацыі. Для гэтага дастаткова прыслаць у Цэнтр па вывучэнні ААН (220072, Мінск, вул. Акадэмічная, 25, п. 406) канверт з маркай і зваротным адрасам. Вось толькі ці паболее ў нас з вамі правоў ад гэтага?

## НЮАНС ТЫДНЯ

З такімі "нюансамі", на жаль, апошнім часам даводзіцца сутыкацца ўсё часцей. Маецца на ўвазе нюанс моўны. У тым сэнсе, што беларуская мова ўсё больш здае ў беларускай жа краіне свае пазіцыі. Пра гэта сведчыць, скажам, амаль поўная адсутнасць беларускага слова на старонках так званага двухмоўнага друку. Яшчэ больш сумная навіна прыйшла са Слуцка. У апошняй літстаронцы "Слуцкага краю" з шаснаццаці аўтараў раённага літаратурнага аб'яднання "Случ" трынаццаць апублікавалі рускамоўныя вершы, хоць амаль усе яны — беларусы. І гэта — на Случчыне, якая была калыскай сучаснай беларускай мовы, якая дала нашай літаратуры больш за 30 пісьменнікаў і паэтаў!

## СУСЕДСТВА ТЫДНЯ

Як мы ні "змагаліся" з НАТА, спыніць яго пашырэнне на ўсход усё ж не змаглі. Членамі НАТА сталі Польшча, Венгрыя і Чэхія, у выніку чаго мы апынуліся ў непасрэдным суседстве з ім. А што далей? Ці будзе пярройдзена так званая "чырвоная лінія", прынцып якой нібыта дзейнічае і паводле якога былыя савецкія рэспублікі ніколі не павінны станавіцца членамі НАТА? Як вядома, Літва, Латвія і Эстонія хочуць трапіць у гэты блок не менш, чым хацелі таго Польшча, Венгрыя і Чэхія...

## ЭЛЕКТРОБУС ТЫДНЯ

Пасажыры 9-га тралейбуснага маршруту, які ідзе ў сталічны мікраралён Сухарава, высока ацанілі новую мадэль тралейбуса аб'яднання "Белкамунмаш". Нізкія прыступкі і тое, што падлога ў час пасадкі трошкі нахіляецца, робяць тралейбус асабліва зручным для інвалідаў, старых людзей і дзяцей. А ў дадатак ён камфартабельны і прызнаны, калі верыць намесніку генеральнага дырэктара аб'яднання У. Нікалаеву, самым энергаэканамічным "электробусам" у свеце. Дарэчы, "Белкамунмаш" выказвае ахвоту напрацаваць і над мадэллю трамвая, які павінен стаць у наступным стагоддзі (ці тысячагоддзі) галоўным транспартным сродкам сталіцы Беларусі. Так трымаць, камунмашаўцы!

## ВАДА ТЫДНЯ

Хоць апошнія дні і падмарожвае, асабліва ноччу, аднак жа ход вясны і сам Бог спыніць не можа. А вясна — гэта паводка. І, на жаль, сёлета яна высокая і ўжо нарабіла нямала бяды, найперш на Брэстчыне і Гомельшчыне: затоплены сотні вёсак, тысячы хат і гаспадарчых будынкаў. Трывожныя весткі пачынаюць прыходзіць з Міншчыны, Гродзеншчыны, Магілёўшчыны. Паўсюдна ідзе змаганне са стыхіяй: умацоўваюцца старыя і насыпаюцца новыя дамбы, падвозяцца жыхарам падтопленых раёнаў харчовыя і прамысловыя тавары першай неабходнасці, з затопленых мясцін вывозяцца людзі і жывёла. Савет Міністраў прыняў спецыяльную пастанову аб неадкладных супрацьпаводкавых мерапрыемствах. Усё гэта, дасць Бог, дазволіць звесці да мінімуму наступствы паводкі. Мо й праўда "вялікая вада не пройдзе", як у творчым запале (ці ўслужлівым экстазе?) напісалі журналісты аднай салёднай газеты, бо, на добры лад, якраз і добра было б, каб вялікая вада прайшла і сышла...

ДРУК

# "Беларуская кніга-98"

Рэспубліканская выстаўка пад такой назвай, арганізатарамі якой сталі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў, урачыста адкрылася 16 сакавіка на другім паверсе мінскай кнігарні "Светач" (перад прысутнымі выступілі старшыня Дзяржкамдруку М. Падгайны і яго намеснік С. Нічыпаровіч), а перад гэтым прайшла прэс-канферэнцыя. Згаданая выстаўка — з шэрагу штогадовых агледзін, якія звычайна адбываюцца пры падвядзенні вынікаў чарговага выдавецкага года.

У такім разе не абысціся без лічбаў, бо яны, хоць, як кажуць, і сумная рэч, ды сказаць могуць шмат. Адны лічбы прыносяць радасць, другія — засмучэнні. Прыемна, для прыкладу, што ў параўнанні з 1997 годам колькасць беларускамоўных выданняў летась павялічылася на 18 працэнтаў, а тыраж — на 28,4. Ды не радасна ад усведамлення, што сярэдні тыраж адной кнігі (увогуле) упаў з 12,9 тысячы экзэмпляраў да 9,9. Зрэшты, сярэдні ўзровень ёсць сярэдні: дзе густа, а дзе і пуста. Той, хто рэгулярна сочыць за навінкамі, добра ведае, што асобныя кнігі выдавецтва "Беларуская навука" (вельмі патрэбныя) выходзяць накладам значна меншым за адну тысячу.

Стан сённяшняга кнігавыдання, як і ўсё, залежыць ад агульнага стану сучаснай эканомікі. Тым не менш гэтая галіна з'яўляецца ўсё ж адной з найболыш эфектыўных і адноснa ўстойлівых галін народнай гаспадаркі.

Беларуская кніга карыстаецца аўтарытэтам не толькі дома, а і за мяжой, у чым пераканалі Маскоўскі, Варшаўскі і Франкфурцкі кніжныя кірмашы, а таксама кірмаш "Кнігі Расіі", на якіх яна была годна прадстаўлена. Палітыка дзяржаўнай падтрымкі сацыяльна значных выданняў прыносіць плён. Летась дзяржаўнымі выдавецтвамі такой літаратуры выпушчана 609 найменняў тыражом 13,3 мільёна экземпляраў, што склала (адпаведна) у параўнанні з 1997 годам 122 і 137,5 працэнта. Публічным бібліятэкам за кошт бюджэтных сродкаў было накіравана 32 назвы кніг.

Паглядзець на выстаўе было што. Папрацавалі дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы і над адборам рукапісаў, і над належным афармленнем кніг, што, дарэчы, засведчыў XXXIX Рэспубліканскі конкурс "Мастацтва кнігі", які праходзіў 24—25 лютага. На яго было прадстаўлена больш за 160 лепшых узораў кніжнай прадукцыі. Лепшымі выданнямі 1998 года прызнаны: "Гарады Беларусі на старых паштоўках" В. Целеша ("Беларусь"), "Пан Тадэвуш" А. Міцкевіча (Беларускі фонд культуры) і "Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны" У. Арлова ("Асар"). А ўвогуле ў гэтым кірунку асабліва паспяхова працуюць такія выдавецтвы, як "Беларусь" (6 дыпломаў), "Юнацтва" (5), "Полымя" (4) і "Вышэйшая школа" (4).

У час выстаўкі адбыліся прэм'еры кніг. У сераду — даследавання "Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Адраджэнне і ранняе барока" І. Саверчанкі, выпушчанага выдавецтвам "Тэхналогія", у чацвер — зборніка "Млын на сямі колах. Легенды і паданні", укладальнікам якога з'яўляецца І. Масляніцына ("Юнацтва") і "Иллюстрированной хронологии истории Белоруссии" ("Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі). Дзве прэм'еры мяркуецца правесці сёння. Наведвальнікаў выстаўкі чакае сустрэча з двухтомнікам "Гісторыя Беларусі" ("Універсітэцкае") і лепшымі кнігамі выдавецтва "Беларусь".

**Н. К.**

СЕМІНАРЫ

# Дзеля ўзаемаўзбагачэння

Міжнародны семінар перакладчыкаў, які задумалі правесці пасля вялікага перапынку, пачаўся з "круглага стала" ў Саюзе пісьменнікаў.

— Мы не ставім перад сабой нейкіх глабальных мэтаў, — падкрэсліў старшыня саюза Уладзімір НЯКЛЯЕЎ. — Наша задача — адрадзіць хаця б традыцыйна моцныя літаратурныя сувязі: з Расіяй, Украінай, Балгарыяй, Польшчай, краінамі Балтыі.

На пасланыя запрашэнні, на жаль, адгукнуліся нямногія. (На тое ёсць аб'ектыўныя прычыны.) Першаму прадаставілі слова на пасяджэнні даўняму сябру Беларусі, вядомаму балгарскаму пісьменніку Стэфану ПАПТОНЕВУ. Ён паведаміў, што рэальным вынікам шматгадовых літаратурных сувязей стала анталогія беларускай паэзіі, якая пабачыць свет у наступным годзе. Румяна ЯЎЦІМАВА дадала, што не заляжаўся ў крамах паўтаратысячны тыраж нумара "Панарама" з творамі беларускіх аўтараў, што паспяхова разыходзіцца цудоўна аформлены зборнік паэзіі Яўгеніі Янішчыц. У абодвух выпадках мела месца дапамога пасла Беларусі ў Балгарыі А. Герасіменкі.

Балгарская дэлегацыя прывезла з сабой дагавор аб супрацоўніцтве двух творчых саюзаў, падпісаны старшынёй балгарскага саюза Мікалаем Хайтавым. Свой подпіс паставіў пад дагаворам і У. Някляеў.

Пётр КОШАЛЬ (Масква) абмаляваў сітуацыю ў Расійскай Федэрацыі. З тоўстых літаратурных часопісаў на сёння больш-менш трымаецца толькі "Дружба народов". Дзяржаўных выданняў практычна не засталося. Літаратурныя газеты служаць тым, хто іх утрымлівае альбо спансіруе. Творчых саюзаў зараз некалькі, але дзейнасці іх практычна не відно. Адзін саюз (на былой вуліцы Вароўскага) здае плошчы прыватным фірмам у арэнду, другі, на Камсамольскім праспекце (яго па звычцы завуць бондараўскім), займаецца тым, што выпрошвае грошы ў губернатараў і арганізоўвае выязныя пасяджэнні ў Якуціі, Краснадары і г.д. Усе саюзы, у тым ліку і дробныя, не кантактуюць, не ведаюць і не чытаюць адзін аднаго. Інфармацыя пра навінкі беларускай літаратуры і культуры да расійскага чытача практычна не даходзіць.



Гэты факт, як высветлілася, непакоіць не толькі маскоўскага паэта. Доктар філалогіі Вячаслаў РАГОЙША, у прыватнасці, выказаў недаўменне, чаму ў нас толькі адзін культурны калідор — на Усход, і той аднабаковы: адтуль звестак лавіна, ад нас жа выпадковыя і спарадычныя. Запэўніванні ў дружбе чамусь не падмацоўваюцца рэальнымі справамі, за 10 апошніх год у Маскве выйшлі адно зборнік беларускіх народных казак (укл. У. Конан, Л. Званарова) і аўтарская перакладная анталогія Г. Рымскага. Адзіная газета, якую можна выпісаць у РФ, — гэта "Культура". Увогуле ж у нас можа быць два рэчышчы гаворкі: або ўспамінаць і скардзіцца, або прыняць усё, як ёсць, і думаць пра магчымыя крокі дзеля духоўнага ўзаемаўзбагачэння.

Што мы па сутнасці ў міжнароднай ізаляцыі, адзначалі многія выступоўцы. Справа культурнага ўзаемаабмену не стала ў рэспубліцы дзяржаўным клопатам. Многія перыядычныя выданні не атрымліваюць нават Нацыянальная бібліятэка. Вось чаму ёсць неабходнасць стварэння арганізацыі "Міжнародная кніга". Непадобна таксама, каб культурным абменам займаліся чыноўнікі з апарату СНД, а там жа маецца, несумненна, адпаведнае падраздзяленне.

Гучалі нараканні і на поўную адсутнасць абмену радыё- і тэлеперадачамі нават з бліжэйшымі суседзямі.

Усё лепшае, што мае кожны народ, павінна даходзіць да іншых, сказаў загадчык кафедры славістыкі БДУ Іван ЧАРОТА. Вось чаму мы з асаблівай пашанай ставімся да тых, хто перакладае з беларускай мовы. У кожнага з нашых перакладчыкаў ёсць па некалькі гатовых кніг "у стале". У аднаго Н. Гілевіча, прызнанага лідэра ў галіне паэтычнага перакладу, на тры тамы славянскай паэзіі — звыш 400 аўтараў!

"Жыццё нас даўно скіроўвае ў практычны бок, — сказаў Ніл ГІЛЕВІЧ, — каб меней было пустапарожняга пафасу і болей спраў." Дагавор з балгарскім пісьменніцкім саюзам — прыклад таго, што пры жаданні нешта можна рабіць і ў сённяшніх няпростых умовах.

Сяргей ЗАКОННІКАЎ, галоўны рэдактар "Полымя", якраз і спыніўся на тым, што робіць часопіс дзеля мацавання дружбы і літаратурных кантактаў.

Удзельнікі семінара сустрэліся з кіраўнікамі літаратурных выданняў і выдавецтваў, а таксама з рэдакцыяй "ЛіМа".

**Г. К.**

*На здымку: выступае балгарская госця Румяна Яўцімава.*
*Фота А. Прупаса*

АНОНС

## Сакавіцкія прэм'еры

Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" падрыхтаваў новую канцэртную праграму з музыкі канца XVIII ст. Сёння, у канцы жорсткага і цынічнага нашага веку, тая музыка выглядае асабліва тонкай, далікатнай і нават крохкай. Для нашага слухача ў гэтым часе яна можа падацца ілюзорнай і трошкі манернай, але гэта часавае скажэнне. Насамрэч яна вельмі шчырая і крыху наіўная, нягледзячы на высокую яе прафесійнасць, элегантнасць і галантны лоск эпохі. Гэтая музыка стане дзівоснай аўрай для адпачынку і лёгкім дотыкам тае эпохі, якая ўжо ніколі не вернецца.

У часе канцэрта ажывуць камерныя творы ўкраінца Д. Бартнянскага, які атрымаў выдатную еўрапейскую адукацыю, шмат гадоў правёў у Італіі, а пасля зрабіў бліскучую кар'еру пры двары ў Пецярбурзе. Ягоныя творы сталіся яркай з'явай у музычным жыцці Расіі XVIII ст. Канцэртная сімфонія і квінтэт, што прагучаць у выкананні ансамбля, з'яўляюцца ўзорамі камернай музыкі Бартнянскага.

Не менш цікавы Квартэт чэшскага кампазітара і флейтыста А. Рэйха, які доўгі час працаваў у Боне і стварыў багата музыкі для духавых інструментаў. Твор вызначаецца дзівоснай меладычнасцю і цудоўнымі тэмбральнымі фарбамі.

Прадстаўлены ў канцэрце і чэх Ё. Фіяла. Ён быў слынным выканаўцам на віёле да гамба, бліскучым габаістам і віяланчэлістам. Фіяла нарадзіўся ў Празе, з 1777 г. быў габаістам у капэлах Мюнхена і Зальцбурга, дзе яму спрыяў Леапольд Моцарт. Пасля былі Вена (1785 г.), дзе Фіяла пасябраваў з Вольфгангам Амадэем Моцартам, царскі двор у Пецярбурзе (да 1790 г.). Як выдатны віртуоз, Ёзэф Фіяла шмат канцэртаваў. У Квартэце, што прагучыць у Камернай зале філармоніі 22 сакавіка, знаўцы музыкі будуць адзначаць характэрнасць стылістыкі эпохі і шукаць таямнічыя повязі творчага знаёмства Ё. Фіялы з В. А. Моцартам.

**Аляксей ФРАЛОЎ**

КІНО

# У бой ідуць адны старыя...

Калі карабель тоне, ён пасылае кліч аб дапамозе. Удзельнікі "круглага стала" "Маладое беларускае кіно", які адбыўся 11 сакавіка ў Саюзе кінематаграфістаў, нагадалі мне матросаў гінучага судна. "Трэба канчаткова вырашыць: калі наш кінематограф сканаў — паставіць кропку, калі яшчэ не — шукаць выйсце", — такімі словамі распачаў "круглы стол" І. Волчак, старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў.

"Круглы стол" пачаўся з непрыемнай для ўсіх навіны: не прыехалі доўгачаканыя саноўныя госці — С. Лук'янчыкаў, Б. Гарошка, Ю. Цвяткоў, ад якіх, па сутнасці, і залежала вырашэнне балючых "кіношных" праблем. Менавіта на дзень "круглага стала" дырэктар кінастудыі "Беларусьфільм", яго намеснік, а таксама намеснік міністра культуры вызначылі сустрэчу з М. Пташуком, на якога сёння точаць зубы ўсе яго калегі (бо "Мамант ісціны" — адзіны фільм, які зараз здымаецца на "Беларусьфільме"). І зноў кінематаграфісты казалі пра набалелае самім сабе, як кажуць, "на кухні". А набалела ў першую чаргу ў маладых. Сёння іх праблемы здаюцца сапраўды невырашальнымі.

З 45 маладых кінематаграфістаў (курс В. Турава і В. Дашука) цяпер працуюць у кіно толькі 19 чалавек. З адзінаццаці рэжысёраўдакументалістаў здымаюць два чалавекі — В. Асіюк і Г. Адамовіч. З чатырох мастакоў-пастаноўшчыкаў працуе ў кіно толькі адзін — Н. Навоенка. З 1994 года толькі сямі выпускнікам пашанцавала зняць дэбютныя карціны. Мо з гэтай прычыны сёлета ўпершыню работы маладых беларускіх кінематаграфістаў не бралі ўдзел у міжнародным фестывалі кінашкол "Святая Ганна".

Немагчымасць рэалізавацца мяжуе і са складаным працэсам змены пакаленняў. Сталыя майстры (у "круглым стале" ўдзельнічалі А. Белавусаў, В. Цэслюк, В. Рыбараў, Ю. Хашчавацкі, В. Шавялевіч, Ю. Марухін) упэўнены, што праблема маладых — гэта праблема творчасці. "За апошнія дзесяць гадоў маладымі не зроблена ніводнага сур'ёзнага фільма, які б выклікаў грамадскі рэзананс", — адзначыў рэжысёр В. Рыбараў. Рэжысёр А. Белавусаў раіў маладым кінематаграфістам больш смела адстойваць свае правы, змагацца за кожны праект з'яднанай камандай і не чакаць "манны нябеснай" ад Міністэрства культуры ці "Беларусьфільма". Па яго словах, у бой ідуць пакуль адны старыя — зусім нядаўна, абараняючы свой фільм, атрымаў другі інфаркт рэжысёр М. Ждануўскі.

Маладыя кінематаграфісты (выступілі В. Марчанкава, А. Трафіменка, С. Галавецкі, І. Волах, Ю. Дакучаеў) абараняліся. Таму больш грунтоўным было выступленне Ю. Хашчавацкага, які прапанаваў як маладым, так і сталым калегам працаваць усім разам, дапамагаць адзін аднаму на гэтым гінучым караблі.

Здаецца, выйсце ёсць: хутка будзе выдадзены каталог фільмаў маладых беларускіх кінематаграфістаў, а ў жніўні — распачнецца рэспубліканскі конкурс сцэнарыяў. Прапанаваў дапамагчы і В. Шавялевіч, кіраўнік "Белвідэацэнтра". Але, на жаль, гледзячы на маладых, я бачыла толькі патухлыя вочы.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

АБСЯГІ

МАГІЛЁЎ...

## Збіраюцца грошы на храмы

У Магілёве з'явіліся дзве новыя царквы. Першая, Свята-Прэабражэнская, пачала часова дзейнічаць у памяшканні жылога дома, што па вуліцы Фёдарава ў раёне Задняпроўя. А пакуль што шукаецца месца і збіраюцца грошы на ўзвядзенне сапраўднай царквы. Да гэтага часу ў раёне Задняпроўя не было ніводнага дзеючага храма.

А ля Палыкаўскай крыніцы асвечана нядаўна пабудаваная капліца ў гонар вялікапакутніцы Параскевы. Мясцовыя вернікі зараз таксама збіраюць грошы на ўзвядзенне новага храма. Дарэчы, ён (пад той жа назвай) існаваў на гэтым месцы з мінулага стагоддзя.

## Лялечны тэатр зачынены

Па распараджэнні дзяржпажнагляду ў Магілёве часова зачынены абласны лялечны тэатр. Будынак, у якім ён на працягу 19 гадоў размяшчаўся, састарэў і ўжо не адпавядае неабходным патрабаванням супрацьпажарнай бяспекі. Да таго ж тэатр за гэты час ні разу капітальна не рамантаваўся. Усе неабходныя работы намечаны на лета. Упраўленне культуры аблвыканкама выдзеліла на рамонт 8 мільярдаў рублёў. Але ці хопіць іх, каб выканаць усе патрабаванні пажарных?

## Каб аднавіць мемарыял

У горадзе падведзены вынікі конкурсу на лепшы эскізны праект аднаўлення і рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу па вуліцы Лазарэнкі. Канкурсантам прапанавалася аб'яднаць у адзін ансамбль ужо ўстаноўленыя ў скверы Герояў помнікі воінам савецкай арміі і апалчэнцам, памятны знак падпольшчыкам, а таксама спраектаваць будучы помнік воінам-інтэрнацыяналістам. На конкурс было прадстаўлена 8 работ, пяць з якіх — калектыўная праца навучэнцаў архітэктурнага аддзялення Магілёўскага будаўнічага каледжа. У выніку перамагла моладзь. Першую прэмію ў сто мільёнаў рублёў журы прысудзіла творчаму калектыву навучэнцаў чацвёртага курса названага каледжа: Д. Ныркову, Д. Гаўрыку, Д. Стральцову і Г. Козыраву.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ГОМЕЛЬ...

## Падарунак мастака

У вёсцы Ставок Пінскага раёна нарадзіўся сябра Саюза мастакоў — Міхаіл Пятровіч Балюк, які 40 гадоў творча працуе ў Гомелі. Ён з'яўляецца прызнаным майстрам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і перш за ўсё скульптуры дробных форм, выкананай у кераміцы. У сваіх творах Міхаіл Пятровіч адлюстроўвае жыццё і побыт беларускага народа, ствараe галерэю вобразаў нашых сучаснікаў. Большасць работ майстра вызначаюцца нацыянальным каларытам, напоўнены гумарам і аптымізмам. Гэта кампазіцыі "Маё Палессе", "Дзед і баба", "Рыбак", "Сейбіт"... Вядомыя і медалі, створаныя мастаком. Сярод іх — "Хатынь", "Нафтаправод "Дружба".

Работы Міхаіла Пятровіча экспанаваліся ў Іране, Турцыі, Германіі, Венгрыі, Польшчы, Мінску і Маскве. У гэтыя дні творчасць Балюка шырока прадстаўляе гамяльчанам мастацкі аддзел абласнога краязнаўчага музея. Работы, уключаныя ў гэтую экспазіцыю, Міхаіл Пятровіч падараваў Гомелю.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБСК...

## Тыдзень экалагічных ведаў

Гэтымі днямі Віцебская абласная бібліятэка пры дапамозе абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя правяла тыдзень экалагічных ведаў "У імя цяперашніх і будучых пакаленняў". У праграме — сустрэчы за "круглым сталом" навукоўцаў, эколагаў, прамыслаўкоў, медыкаў, работнікаў адукацыі і культуры. Бібліятэка падрыхтавала цікавую кніжную выставу па праблемах экалогіі. Тут адкрылася фотавыстава віцэ-прэзідэнта Заходне-Беларускага таварыства аховы птушак Уладзіміра Іваноўскага "Свет яго птушак". А ў намінацыі "прырода і музыка" адбылася прэзентацыя кніжна-ілюстрацыйнай выставы з удзелам навучэнцаў музычнага вучылішча імя І. Саларцінскага.

**Святлана ГУК**

ГРОДНА...

## Горад едзе ў вёску

На Гродзеншчыне распачаліся дні культуры гарадоў на сяле. Ажыццяўляецца адзін з пунктаў абласной праграмы развіцця культуры і мастацтва на 1999—2005 гады, зацверджанай аблвыканкамам.

— Мэта гэтай акцыі, што будзе доўжыцца два месяцы, — ажыўленне культурнага жыцця на вёсцы, далучэнне вяскоўцаў да лепшых здабыткаў народнага мастацтва Прынёманскага краю, — адзначыў намеснік начальніка ўпраўлення культуры аблвыканкама Д. М. Волчак.

Праграма дзён культуры прадугледжвае канцэрты калектываў мастацкай самадзейнасці з Гродна і раённых цэнтраў у вясковых установах культуры, выставы народных рамёстваў і выяўленчага мастацтва, спектаклі самадзейных і прафесійных тэатральных калектываў і шмат іншых цікавых мерапрыемстваў, якія далёка не штодзень могуць пабачыць вяскоўцы. Удзел у культурнай акцыі возьмуць вядучыя мастацкія калектывы Гродзеншчыны, прафесійныя і самадзейныя мастакі, тэатры драмы і лялек.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

БРЭСТ...

## Будзе музей сучаснага мастацтва

Такі музей ужо будуецца. Пад яго прыстасоўваюцца паўднёвыя казармы Брэсцкай крэпасці. На сёлета выдаткавана 16 мільярдаў рублёў, каб закончыць камунікацыйныя работы. Падбіраецца група мастакоў, якая распрацуе інтэр'ер музея, у якім будуць размешчаны творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва сучасных майстроў. Некаторым з іх ужо зроблены заказы Брэсцкім краязнаўчым музеем.

**Сымон АКСЕНІН**

## "Моладзь супраць СНІДу"

У грамадска-культурным цэнтры горада распачата акцыя "Моладзь супраць СНІДу". Галоўная яе падзея — выстава плаката на адпаведную антысніда́ўскую тэматыку. Аўтары больш пяцідзесяці выстаўленых плакатаў — старшакласнікі горада. У цэнтры ідуць лекцыі, відэапаказы. З поспехам выступае маладзёжны музычны гурт "Навываrат".

**Святлана ГУЛЯЕВА**

СУСТРЭЧЫ

# І каласуе даўгалецце...

Завейнай сакавіцкай раніцай дзве Марыі Якаўлеўны (Ярашэвіч і Клімовіч — старэйшая і малодшая сёстры Еўдакіі Лось), яе сын Дзмітрый, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, карэспандэнт рэспубліканскага радыё Зоя Каваленка і аўтар гэтых радкоў ехалі з Мінска ва Ушачы на белсаўпрофаўскім "Рафіку", каб адзначыць 70-ыя ўгодкі з дня нараджэння нашай выдатнай паэтэсы. Абапал дарогі бялеў аснежаны лес з мноствам паваленых і нахіленых дрэў, якія не вытрымалі цяжару сваіх снежных латаў. І мне прыгадаліся радкі Еўдакіі Лось:

***Ператужу, перахварэю...***<br>
***І, можа быць, хоць тым здзіўлю,***<br>
***Што, як вунь елка, пабялею***<br>
***І павалюся на зямлю.***

Яна сапраўды здзівіла ўсіх, калі — прыгожая і энергічная — у росквіце свайго таленту нечакана адышла ад нас. Лёс не даў Еўдакіі Лось даўгалецця. Яна "паваліласся" пад цяжарам штодзённых трывог, расчараванняў і крыўд. Толькі сорак восем гадоў пражыла яна — дачка нішчымніцы і ліхалецця, чыё чуйнае сэрца ў самым пачатку жыцця апяклі "суровы попел Брэста і Хатыні, салома аўдавелая страхі". Яе зямны шлях доўжыўся ад сакавіка 1929 г. да ліпеня 1977 г. Першы зборнік яе вершаў называўся "Сакавік", а яе апошняя прыжыццёвая паэтычная кніга мела назву "Лірыка ліпеня". Ад "сакавіка да ліпеня", ад ранняй вясны да спелага лета доўжыўся яе творчы шлях...

На свята паэзіі Еўдакіі Лось прыехалі таксама намесніца начальніка Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама Ірына Козіна, сакратар Віцебскага аддзялення СБП Алег Салтук, пісьменнікі Барыс Беляжэнка, Франц Сіўко, Алесь Жыгуноў і маладая паэтэса з Глыбокага Святлана Новік. Добразычліва і гасцінна сустракалі гасцей свята старшыня Ушацкага райвыканкама Канстанцін Пацепка, яго намесніца Вольга Карчэўская, загадчыца аддзела культуры Таццяна Малак і паэтэса-ўшачанка Галіна Варатынская. Старшыня райвыканкама расказаў пра дасягненні свайго раёна і пра тое, што зроблена ў раёне для ўвекавечвання памяці Еўдакіі Лось, а Навум Гальпяровіч — пра планы і клопаты пісьменніцкага саюза. Выступую на сустрэчы ў райвыканкаме і Алег Салтук, які праінфармаваў прысутных, што вечары памяці Еўдакіі Лось ужо адбыліся ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце і абласным літаратурным музеі, а перад ад'ездам ва Ушачы пісьменнікі-віцябляне прынеслі кветкі да помніка Еўдакіі Лось ля абласной бібліятэкі. Марыя ЯРАШЭВІЧ і Марыя КЛІМОВІЧ падзякавалі кіраўніцтву раёна за добрую памяць пра сваю славутую сястру.

Надзвычай насычаны і змястоўны план свята паэзіі Еўдакіі Лось прапанавалі нам ушачане. Цёплымі і цікавымі былі сустрэчы з настаўнікамі і вучнямі Вялікадолецкай сярэдняй школы імя народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі, якую перад вайной закончыў брат Еўдакіі Лось Сяргей, з жыхарамі вёскі Старына, дзе нарадзілася будучая паэтэса, і з работнікамі Ушацкай раённай бібліятэкі імя Еўдакіі Лось.

Вучні Вялікадолецкай школы парадавалі нас кампазіцыяй па вершах Еўдакіі Лось "Сябры заўважылі, што з вершаў усё вядома пра мяне". Жыхары вёскі Старына, якія ведалі паэтэсу, падзяліліся ўспамінамі пра яе.

Гарачым чаем з пірагом і варэннем сагрэлі нас работнікі бібліятэкі імя Еўдакіі Лось на чале з дырэктарам Ірынай Урбан, якія рупліва захоўваюць памяць па пісьменніцы Ушаччыны і іх кнігі — у тым ліку і апошнюю кнігу Еўдакіі Лось "І каласуе даўгалецце...", што выйшла ў канцы мінулага года ў "Залатой серыі паэзіі ХХ стагоддзя".

Апафеозам гэтага свята паэзіі стаў літаратурна-музычны вечар у раённым Доме культуры, які ўвасрасіў ува мне веру, што людзі, нягледзячы на наш складаны і няпэўны час, маюць патрэбу не толькі ў надзённым, але і ў духоўным хлебе.

На працягу ўсяго свята паэзіі Еўдакіі Лось ва ўзаемаадносінах паміж кіраўнікамі раёна і гасцямі свята панавалі ўзаемапавага і ўзаемадапамога. Вось бы так заўсёды і паўсюдна!

Дзе б ні былі мы — з намі была Еўдакія Лось. Яна не памерла. Яна жыве ў сваіх вершах і паэмах, жыве ў памяці народнай, жыве ў назвах вуліцы і бібліятэкі ва Ушачах. "І каласуе даўгалецце" паэтэсы, якая адчувала "гадамі ў сэрцы боль народны".

Цэлы дзень і ўвесь вечар ва Ушачах ішоў снег, мяла завея. А мне праз гэтую снежную віхуру чуўся голас Еўдакіі Лось:

***Сакавіцкая завея***<br>
***Вее сконам, ды не мне!***

**Уладзімір СКАРЫНКІН**





## Сустрэча з вайскоўцамі

У нядзелю група пісьменнікаў наведала вайскоўцаў ва Уруччы. Гэта была адна з тых паездак, якія запланаваны ваенна-шэфскай камісіяй СБП да 55-ай гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У воінскіх падраздзяленнях выступілі Мікола Аўрамчык, Алесь Махнач, Анатоль Сульянаў і Яўген Каршукоў.

Салдаты і афіцэры гасцінна сустрэлі пісьменнікаў, цікавіліся беларускай літаратурай, задавалі самыя розныя пытанні аб грамадска-палітычным становішчы ў нашай краіне і краінах СНД.

Пісьменнікаў прыняў камандзір 120 -ай гвардзейскай мотастралковай дывізіі Ю. Меранцоў. Ён прапанаваў у бліжэйшы час правесці "круглы стол" з удзелам шырокага кола літаратараў, які дасць магчымасць ім бліжэй пазнаёміцца з жыццём і бытам вайскоўцаў.

Я. ІВАНОЎ

## У гарадах-спарышах

9—11 сакавіка ў Полацку і Наваполацку прайшлі літаратурныя сустрэчы пад агульнай назвай "Міцкевіч, Пушкін і Беларусь", арганізаваныя мясцовай філіяй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

У гарадах-спарышах над Дзвіной пабывалі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, паэт і старшыня Рады ТБМ Генадзь Бураўкін, паэт і галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, перакладчыкі Васіль Сёмуха і Лявон Баршчэўскі, празаік Уладзімір Арлоў, паэт і парадыст Міхась Скобла, бард Зміцер Бартосік.

За тры дні адбылося паўтара дзесятка сустрэч у школах, прафесійна-тэхнічных і музычных вучэльнях, з супрацоўнікамі полацкіх музеяў, са студэнтамі Наваполацкага універсітэта.

Мясцовыя ўлады дэманстратыўна ўхіліліся ад удзелу ў сустрэчах. Атрымліваецца, што падчас сваіх двухсотгадовых юбілеяў Міцкевіч і Пушкін з ласкі нейкага чыноўніка патрапілі ў апазіцыянеры...

С. ПОЛАЦКІ

## Беларускі балет у Іспаніі

На пачатку сакавіка выправіўся ў гастрольную вандроўку па Іспаніі Нацыянальны тэатр балета Беларусі пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева. Вядома, што яшчэ ў далёкім 1985 годзе спектаклямі "Лебядзінае возера", "Шчаўкунчык", "Спартак" і "Кармэн-сюіта" нашы артысты ўпершыню пазнаёмілі іспанскага гледача з беларускім харэаграфічным мастацтвам. Затым яшчэ двойчы (у 1990 і 1994 гадах) наша балетная трупа гастралявала ў гэтай краіне. І вось зноў Іспанія. На гастрольных афішах — балет П. Чайкоўскага "Лебядзінае возера" і "Спартак" А. Хачатурана з удзелам яркіх зорак беларускага балета: Кацярыны Фадзеевай, Веніяміна Захарава, Руслана Мініна, Уладзіміра Даўгіх.

В. САВІЦКІ

## З'езд ТБМ — 17 красавіка

ЗВАРОТ САКРАТАРЫЯТА ТБМ ДА ЎСІХ РАЁННЫХ, ГАРАДСКІХ І АБЛАСНЫХ РАДАЎ І СУПОЛАК ТБМ

Сакратарыят нагадвае, што тэрмін вылучэння дэлегатаў на з'езд ТБМ (17 красавіка) заканчваецца 1 красавіка 1999 г. Просьба — дасылаць выпіскі з пратаколаў паседжанняў з прозвішчамі дэлегаваных вамі асоб да 1 красавіка.

Нагадваем квоту для дэлегатаў у залежнасці ад колькаснага складу суполкі: ад 10 чалавек — 1 дэлегат, ад 10—30 чалавек — 2 дэлегаты, ад 30 і больш — 3 дэлегаты.

Да 13 красавіка ўсім абласным, гарадскім і раённым радам неабходна даслаць у сакратарыят спісы ўсіх сяброў мясцовых суполак і рад (прозвішча, імя, імя па бацьку), а таксама запоўненыя і падпісаныя скарбовыя лісты са складкамі за 1998 год (з подпісам кожнага сябра суполкі).

Нагадваем, што тая суполка ці рада, якая не вышле неабходную дакументацыю ў акрэслены тэрмін, будзе зліквідавана, а яе дэлегаты не будуць дапушчаны на з'езд.

Усю дакументацыю і лісты дасылаць на адрас: *220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.*

ВЫСТАВЫ

# "Пагоня" напрадвесні юбілею...

Юбілей суполкі "Пагоня" сапраўды маецца на ўвазе, але адбудзецца ён у будучым годзе. Сёлета ж "Пагоня" адзначае сваёй новай выставай, што экспануецца ў Нацыянальнай мастацкай галерэі, някруглыя даты, дзевятую гадавіну свайго заснавання (што, зрэшты, не так ужо мала) і 81-ю гадавіну абвяшчэння БНР. Зрэшты, назва "Адраджэнне-99" і адкрыццё выставы блізу даты 25 сакавіка сведчаць самі за сябе: палітычная частка праграмы суполкі выконваецца. Ёй аддадзена належнае ў прамовах Ніла Гілевіча і Анатоля Грыцкевіча, у слове старшыні Саюза мастакоў Генадзя Буралкіна і новага старшыні суполкі "Пагоня" Міколы Купавы.

Што ж датычыць непасрэдна экспазіцыі, то водгукі тут былі самыя розныя. Але да гэтай суполкі з боку мастакоўскага асяроддзя заўжды было прыхільнае стаўленне. І таму, што яе сябрамі стала большая частка аднадумцаў, дый ці варта крытыкаваць жаданне мастакоў ускалыхнуць і "разбудзіць" грамадства, падзвігнуць яго на спрэчкі? Да таго ж суполка штогод "адкрывала" і прадстаўляла новыя маладыя імёны, выставіцца разам з ёю стала прэстыжным. На жаль, традыцыі — рэч добрая, але задужа каварная. Бо ўзнікае натуральнае жаданне параўнаць, прабачце, "адраджэнне-95 ці 96" з "адраджэннем-99"...

На мінулагодняй выставе, здаецца мне, намячалася ў суполкі новая тэндэнцыя — яўнае адыходжанне ад прамалінейнай палітычнасці. Так, часы цяпер такія, што не дазваляюць трымацца былога знешняга эпатажу, прапаноўваць гледачам смелыя, ля дазволенай мяжы, перформенсы і інсталяцыі. На кожнай экспазіцыі ідзе дасціпны агляд міністэрскай "камісіі" і заўжды ёсць перасцярога, што работы будуць проста зняты. І тым не менш на новай выставе суполкі традыцыйна радуюць вока востра адточаныя карыкатуры Алега Карповіча, абавязкова натрапіш на схаваную ад першых адкрытых позіркаў інсталяцыю — "Мышалоўка" з бясплатным расійскім сырам — ды вышукаеш сярод экспазіцыі нешта кшталту "Северо-Западного края имени Суворова" Генрыха Ціхановіча ("Благое прадчуванне"). Але зірнём на праблему з іншага боку: усе гэтыя акцыі адсоўвалі на другі план саміх мастакоў. Калі ж апошнім часам па ўсіх гэтых прычынах мастацтва стала найпершым і асноўным, калі былы нязменны старшыня і заснавальнік "Пагоні" Алесь Марачкін сам і вельмі жорстка заняўся адборам экспазіцый, выставы суполкі сталі найперш мастацкай з'явай, дзе выхопліваліся яркія і разнастайныя грані творчасці кожнага яе сябра. Выставы сталі рознабаковым і аб'ектыўным адлюстраваннем сітуацыі ў нашым сучасным мастацтве. Апошнюю экспазіцыю суполка рыхтавала пад кіраўніцтвам новага старшыні. І пытанне, у якім накірунку будзе надалей працаваць гэта мастакоўскае аб'яднанне, застаецца адкрытым.

Бясспрэчна, суполка "зарабіла" за гады свайго існавання аб'ектыўны аўтарытэт, бо нават без рэкламы на яе адкрыццё як заўжды сабралася шмат народу. Натуральна, яна можа пахваліцца набыткамі і стабільнасцю свайго складу. І на сённяшняй выставе прадстаўлены маладыя прэтэндэнты на ўступленне ў яе шэрагі. Канешне, кожнае адкрыццё экспазіцыі — свята. Калі мастакі ва ўмовах, якія не спрыяюць ні продажу іх работ, ні сапраўднай цікаўнасці гледача і належнай ацэнцы іх творчасці, усё ж працуюць, з ахвотай і захапленнем апавядаюць, як у лядоўні Нацыянальнай мастацкай галерэі развешвалі свае творы, значыцца жыццё віруе, значыцца развіццё нашай культуры і мастацтва не спынілася.

Але сёлетняя выстава пакінула асабіста ў мяне ўсё ж пачуццё нейкай няззладнасці, хаця сустрэча са старым добрым сябрам заўжды прыемная. Многае паасобку выклікае сапраўднае захапленне. Прыемна прачытаць вядомыя імёны і паўзірацца ў работы знаёмых майстроў. Вось улюбёныя Р. Сітніцай штрыхаваныя муры ("Крывіцкая мекка I—III"), загадкавыя гістарычныя фантазіі Ю. Хілько ("Пожня", "Без назвы"), паэтычныя абрысы жаночых постацей П. Багданава ("Зорны збор", "Зімовае шэсце"), нязменныя сюррэалістычныя тэмы Г. Скрыпнічэнкі ("З нараджэннем", "А ці не час табе лахі пад пахі"). Вышукваеш па экспазіцыі, як і раней, чым парадуе А. Пушкін ("Рукі, якія моцна трымаюць сякеру"), пазнаеш змрочны хаос вязлых жывапісных палотнаў А. Родзіна ("Мае рэмінісцэнцыі"), мазаічнасць мазкоў А. Мацівіча ("Лілень", "Люда"), вытанчанасць пейзажаў Я. Батальёнка і У. Сулкоўскага. Выстава прапанавала гледачу на гэты раз многа партрэтаў, але асабліва запомнілася мне работа Алеся Марачкіна — партрэт Яўгена Куліка, просты на першы погляд, без эфектаў і жывапісных выкрунтасаў. Адзінае ўпрыгожанне, яркая каляровая кропка, — сцяжок на доўгай-доўгай палачцы, што нясе ў руках Я. Кулік. Алесь Антонавіч падкрэсліў, схапіў сутнасць свайго сябра, моцнага ўнутранай прамалінейнасцю. Прыгожа глядзіцца і частка дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Яна сама па сабе цікавая вырабамі керамістаў, габеленамі, якіх сапраўды яўна паменшала, вырабамі са скуры, рэканструкцыяй латніка XVII ст. (Г. Крываблоцкай, А. Ярмоленкі, М. Бацюковай, С. Ліфанава і іншых).

Суполка сваімі выставамі і акцыямі заўжды не столькі абвяшчала і дэкларавала, але і сапраўды прапаноўвала навізну. Навізну смелых мастацкіх акцый і мастакоўскіх рашэнняў, канцэпцый экспазіцый вакол нацыянальнай тэматыкі, заўжды давала стрыжань, на якім трымаліся самі па сабе мастакоўскія работы. Прынамсі, выставы суполкі былі нясумныя. Палымяна гучала назва выставы, гучала і сама па сабе экспазіцыя. Нечакана высвечваліся новыя накірункі ў творчасці даўно вядомых майстроў, падрыхтаваныя работы не выглядалі сачыненнем на зададзеную тэматыку.

Бянтэжыць, што экспазіцыя, прадстаўленая на выставе "Адраджэнне-99", набыла чаканую цэльнасць, грунтоўнасць, але магла б атрымаць большую вастрыню. Так, бурыцца стэрэатып успрымання "Пагоні" як "палітызаванага аб'яднання". І гэта суполцы толькі на карысць. Але назва выставы ва ўмовах сённяшняй сітуацыі гучыць больш экспрэсіўна, чым прапаноўвае нам экспазіцыя са спакойнай роўнасцю твораў. І тое, што асноўныя работы на выставе ўтрымліваюць высокую мастацкую планку — адзнака прафесійнасці саміх мастакоў, сяброў суполкі. Самі па сабе многія работы маглі б скласці маленькія яскравыя выставы. Многія мастакі сцвердзілі сябе тым, што іх работы і манера пісьма сталі пазнавальныя. Хацелася б толькі больш уяўна бачыць тую мастацкую кропку, якая б аб'яднала гэтыя работы вакол адзінай заяўленай "Пагоняй" тэмы — адраджэнне і яго прадвесне.

Тым не менш віншуем суполку з яе чарговай выставаю і з тым, што яна ўсё ж такі адбылася ў звыклы для яе час.

**Наталля ЖОГЛА**

*Фота А. ПРУПАСА*



*Старшыня суполкі "Пагоня" М. КУПАВА на адкрыцці выставы.*



*Р. КІЙКО. "Роздум".*



*С. РЫМАШЭЎСКІ. "Мой анёл".*



*Г. СКРЫПНІЧЭНКА. "А ці не час табе лахі пад пахі".*

АДГАЛОСКІ

# Кансерватыўнасць вёскі — саюзнік рэформы

***У мінулым нумары пад рубрыкай "Меркаванне" "ЛіМ" змясціў артыкул Ігната Дуброўскага "Дай галоднаму вуду, а не рыбу". Уважлівы чытач памятае, што гаворка ішла пра рэформу нашай шматпакутнай сельскай гаспадаркі... Сёння мы працягваем гэтую тэму. Артыкул былога старшыні калгаса "Ленінец" калі і не абвяргае пазіцыю Дуброўскага, дык досыць істотна ад яе розніцца. Але хто сказаў, што сутыкненне розных думак у пошуках жыццёва важнай ісціны — рэч бессэнсоўная і безвыніковая?***

Вёска заўжды адрознівалася кансерватыўным укладам свайго жыцця. На працягу стагоддзяў тут сеюць, збіраюць ураджай, даглядаюць жывёлу, шануюць кожную хвіліну спрыяльнага для хлеробства надвор'я. Побыт селяніна — як сядзіба: хата, гаспадарчыя пабудовы, склеп, студня. Традыцыйны вясковец не ўяўляе свайго жыцця без уласнага кавалка зямлі, без жывёлы, птушкі, гародніны, бульбы...

Горад — зусім іншае. Бытавы прагрэс і сервіс, дынамізм існавання выпрацавалі вобраз чалавека, які сілай сваёй працы, прафесіяналізму і таленту актыўна змагаецца за набыццё максімуму жыццёвых выгод. Дасягнуць гэтага можна толькі пры дапамозе грошай. Патомны гараджанін, пазбаўлены уласных сродкаў вытворчасці, у пераважнай большасці вырашыў для сябе гэтую задачу — стаў наёмным работнікам ва ўсёй разнастайнасці запатрабаванняў грамадства: ад сталявара да артыста.

Як памыліліся бальшавікі! Праводзячы поўнае адзяржаўленне прамысловасці, яны захавалі катэгорыю "зарплата", але ліквідавалі дзейсныя дэмакратычныя інстытуты, інакш кажучы, перацягвалі горад у працоўны лагер. Гараджане, хоць і не без наракання, пракаўтнулі гэтую "нажыўку". І тым самым далі магчымасць дзяржаўнай казне бескантрольна распараджацца вынікамі іх працы. Аднак застаўся селянін — уладальнік зямлі, сродкаў вытворчасці і вытваранай прадукцыі. Бальшавікі не сталі абцяжарваць сябе мудрагелістымі падатковымі законамі. Яны вырашылі, на ўзор горада, стварыць "працоўныя калектывы-калгасы" і ў вёсцы. Нажыўка тая ж — "заробатная плата", спачатку ў выглядзе працадзён, а потым і грашовая. Але з-за таго, што ружовая мара бальшавікоў аб сонечных аграгарадах так і засталася марай, а сімвалічны заробак у вёсцы не забяспечваў нават прахарчавання, селянін яшчэ мацней прыкіпеў да прысядзібных "сотак", уласнай хаты і каровы...

Да 90-га года ўсім стала зразумелым, што селянін лічыць калгасы і саўгасы толькі прыпрацоўкай да галоўнай працы на уласным падвор'і. Такім чынам, калі ў гараджан заработная плата — асноўны даход, які забяспечвае пражыццё, то селянін забяспечвае сябе, галоўным чынам, за кошт сваёй гаспадаркі. За калгас і саўгас ён трымаецца толькі каб не нашкодзіць сваёй сям'і. Бо могуць адмовіць у многім: у нарыхтоўцы сена, саломы, паліва, не выпішуць зерня, не дадуць каня, ды ці мала яшчэ іншых "мер" у дзяржавы...

Парадаксальна, але факт. Зарплата для вяскоўца — толькі "адыходны промысел". А прычына адсутнасці сацыяльна-эканамічнага грунту калгасна-саўгаснай вытворчасці крыецца ў многавяковым індывідуальным самазабеспячэнні селяніна за кошт уласных сіл і сродкаў.

У апошнія гады рэнтабельнасць калгасна-саўгаснай вытворчасці няўхільна падае, а інфляцыя няспынна расце, зводзячы на "нішто" сялянскую працу. Кіраўнікі і спецыялісты многіх гаспадарак у разгубленасці, нават заклік прыдумалі: "Не дадзім развaліць калгасы і саўгасы, фермеры нас не накормяць!".

Калісьці ў старажытнасці таксама не ўсё добра было з дастаткам у ежы. Але ў 1566 годзе сабраліся нашы прашчуры на вялікакняжацкі сейм і вырашылі даць права землеробу і землекарыстальніку распараджацца сваёй рухомай і нерухомай маёмасцю, забаранілі без суда канфіскоўваць уласнасць. А каб дзяржаўная казна пастаянна багацела, увялі "чыншы" (падаткі). Ужо на пачатку наступнага стагоддзя ў Вялікім княстве Літоўскім удзельная вага выручкі ад продажу зерня, грэчкі, жывёлы склала звыш 30 працэнтаў ад усіх грашовых паступленняў. Магілёўскіх, полацкіх, віцебскіх, слуцкіх купцоў сталі сустракаць у Парыжы як дарагіх гасцей.

Чаму ж мы цяпер так збяднелі, хоць у кожным калгасе і саўгасе да 40 чалавек з вышэйшай адукацыяй? Ды і па сённяшняй канстытуцыі ў кіраўнікоў і спецыялістаў ёсць права на шырокі манёўр у сацыяльна-эканамічным удасканаленні калгасна-саўгаснай вытворчасці. Аднак не, штосьці не атрымліваецца. І не атрымаецца, пакуль у кожнага селяніна не з'явіцца глыбокі эканамічны інтарэс у сваёй працы для ўласнай выгоды. Не будзе гэтага — не дапаможа нам і рынкавы сацыялізм.

Што ж рабіць? Рызыкну выказаць канкрэтныя прапановы, зыходзячы з сусветнай практыкі сельскагаспадарчай дзейнасці. Нічога новага не ўзгадаю: арэнда, акцыяніраванне, долевы ўдзел. Каб селянін сапраўды стаў калі не ўладальнікам вынікаў сваёй працы, дык хаця б саўладальнікам. Пачынаць варта з абмеркавання і выбару ў калектывах формы ўласнасці. Калі яна дзяржаўная, то лепей калгас ці саўгас узяць у арэнду не менш чым на сто гадоў. Калі члены калектыву збіраюцца ў перспектыве ўзяць зямлю і сродкі вытворчасці ў прыватную ўласнасць, то мэтазгодна стварыць на базе гаспадаркі закрытае акцыянернае таварыства, папярэдне заключыўшы юрыдычныя дагаворы з сялянамі састарэлага ўзросту і пенсіянерамі аб тым, што яны свае акцыі могуць прадаваць толькі праўленню таварыства пры ўмове, што яно забяспечыць ім дастойную старасць. Нашчадкі пажылых людзей (не калгаснікі) не застануцца пакрыўджанымі, бо атрымаюць капітал ад продажу акцый. Папаўненне працоўных рэсурсаў у закрытых акцыянерных таварыствах ажыццяўляецца на аснове найму работнікаў па кантракце.

У арэндным, акцыянерным і долевым калектывах эканамічная катэгорыя "заробатная плата" губляе сваё значэнне і замяняецца сялянскім даходам, які разлічваецца па астаткавым прынцыпе — гадавая выручка мінус выдаткі вытворчасці, маркетынгу і падаткі. Такім чынам дзейнасць гэтых калектываў накіроўваецца на атрыманне даходу, як гаспадаркі ў цэлым, так і кожным работнікам, пераўтвараецца ў эканамічна пабудаванае прадпрымальніцтва-бізнес.

Трэба звярнуць увагу на існаванне самых разнастайных методык пераходу да рынкавых форм гаспадарання. Неабходна браць зразумелыя людзям методыкі, дзе пачатковымі момантамі з'яўляюцца кошт асноўных сродкаў вытворчасці, крэдыты і каэфіцыент працоўнага ўдзелу кожнага працаўніка. Толькі гэтыя паказчыкі з'яўляюцца першаснымі для пачатковай работы партнёраў у бізнесе.

На Беларусі дзве з паловай тысячы калгасаў і саўгасаў эканамічна "самаразмеркаваліся" на тры групы: адносна заможныя гаспадаркі, серадлнякі і зусім слабыя. Моцныя гаспадаркі могуць захаваць традыцыйную сістэму вытворчых адносін. Але, лічу, ім выгадней пераўтварыцца ў арэндныя калектывы.

Серадлнякі жывуць цяпер цяжка і не заўсёды зводзяць канцы з канцамі. Гэтую групу гаспадарак выведзе з эканамічных правалаў толькі арэнда не меней чым на сто гадоў і закрытыя акцыянерныя таварыствы. Кіраўнікі такіх гаспадарак, як правіла, становяцца ўладальнікамі кантрольнага пакета акцый. Праз час, пры поўным выкупе ў дзяржавы зямлі, а ў партнёраў — рухомай і нерухомай маёмасці, зямля і сродкі вытворчасці могуць перайсці ў прыватную ўласнасць. У такім выпадку не выключана з'яўленне магутнага прыватнага сектара на зямлі і свядомых наёмных работнікаў-сялян, якія прадалі свае акцыі альбо прыбылі "збоку".

У калгасах, саўгасах — банкрутах характар вытворчых адносін павінен быць менш рэгламентаваным і вольным у прадпрымальнасці. Напрыклад, няма каму даглядаць грамадскую жывёлу, паспрабуйце размясціць яе ў дварах сялян і атрымаць узаемную выгоду... Гэтая група калгасаў і саўгасаў з'явіцца пастаўшчыком дробнага сямейнага фермерства.

Пры гнуткіх рынкавых падыходах дзяржавы да рэфармавання сацыяльна-эканамічных і вытворчых адносін калгасаў і саўгасаў з'явяцца канкурэнтаздольныя арэндныя, акцыянерныя калектывы і моцнае сямейнае фермерства, якія захаваюць перавагі буйных гаспадарак і арганічна ўпішуцца ў сусветны рынкавы механізм. У нейкай ступені захаваецца і сельскагаспадарчая вертыкаль. Толькі яна ўжо будзе працаваць у бізнесе — забяспечваць гаспадаркі ўсім неабходным, займацца рэалізацыяй гатовай прадукцыі, а пры неабходнасці — дапамагаць сялянам кваліфікаванай парадай. Словам, зоймецца патрэбнай і карыснай ў бізнесе пасрэдніцкай работай.

**Анатоль КАЛАЧОЎ,**
**кандыдат эканамічных навук, дацэнт Беларускага аграрнага-тэхнічнага універсітэта, былы старшыня калгаса "Ленінец" Капыльскага раёна**



*Фота А. Мацюша*

НАДЗЁННАЕ

# Даеш "рубзай"!

## ПЛЫНЬ СВЯДОМАСЦІ

У аддзеле спіртнога — чалавек сто. Стаяць выключна мужчыны, якія часта тусуюцца тут, спрачаюцца, радуюцца, абменьваюцца заўвагамі з сябрамі. Самымі непрыемнымі выглядаюць спрэчкі з прадаўшчыцай. То пакупніку не дадала рэшты, то не тую бутэльку падала, бо яна за ноч даражэйшая стала. У такіх людзей кішэні дзіравыя — грошы знікаюць незаўважна. Прадаўшчыца траціць замест адной хвіліны на пакупніка — цэлых тры. Я засумняваўся, што атрымаю бутэльку "Белавежскай", бо да канца работы крамы засталася адна гадзіна. Стала шкада, што "Белавежская" мае гэтак шмат прыхільнікаў. Атрута ж для цела і душы! Але беларусы вытрымліваюць і не такую!

Еду ў тралейбусе. А насупраць — такая прыгажуня, што вачэй не адарваць. На пластыкавай сумцы — папярэджанне: Beautu is dangerous. Лягчэй жыць, калі не ведаеш. Замест рускай мовы стала папулярная англійская. "Прыгажосць небяспечная", — паспрабаваў я пераглумачыць надпіс. Альбо "Прыгажуня небяспечная". Гэта як для каго...

Чаго толькі няма ва універмагу! Штучная ёлка з убранствам — 150 мільёнаў зайцоў. Касцюм — 3—4 мільёны, шапка — 8—30 мільёнаў, губная памада на выбар — ад 150 тысяч да 2 мільёнаў! Мы жывём у краіне мільянераў. Без жартаў. Мільянеры зарабляюць мільёны: ад 3 да 8 мільёнаў (я пералічыў пенсіянераў, настаўнікаў, урачоў, сярэдніх камерсантаў). Час такі: заўсёды нечага не хапае. Цяпер няма яек. Масла — па спісе. Смятана — з перабоямі. Цукар прадаецца рэдка. Не ўсім хапае. Па сутнасці, мы мільянеры-жабракі! Параўнанні мала радуюць. У суседняй Польшчы за сёлетнюю зіму замерзла чалавек дваццаць. Тлумачэнні такія: былі ў п'яным стане. Нашы жабракі не замярзаюць. Думаецца, што запасы не з'едзены да канца. Толькі чаму больш беларусаў паміраe, чым нараджаецца? Анамалія? Магчыма. Але не хвалюйцеся: калі мільёна беларусаў не далічымся — прыедуць людзі з Расіі. На тое яна братняя. Але там заробак не выплаціцi яшчэ за мінулы год. І людзі жывуць жа! Жывучы народ. Нам прыйдзецца браць прыклад.

Цяпер усе трывожныя пытанні вырашаюцца ля тэлевізара. Тут узнікае адчуванне казак Шэхеразады. Абед у Макдональда, вячэра са Снікерсам, машына на сонечнай энергіі, презерватыў супраць СНІДа... Калі вайна, то касмічная. Як у Лема! Надзейны банк — у Брусэлі. Новая валюта — еўра, што можа пацягацца з доларам. Прышчэпліваем беларускага "зайца" да рускага "рубля", і атрымліваем гібрыд: не то "рубзай", не то "зайруб". Вытворы складаных слоў выглядаюць няўдалымі, але з часам падшліфуюцца. Адзін еўра будзе каштаваць, напрыклад, 1,16 долара, 0,01 рубля і 0,0001 "зайца". Адчувальна адстаем ад Еўропы.

Чым менш масла і чым даражэйшая гарэлка, тым больш прапаноў для радыкальных рэформ. Мой сусед, што насупраць, запрапанаваў прадаць Дразды (будзе валюта), пабудаваць Салаўі (недзе ў раёне Лагойска) ці Вавёрачнае (пад Ракавам), дамовіцца з НАТА і скараціць армію і міліцыю на тры чвэрці. Сусед злева — не згодны. Было шмат войска і атамных бомбаў — мы былі разам, і з намі лічыліся. Сусед справа супраць: цяпер не ведаюць, куды дзець тыя боегалоўкі — ні прадаць, ні аддаць. Узарваць — паўсвета запаганіць. Так што — безатамная зона! Лепш аддаць зямлю сялянам бясплатна, прадаць банкрутуючыя прадпрыемствы танна. Нават чужынцам — не павязуць яны такое ламачча за мяжу... Аддаць гандаль гандлярам, толькі б яны забяспечылі прыплыў грошай, грошай, вартасных грошай...

Разважанні ля тэлевізара тым і канчаюцца. Паслухалі, пагладзелі, паспачувалі. У мястэчку Н. адбылася трагедыя. Прадпрымальнік выехаў у суседні горад па справах на чатыры дні, але справіўся за тры. Дома ён знайшоў мужчыну побач з жонкай. Разгневаны гаспадар застрэліў жонку і яе каханка. Сусед злева: трапіць пад расстрэл. Сусед справа: вышэйшую меру пакарання трэба змяніць пажыццёвым зняволеннем, за гэта нават Ватыкан. Сусед, што насупраць: дрэнны прадпрымальнік, калі не зарабіў сабе на лепшую прыгоду... Я запярэчыў: яны ж людзі, як і Клінтан... Заспрачаліся: у каго каханне было больш гарачае. Дамовіліся, што ў Берыі, бо ён — харызматычны тып. І сышліся на тым, што Ленін, Сталін, Гітлер, Ельцын і Петрасян — духі нашага часу. Духі, кажу, ёсць дрэнныя і добрыя. Якія ж яны?

На экране з'явіліся кадры бойкі трох мужчын, за ёй назірае хлапчанё. У яго пытаюцца: "Чаму б'юцца мужчыны?" — "З-за мяне! — адказвае хлапчанё. — Бо высвятляюць, чый я!" Анекдатычная падзея нагадала пытанне пра ўз'яднанне Беларусі і Расіі. Калі яно адбудзецца, гісторыкі запытаюцца: чыё дзіця — Лукашэнкі, Ельцына ці Зюганава? Упэўнены, што не прыпомняць царыцу Кацярыну Вялікую і караля Станіслава Панятоўскага.

Не ведаю, ці маюць гэтыя думкі-развагі якую-небудзь падставу, ці патрэбна сучаснаму чалавеку малітва супраць сучасных духаў. І ўсё ж... Магутны Божа! Дай нашым людзям цвярозы розум, прамую мэту і паспрыяй поспеху ў працы. Абарані ад тых сяброў, што люд наш не ўважаюць і душаць у абдымках. О, Беларусь! Любімы край! Радасць і слёзы, жыццё маё...

**Іосіф ВІНЦЭНТОВІЧ**
*г. Віцебск*



## ЧАСАПІС

### "Развітальная аповесць"

**Новая кніга Вячаслава Адамчыка "Развітальная аповесць", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", атрымала сваю назву па аднайменным творы. Праўда, у часопісным варыянце ён называўся "Кілавы д'ябал" (такую мянушку мае адзін з персанажаў аповесці). І вось цяпер не "Кілавы д'ябал", а "Развітальная аповесць" — развітанне галоўнага героя твора Гэнрыка Самца, "маладжавага, з лёгкім серабрыстым інеем на чорнай ганарыстай чупрыне" з тым "далёкім і нібы адцураным і забытым усімі паветовым гарадком з шара-блочнымі, як усюды,**



**мікрараёнамі і даўнейшымі, яшчэ не знесенымі — асабліва ў цэнтры — драўлянымі дамамі з двухскатнымі дахамі і эліпснымі ў франтонах вокнамі", дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады і дзе цяпер засталіся магілы бацькоў.**

**Адначасова гэта і развітанне з жыццём колішнім, якое ж, зразумела, успрымалася Гэнрыкам інакш, чым цяпер, калі ён шмат перажыў і намала пабачыў.**

**Тэма, як бачым, не такая і новая. Яшчэ адзін так званы гараджанін першага пакалення, якога можна знайсці ў творах не аднаго пісьменніка, з пакалення тых, да якога належыць аўтар. Але Гэнрык Самец, пры ўважлівым знаёмстве з ім, вельмі ж непадобны на сваіх "двайнікоў". Ужо хоць бы таму, што ён не з вёскі, а з "паветовага гарадка". Дый не сказаць, каб яму надта сніліся "сена на асфальце", як героям з аднайменнай кнігі Міхася Стральцова. Гэнрык знаходзіцца ў іншым "часавым вымярэнні". Гады напісання "Развітальнай аповесці" — 1993—1994 — не маглі не паўплываць на аўтарскае стаўленне да падзей, што адбываліся тады, калі Гэнрык Самец яшчэ жыў у родным мястэчку. Перад чытачом паўстае праўдзівае адлюстраванне жыцця ва ўмовах, калі панавала насілле над асобай. Колішняе болем адклікаецца ў душы галоўнага героя. Гэнрык не можа не разумець, што там, дзе прайшлі яго лепшыя гады, ён чужы і нікому непатрэбны. Але не менш страшна, што яго ніхто не можа па-сапраўднаму зразумець. І ён сам таксама не ў стане знайсці паразуменне ў асяродку, у якім некалі быў сваім. Не знайшоўшы душэўнага паратунку на радзіме, ён пакідае яе са скрухай: "Глыбокі, нібы перадсмяротны ўздых вырваўся з Самцовых грудзей. Першы раз гэтак самотна і адчужана-абыякава пакідаў ён бацькаўшчыну, неспадзявана чуючы ў душы хвіліну ўжо вечнага развітання... Утрапёны, абязвечаны і ўражаны тым, што ўбачылася і перажылося ў кароткі час, Гэнрык Самец уцякаў ад сваей адзіноты і адчужанасці, ад страху перад чужымі магілкамі і гнятлівага адчування свае блізкае смерці, але хіба ад усяго наканаванага ўцячы? Не!"**

**Увайшлі ў кнігу і апавяданні "Сцежка на расходніку", "Вочы, поўныя жыцця і страху" і іншыя, у якіх В. Адамчык таксама па-свойму асэнсоўвае жыццё ў былой Заходняй Беларусі. Па-грамадзянску актыўным і бескампрамісным роздумам напоўнены і запісы "Берлінскі дзённік" і "На крылах смутку і адзіноты". Апошнія пазначаны як "старонкі з дзённікаў", а з'явіліся ў прамежку 1962—1993 гадоў. Больш раннія — часам і "ні пра што", у пазнейшых — разгорнуты роздум. І пра літаратуру, і пра сучасныя палітычныя працэсы, што адбываюцца ў грамадстве. І пра месца творчай інтэлігенцыі ў іх.**

**І, перш чым паставіць апошнюю кропку, хацелася б сказаць вось пра што. Кніга "Развітальная аповесць" вылучаецца яшчэ і тым, што набрана буйным шрыфтам, паміж радкамі інтэрвалы куды большыя, чым звычайна. Чытаючы яе, не трэба "сляпіцца". І тут трэба сказаць "дзякуй" выдавецтву "Літаратура", якое набрала рукапіс і звярстала на сваёй настольна-выдавецкай сістэме.**

**Лявон ЮРЧЫК**

## КНІГАРНЯ

# "І толькі сэрца стук..."

Добрую справу распачаў Л. Галубовіч, друкуючы на старонках "ЛіМа" творы правінцыйных аўтараў. Вядома, можна сказаць, што не ўсё, што пішацца, павінна друкавацца, што неабходна трымаць узровень і г. д. Але сёння, думаецца, трэба ашчаджаць кожнага, хто азваўся па-беларуску, хто выяўляе сябе па-беларуску. У гэтым кантэксце можна ўзгадаць зборнік паэзіі выпускнікоў Гомельскага універсітэта "Крыніцы" (укладальнік І. Штэйнер), куды ўвайшлі творы не толькі вядомых паэтаў, але і тых, хто не сталі прафесійнымі літаратарамі. Такія згадкі вельмі патрэбныя не толькі гэтым аўтарам, але кожнаму, хто спрабуе сябе ў творчасці. Як напамін: "НАПІСАНАЕ — ЗАСТАЕЦЦА".

У гэтым кантэксце хацелася б сказаць пра творчасць гомельскага паэта Алега Маісеенкі, чый паэтычны зборнік "Дарогі памяці" пабачыў свет сёлета ў Мінску ў выдавецтве "Чатыры чвэрці". А. Маісеенка — начальнік упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама. І тое, што ён рэалізуе свой творчы патэнцыял у беларускай моўнай стыхіі, сведчыць, што культурай на Гомельшчыне кіруе чалавек, неабыякавы да гэтай культуры і мовы. Ён не толькі захаваў любоў да роднага слова, але мае душу жывую і творчую.

Нарадзіўся Алег Маісеенка ў 1939 годзе ў вёсцы Цярэнічы Гомельскага раёна ў сям'і настаўнікаў. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Гомельскім тады яшчэ педінстытуце. Вершы А. Маісеенкі друкаваліся ў абласной і рэспубліканскай перыёдыцы.

Невялікую прадмову да зборніка напісаў Міхась Башлакоў, які добра ведае аўтара кнігі. М. Башлакоў вылучыў і самую адметную рысу паэзіі А. Маісеенкі — яе шчырасць і сардэчнасць. І гэта сапраўды так. Вершы пазбаўлены надуманай філасафічнасці, яны простыя і адкрытыя. Гэта аматарская паэзія, і не варта ў ёй шукаць выкшталцонай формы, незвычайных метафар і асацыяцый. А. Маісеенка ў паэтычнай форме гаворыць пра тое, што ўсхвалявала і закранула яго душу:

***Зямля спявала — свята Перамогі!***
***І ззялі шчасцем твары у людзей.***
***Ды галасіла, молячы да Бога,***
***Бабуля наша: "Дзе ж сынок мой, дзе?!"***
***Крычала маці раненаю птушкай.***
***Мы ж, збіўшыся ў грудок, як вераб'і,***
***Ад жалю, жаху вылі у падушкі...***
*("Дзень Перамогі")*

Гэта голас шчырага і неабыякавага чалавека. Ёсць у А. Маісеенкі і вершы, што зрабілі б гонар і прафесійнаму паэту:

***Непрыкметныя, ціхія, чыстыя***
***З патаемных зямных глыбінь***
***Б'юць крыніцы***
***крышталёва-празрыстыя,***
***Як жыццё, іх бясконцая плынь.***

***У світанні, абмытыя росамі,***
***І ў спякотны жнівеньскі дзень***
***Мужыкі з бліскавіцамі-косамі***
***Сілы чэрпаюць у іхняй вадзе.***
*("Крыніцы")*

Ці:

***Смуткуе вецер, граючы ў траве***
***На кроснах лета — срэбным павуцінні.***

У творах А. Маісеенкі — боль за нашых хлапчукоў, што не па сваёй волі апынуліся ў Афганістане, чые душы былі спалены ў "гэтым пажары":

***Чужыя горы, краявід чужы,***
***І пачуццё трывогі і пагрозы...***
***Як сведкі смутку нашае душы —***
***На сценах модуляў радзімыя бярозы.***

І толькі

***Глытком жывой, гаючае вады***
***Былі там песні роднай Беларусі...***
*("Успамін аб Афганістане")*

Боль за нашыя панішчаныя вёскі. Панішчаныя не вайной, а чалавечай нядбайнасцю. Чарнобыль. Радыяцыя. На жаль, гэтыя словы трывала ўвайшлі ў свядомасць беларускіх пісьменнікаў, а пісьменнікаў Гомельшчыны — тым больш. Тут знаходзіцца ЗОНА. Зона адсялення. І страшная гэтая з'ява стала неад'емнай часткай нашага жыцця. Пэўна, таму менавіта гомельскі даследчык Іван Афанасьеў першым загаварыў пра постчарнобыльскую апакаліптычную свядомасць і рэальнасць.

***Не нябогу хаваюць,***
***а вёску, што ў зоне.***
***Усю. Разам.***
***У прадчуванні***
***апошняй мінуты***
***сялянскія хаты***
***застылі,***
***Вочы-вокны ў неба***
***з мальбой:***
***— За якія грахі, Божа,***
***мілы?!***
*("Чарнобыльскі плач")*

У вершах А. Маісеенкі — і заклапочанасць сучасным станам нашага жыцця, свядомасці. Ён не прыхароўвае рэчаіснасць і людзей. Бяспамяцтва, занядбанне святыняў, Боскіх запаветаў прымушаюць кінуць словы папроку:

***Што сталася з табой, народ?***
***Зрабілі што з табою юдзі?***
***Сваю гісторыю, свой род***
***Ты топчаш, ганіш ты паўсюдна.***
*("Што сталася з табой, народ")*

Эмацыянальнае ўзрушэнне часам выліваецца ў адкрыта публіцыстычныя радкі:

***Бяспамяцтва ж атруту п'ём —***
***Ніяк не кінем.***
***Таму бязладна так жывём.***
***Так і загінем.***
*("Вы кветкі памяці людской...")*

Вядомыя А. Маісеенку і роспач, і безнадзейнасць, пакутлівы роздум над "праклятымі" пытаннямі ("Расло, цвіло...", "Муза", "Цягнік ірве начы завесу"). А як стане зусім роспачна, паратунку ён шукае ля родных крыніц, у бацькоўскай хаце, сярод аднаяскоўцаў ("Бягу ад грукату машын", "Кіну ўсё", "Цярэнічы", "Журавы"). Адвечны матыў нашай літаратуры, пачынаючы ад славутых Скарынавых "Понеже от прироженія звери...", Коласавых "Мой родны кут!". У гэтым сэнсе А. Маісеенка — прадстаўнік традыцыйнай плыні ў нашым прыгожым пісьменстве. Традыцыйнай у добрым сэнсе, той плыні, што зберагае нацыянальную самасць, памяць.

Таксама традыцыйнымі з'яўляюцца і матывы няўтульнасці, адзіноты чалавека, выхадца з вёскі, у вялікім горадзе, непрыняцце таго абезаблічвання, стандартызацыі, уніфікацыі, што нясе з сабою горад.

І не быў бы А. Маісеенка паэтам, калі б душу яго не хвалявала Жанчына:

***Не трэба слоў. На мове вуснаў, рук***
***Ты разумееш лепш маё прызнанне...***
***Які чароўны сон... І толькі сэрца стук***
***Гучыць мелодыяй юначага кахання.***
*("П'янкіх пачуццяў час мінуў дайно")*

Вось такі паэт жыве на Гомельшчыне. "Спакойна, сціпла, без мітусні і шуму робіць ён свае справы, не патрабуючы нічога ўзамен. І калі ўжо стане нясцерпна ад штодзённых клопатаў і розных праблем, тады закурлыча яго душа, як восенькі жураўель. І згадаецца дзівосны край маленства — ціхая, у белай кіпені садоў вёска Цярэнічы. І народзіцца паэтычнае слова..." (М. Башлакоў).

Зборнік "Дарогі памяці" — магчымасць дакрануцца, зразумець яшчэ адну чалавечую душу. Спагадлівую і шчырую, адкрытую свету і людзям.

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

## ЧАСОПІСЫ

# Вялікі князь Міндоўг і іншыя

Належу да тых, хто цікавіцца гісторыка-краязнаўчай літаратурай і мастацкімі творамі, у якіх асэнсоўваецца нацыянальная даўніна. І даўно заўважыў (а гэтага, відаць, не маглі не прыкмеціць іншыя), што выбар тут не такі і багаты. Праўда, з гісторыка-краязнаўчай літаратурай становішча больш-менш прыстойнае. Кніг згаданага зместу выходзіць даволі шмат (тут у першую чаргу трэба адзначыць выдавецтва "Полымя", якое штогод па-ранейшаму выпускае іх некалькі). У "Беларускай навуцы" рэгулярна з'яўляюцца манаграфічныя даследаванні, што таксама не могуць не выклікаць цікавасць і ў так званага масавага чытача. На жаль, у дачыненні да мастацкай літаратуры гэтага не скажаш. Тое, што робіцца тут нашымі пісьменнікамі (імёны згадваць не буду, яны ў кожнага на слыху), не ідзе ні ў якое параўнанне з набыткамі, для прыкладу, украінскіх літаратараў, не кажучы пра польскіх. Падобнае становішча можна вытлумачыць некалькімі прычынамі, сярод якіх на першы план выступаюць дзве найбольш галоўныя. Першая: у тым, што за дзесяцігоддзі манкуртства мы не развучыліся належным чынам шанаваць нацыянальную гісторыю. А другая вынікае непасрэдна з першай: і сваёй гісторыі мы, у тым ліку і пісьменнікі, належным чынам не ведаем. А калі не ведаем, дык лічым за лепшае брацца за якую-небудзь іншую, чым гістарычная, тэматыка. Адсюль тым большая ўхвала літаратарам, якія разумеюць значнасць гэтай нялёгкай і такой адказнай справы: сказаць усім нам, хто мы і адкуль. У шэрагу іх, як вядома, і Кастусь Тарасаў, з новым творам якога можна сустрэцца на старонках снежаньскага нумара часопіса "Крыніца".

"Апошняе каханне князя Міндоўга" — так называецца яго аповесць. Ужо гэтым К. Тарасаў нібы свядома абмяжоўвае падзейныя абсягі твора. Ды такое меркаванне памылковае, хоць і сапраўды асноўнае дзеянне аповесці адбываецца вакол жаніцьбы 70-гадовага Міндоўга на дваццацігадовай Агне, сястры яго нечаканна памерлай жонкі. Ды і пра жаніцьбу можна гаварыць умоўна: Міндоўг дамося Агны сілай, пры жывым яе мужы крэўскім князі Даўмонце. Дарэчы, раней сілай узяў і сястру Агны Марту, дзейнічаючы тады яшчэ больш рашуча і жорстка, забіўшы яе мужа. Аднак жаніцьба Міндоўга, будзем прытрымлівацца ўсё ж гэтага паняцця, для аўтара "Апошняга кахання..." толькі фон, які дазваляе глыбока пранікнуць у сутнасць тагачасных падзей, у тым ліку тых, якія папярэднічалі таму, што адбылося пасля смерці Марты.

К. Тарасаў паказвае Міндоўга не толькі мужным у баях, мэтанакіраваным адначасова ўсяго, што тычыцца ўмацавання дзяржавы, але і хітрым, каварным, які ў імя дасягнення сваёй мэты не спыніцца ніколі, нават калі дзеля гэтага трэба загубіць ні ў чым невінаватых людзей. Смеласць і жорсткасць у яго паводзінах узаемазвязаны і часам нават цяжка сказаць, што пераважае. І гэтым разам, арганізаваўшы паход супраць мазураў, знайшоўшы саюзнікаў сярод князёў — "за выняткам трох яцвягаў, усе даводзіліся вялікаму князю сваякамі, хоць і яцвяжскія князі, пры жаданні адшукаць з імі роднасць, былі б сваякамі па жонцы", — ён не сумняваецца, адзінства часовае, бо кожны з хаўруснікаў, як сам Міндоўг, мае і свае мэты, акрамя агульнай, звязанай з разгромам мазураў. А яны ў тым, каб за кошт іншых дабіцца большай улады самому. Улада ж без смерці працўніка немагчыма: "І сам Міндоўг, і абодва ваяводы ведалі, што з шаснаццаці князёў сама меней трое ненавідзелі яго і пры зручным выпадку не марудзілі б забіць, астатнія прынялі б такі ўчынак без абурэння, а можа, і ўхвалілі б. Але зручнага выпадку заўжды насцярожаны Міндоўг не дапускаў".

Улада і насілле, улада і наканаванасць лёсу — гэтыя паняцці пастаянна прысутнічаюць у аповесці. У кожнага свая зорка ў небе, і кожны жыве пад ёй, не ведаючы, калі яна згасне, а з яе смерцю скончыцца і зямное жыццё таго, хто пад гэтай зоркай нарадзіўся. Падобныя думкі не пакідаюць і вялікага князя. Асабліва трывожныя яны ў чаканні сутычкі з мазурмі: "Мажліва, нагадаў Міндоўг пра лёс, нехта з іх не вернецца. Таму і трымае Літва старадаўні звычай паважнай размовы перад наездам, што хтосьці назаўжды застанецца ў чужой зямлі, а хто — зараз невядома. Нехта адзін ці некалькі з семнаццаці бачыць, слухае ўсіх і сам гаворыць з усімі апошні раз. Магчыма, гэта будзе ён, вялікі кнзь Міндоўг, ці малады Даўмонт, ці мужны Трайнат, ці зяць вялікага князя Шварн, ці яцвяжскі ўладар Скамонд. Невядомасць лёсу вызначана для чалавека багамі. Пасля іхняга прысуду багіня смерці ставіць на азначанае сэрца пячатку апошняга дня. Ніхто не гіне раней ці пазней часу, акрэсленага багіняй. Сёння яна значыць тэўтонскіх прыхвасняў — мазураў, і наезд пакажа, каго з іх яна мецiла магільным знакам..."

Героі аповесці часта застаюцца сам-насам са сваімі думкамі, развагамі. І Агна таксама, бо яна ніяк не можа змірыцца, што не па сваёй волі стала жонкай Міндоўга, але ў рэшце рэшт супакойваецца, разумеючы, што іншага выйсця ў яе няма. Такія эпізоды разлічаны на чытача, які не толькі аддае перавагу напружанаму дзеянню, дынамічнаму сюжэту, а і хоча "зазірнуць" у душу персанажаў у розныя моманты жыцця іх, а асабліва тады, калі адбываецца нешта значнае, што парушае звыклы ўклад. У дадзеных выпадках К. Тарасаў дасягае такога псіхалагізму, калі ўчынкі герояў паўстаюць у ракурсе свайго часу — жорсткага, калі нельга загадзя сказаць, што з табой адбудзецца.

І яшчэ адзін момант вельмі важны ў творы, па ім аповесць, бадай, і "трымаецца". Муж Агны крэўскі князь Даўмонт спачатку як бы ў цяню. Нават з'яўляецца адчуванне, што ён скарыўся несправядлівасці, моўчкі ўспрыняў абразу з боку Міндоўга, стрыечным пляменнікам якога з'яўляецца. Ды не такі Даўмонт, каб дараваць. Ён паступова ідзе да помсты. І трывае да пары-да часу, каб нарэшце ўсю сваю нянавісць і гнеў выліць вонкі, а пасля гэтага на літасць разлічваць не выпадае: "Год даваўся чакаць гэтага палявання. Такога палявання, як гэтае, яшчэ не было на Літве. Пра якое будуць пераказваць старыя сваім унукам, як рарэг Даўмонт забіў ваўка з імем Міндоўг, як

ВІНШУЕМ!

# Тысяча слоў пра сябра

## Уладзіміру САЛАМАХУ — 50

Валодзя Саламаха. Не проста накідаць партрэт пісьменніка і чалавека на некалькіх старонках. Але...

Яшчэ пры тых бальшавіках, год пятнаццаць таму, многае было інакш: была цэнзура, аддзелы прапаганды і агітацыі, катэгарычныя, пыхлівыя і ўпэўненыя ў непарушнасці свету мэтры, і — яшчэ зусім па-дыянісійску лёгка пілося, курылася і ездзілася па начах у электрычках.

Падсвядомасць ніколі не падманвае. Працуючы ў Барысаўскай райгазеце, дзе этнічны беларус чамусьці ніколі не мог надняцца вышэй загадчыка сельгасаддзела, пад дзікім уціскам партсакратарак па ідэалогіі, я ў той самай падсвядомасці прадчуваў, што толькі шчаслівая выпадковасць і, магчыма, літаратура выратуюць мяне. Пакуль адночы не адвёз некалькі апавяданняў у "Маладосць". З супрацоўнікаў часопіса я ведаў тады толькі свайго земляка Васіля Гігевіча. Васіль Сымонавіч аддаў мой рукапіс на рэцэнзію Уладзіміру Дамашэвічу, а я сам са свету раёнкі, дзе якраз адбывалася змена пакаленняў, апынуўся ў палярна іншым свеце "майстроў слова". Адным з іх быў Уладзімір Саламаха.

Настальгія — дзіўнае пачуццё. Яно ахоплівае мяне, калі я ўспамінаю "Маладосць" таго часу. Яна была расквечана такімі імёнамі, як Анатоль Грачанікаў, Яўгенія Янішчыц, Уладзімір Дамашэвіч, Васіль Гігевіч, Леанід Дайнека, Янка Сіпакоў.

Падсвядомасць не падманвае. Мае апавяданні чыталіся, а я, на сваю другую вялікую ўдачу (вось ён, шчаслівы выпадак), патрапіў на вочы Валодзю Саламаху.

— Пакуль "класікі" цябе крэмзаюць, — прапанаваў ён у сваёй непаўторнай, добразычлівай манеры і з мяккім гумарам, — зробіш які публіцыстычны артыкул. Тэму выберы сам.

Я адказаў яму, што варта напісаць пра першы ў рэспубліцы спартыўны спецклас, дзе вучыліся дзеці-сіроты.

— Згода, — адобрыў Валодзя.

Не памятаю зараз, што з'явілася раней на старонках часопіса: апавяданні ці нарыс. Толькі Валодзя Саламаха не палічыў, што "маўр зрабіў усё", і ў спакоі мяне не пакінуў, а даў некалькі заданняў. Я напісаў яму ў аддзел яшчэ артыкул, а потым яшчэ і яшчэ.

Так, літаральна "за каўнер", ён увёў мяне ў літаратуру, як увёў многіх іншых і да мяне, і пасля. Валодзя быў рэдактарам і маёй першай кнігі.

Я абавязаны Валодзю Саламаху і Анатолю Сымонавічу Грачанікаву, які, на вялікі жаль, рана пайшоў ад нас (лічу гэта ўвогуле катастрофай для часопіса), тым, што буў прыняты на працу. У той час якраз вызвалілася месца ў аддзеле публіцыстыкі. А напярэдадні Валодзя Саламаха пайшоў да "шэфа".

— Можа, возьмем Юру Станкевіча? — прапанаваў ён.

— Табе з ім працаваць, — адказаў Анатоль Сымонавіч. — Ну, а калі маю думку хочаш ведаць, то я — за.

Так вырашыўся мой лёс.

З Валодзем Саламахам мы працуем побач: ён, як і раней, узначальвае аддзел публіцыстыкі. Ён мог бы "надняцца" ў сэнсе кар'еры: стаць рэдактарам якога выдання (прапановы былі), заняць іншую ўплывовую пасаду. Але ён не набыў сабе аніякіх ільгот і прывілеяў. Такі чалавек: працагалік, бясcрэбранік.

Прайшоўшы нялёгкую жыццёвую школу ад лесаруба і супрацоўніка раёнкі, Уладзімір Саламаха ведае жыццё, як кажуць, з натуры. Дарэчы, ён адзін з тых нямногіх цэльных пісьменнікаў, творчай манеры і сутнасці якіх не кранула (у добрым сэнсе гэтага слова) так званая перабудова. Ён і раней пісаў такую ж сумленную прозу пра "варушэнне" "маленькага" чалавека, працягваючы лепшыя традыцыі вядомых майстроў слова.

Яго творчую манеру я б рызыкнуў вызначыць як экзістэнцыяльны шэпт. Так, не крык, а менавіта шэпт. Услухайцеся, пра што ўвесь час гавораць сабе яго героі: выжыць, выжыць, выжыць. І хіба не гэта складае зараз галоўны клопат "маленькага чалавека"?

За дваццаць год (менавіта столькі гадоў назад Валодзя Саламаха апублікаваў першыя апавяданні) ён напісаў некалькі кніг прозы: "На ўзмежку радасці", "Заўтра ў дарогу", "Кавалёк — лесавая былінка", "Цяпло чужога сэрца", "Апазнаецца асоба мужчыны", а таксама шэраг сцэнарыяў дакументальных фільмаў.

У яго прозе ніколі не сустрэнеш надуманых, штучных сітуацый, а абвостранае пачуццё справядлівасці, якое выспявадаючы яго персанажы, часам выліваецца ў трагічны вынік.

Пагоня за аб'ёмам — не ў яго натуры. І тым не менш чарговая кніга выдавалася цяжка, хаця адразу знайшла свайго чытача.

Апошнім часам Валодзя Саламаха часта



выступае на старонках газет, як крытыклітаратуразнаўца, шмат папулярызуе калег-пісьменнікаў. Яго артыкулы іншым разам выклікаюць рэха ў адказ і цікавасць культуралагічных колаў.

Ідэасінкразія, а гэты модны працэс прыйдзе калі-небудзь з часам і да нас, выявіць, упэўнены, з аналізу твораў Уладзіміра Саламахі, сумленнага і шчырага творцу, асобныя творы якога можна і зараз устаўляць у школьныя хрэстаматыі, бо яны адлюстроўваюць якраз ментальнасць беларускай прысутнасці, а не польскага хутара ці расійскага калгаса.

Вялікі аматар прыроды, штогадовых вандровак па рэках і рыбалкі, Валодзя Саламаха быццам апраўдвае словы пра тое, што "рэкі і азёры створаны для мудрых, каб тыя спыняліся і сузіралі іх і іх насельнікаў, а ёлупні б праходзілі міма". Вынікам яго вандровак — экалагічныя эсэ і нарысы, якія, упэўнены, складуць калі-небудзь асобны зборнік.

Так як мы — не жыхары поўдня і позна выспяваем, то 50 год — бадай, самы творчы росквіт для празаіка. Думаю, Уладзімір Саламаха яшчэ напіша свае лепшыя кнігі.

**Юры СТАНКЕВІЧ**

чакаў у восеньскім халодным лесе першы прамень сонца, каб усе маглі пабачыць ягоную помсту. Ніхто не зможа сказаць: "Вялікі князь Міндоўг сканаў на сваім ложку, акружаны дзецьмі!" Не, усе будуць казаць: "Князь Даўмонт пасек Міндоўга на капусту!"

Помста Даўмонта страшная. Ён не толькі забівае свайго крыўдзіцеля, але не пакідае ў жывых і яго малалетніх дзяцей Рэпіка і Руклю, смерць чакае і Агну. Здзейсніўшы такое злачынства, крэўскі князь, аднак, не лічыць сябе забойцам. Як не лічылі сябе забойцамі і тыя, хто гэтаксама, як і Даўмонт, па-свойму адстойвалі справядлівасць.

Нічога не скажаш: такі быў час. Раскрываючы праўду пра яго, К. Тарасаў застаецца цвярозым рэалістам і аб'ектыўна ацэньвае тагачасныя падзеі. З вышыні ўжо нашага сённяшняга ведання і сучаснага ўяўлення. Ён не толькі захапляецца Міндоўгам, а і асуджае яго. І гэтаксама аб'ектыўна ставіцца да Даўмонта. Даўмонт і пакрыўджаны, Даўмонт і зняслаўлены, але Даўмонт і забойца.

Такая гістарычная праўда. І такі падыход да яе з боку пісьменніка, які піша не ва ўгоду кан'юнктуры дня, а дзеля праўды. Дарэчы, у апошнім невялікім раздзельчыку аповесці аўтар коратка, літаральна некалькімі радкамі гаворыць пра далейшы лёс князёў Войшалка, Даўмонта, Трайната і іншых. І, як свайго роду рэзюме, апошнія абзацы твора:

"А ці было б з усімі гэтымі людзьмі інакш, калі б князь Міндоўг не пакінуў Агну пры сабе?

Хто ведае? Магчыма, адшукаліся б іншыя падставы, каб спраўдзіўся наканаваны кожнаму лёс".

Сцвярджаючы падобнае, К. Тарасаў ніколькі не сумняваецца, што ў Міндоўга, і ў Даўмонта, і ў іншых князёў жыццё нібы было загадзя распісана недзе "на версе". А чаму б і не? Гэта яшчэ некалькі гадоў за падобныя сцвярджэнні лёгка можна было б абвінавáціць кожнага ў адсутнасці матэрыялістычнага погляду.

Ёсць у "Крыніцы", зразумела, і іншыя матэрыялы. Можна пазнаёміцца з Іпацім Пацеем, Уільямам Батлерам Ейтсам, Адамам Станкевічам, Дзіна Буццаці... Можна і трэба. Але найперш прачытайце аповесць К. Тарасава. Усё ж такія творы з'яўляюцца не часта.

**Антось НІЧЫПАРУК**

## "Полымя", N 12

С. Законнікаў прапануе некалькі вершаў са сваёй будучай кнігі "У вочы вечнасці гляджу". Змешчаны "Апавяданні пра шчасце" Я. Сіпакова, "Сучасныя былі" М. Даніленкі, апавяданне А. Саскавец "Нявестка", творы з кнігі "Зямля і людзі" К. Кірэенкі, над якой пісьменнік працаваў да апошніх дзён свайго жыцця; вершы А. Канапелькі, У. Марука, Н. Маеўскай, А. Яскевіч, некалькі твораў А. Міцкевіча ў перакладзе Р. Барадуліна, К. Цвіркі, С. Мінскевіча. А. Карлюкевіч выступае з краязнаўчым нарысам "На зямлі Ельскіх". Сярод іншых матэрыялаў нумара — заканчэнне "Майго мястэчка" В. Стомы-Сініцы, артыкулы Б. Бур'яна "Век на мяжы — і "Паўлінка" ў афішах", В. Локун "Малая проза"-97", А. Марціновіча "Спосаб Праметэя" (пра творчасць А. Вялюгіна), В. Івашына "У кантэксце мастацкіх культур" (на прыкладзе творчасці М. Багдановіча)... П. Васючэнка ("Маналог струны") рэцэнзуе кнігу паэзіі Н. Гальпяровіча "Струна". А. Наркевіч ("Патрэбнае выданне") дзеліцца ўражаннямі ад "Займальнай філалогіі" В. Стральчонак. Пад рубрыкай "З рэдакцыйнай пошты" друкуецца нататка М. Загідулінай "Адам Міцкевіч вачыма мастака-рамантыка".

## "Нёман", N 1

Чытача чакаюць апавяданне І. Пташнікава "Тры пуды жыта", вершы Р. Барадуліна, А. Грачанікава, В. Грышкаўца, М. Скобла. "Кароткая тапаграфія Пагромнай ночы" — такі падзагаловак даў свайму новаму твору "Зямля і людзі" У. Бутрамееў. А яшчэ змешчаны матэрыялы "круглага стала" "Пазнаем саміх сябе" ("Псіхалагічная культура грамадства: рэальнасць і перспектывы"), старонкі з дзённікаў П. Панчанкі "Думаю, думаю...", артыкул Д. Бугаёва "Паэт і час" (пра творчасць А. Куляшова), рэцэнзія В. Саламевіч на "Выбраныя творы" Я. Баршчэўскага. З творамі мастака Ю. Хілько знаёміць Я. Шунейка ("Збліжэнне").

## "Роднае слова", N 2

Галоўны рэдактар "РС" М. Шавыркін выступае з артыкулам "Аб нашай першаверы, ці Спасціжэнне бясконцасці". Жыццё і лірыка Е. Лось у цэнтры ўвагі А. Бельскага — "Я жыву за дажджом, за вясёлкаю..." Лёс і творчасць В. Маракова асэнсоўвае В. Рагойша — "...На пераломе жалеза і песні". С. Кавалёў разглядае сямейна-абрадавую паэзію XVI стагоддзя — "Паэзія радасці і смутку". Змешчаны артыкулы У. Ковеля "Тэма інтэлігенцыі ў творчасці Францішка Аляхновіча", В. Маслоўскага "Характары гераічныя — характары народныя" (п'есы беларускіх драматургаў пра Вялікую Айчынную вайну), С. Малюковіч "Гармоніяй гукаў хачу я ўпіцца..." (лірыка паэтаў Англіі XIX ст.), І. Лепешава "Новыя словы апошніх гадоў", М. Крыўко "Паронімы і сінонімы ў мове", Т. Валодзінай "Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца" (свет рэчаў сялянскага падворка ў фразеалогіі і культуры беларусаў), М. Мішчанчука "Вобразы-сімвалы ў рамане Кузьмы Чорнага "Пошукі будучыні", Л. Баршчэўскага "Еўрапейская літаратура Сярэднявечча", С. Лабанавай "Опера "Дзікае паляванне караля Стаха", І. Швед "Вярба б'е — не я б'ю..." (вярба як сімвал усходнеславянскага традыцыйнага фальклору), Г. Зайцавай і В. Міцкевіч "Забытыя беларускія словы" (паводле запісаў у сшытках Якуба Коласа 1950-х гадоў). У "Літаратурным ветразі" нязменны вядучы рубрыкі М. Скобла прадстаўляе В. Вабішэвіча.

ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК

КРЫТЫКА

# "Конрад Валенрод" і беларуская рэчаіснасць

*Adam Mickiewicz. Konrad Wallenrod. Powiesc historyczne z dziejow litewskich i pruskich.*

У 1828 годзе ў змрочна-велічным Пецярбурзе малады выгнаннік з беларуска-літоўскіх зямель Адам Міцкевіч надрукаваў сваю новую паэму "Конрад Валенрод", якая суправаджалася эпіграфам з Макіавелі: "Вы павінны ведаць, што ёсць два спосабы барацьбы... трэба быць лісою і львом".

Паводле рамантычных традыцый сюжэт твора звязаны з гістарычнай мінуўшчынай. Тут выкарыстаны факты з хронікі М. Стрыйкоўскага і іншых крыніц, але ўсе яны пераасэнсаваны і дапоўнены магутнай фантазіяй мастака.

У Марыенбурзе — сталіцы крыжацкага ордэна — выбіраюць Вялікага Майстра, правадыра крыжакаў. Самым годным гэтага высокага звання аднадушна прызнаецца Конрад Валенрод. Аднак ніхто з прысутных, апрача вернага спадарожніка Конрада народнага песняра Галбана-Вайдэлоты, не здагадваецца, што выбраным аказаўся не прускі рыцар Конрад фон Валенрод, а заклятаы вораг крыжацкага ордэна ліцвін Вальтэр Альф. Калісьці крыжацкія рыцары разбурылі дом і загубілі сям'ю Вальтэра Альфа, а яго самога дзіцем прывезлі на крыжацкі двор і выхавалі як крыжацкага рыцара. Але горды ліцвін не забыўся пра свае паходжанне і пра свой народ, які пакутаваў ад крыжацкай навалы. Пасля ўцёкаў у Літву і доўгіх роздумаў Вальтэр Альф зразумеў, што збройнай сілай ліцвіны ніколі не пермогуць крыжакаў. І ён вырашыў вярнуцца ў варожы стан, каб, заваяваўшы там найвялікшы давер, знішчыць магутнасць ордэна знутры.

Сенатар Навасільцаў, які паводле службовага абавязку адным з першых чытаў гэты твор, па-свойму слушна, хоць і надта ж спрошчана, ахарактарызаваў яго Вялікаму князю Канстанціну: "Палітычная мэта твора — распальваць згасаючы патрыятызм, падтрымліваць нязгоду і рыхтаваць будучыя падзеі, а таксама навучаць сучаснае пакаленне, як быць цяпер лісою, каб потым перамяніцца ў ільва".

Аднак у цэнтры міцкевічаўскага твора найперш — маральна-этычная праблема, якая не вырашана да сённяшняга дня. Ці можна гаварыць пра нейкую мяжу маральнасці ў адносінах да ворага, які пагражае твайму народу поўным знішчэннем? Якія існуюць шляхі барацьбы з захопнікамі, што пераўзыходзяць твой народ сілай і колькасцю?

Актуальнасць гэтых пытанняў для Беларусі прадвызначыла і шлях "Конрада Валенрода" на беларускай зямлі. У 1850 годзе жыхар г. Барысава Антон Пагоскі быў арыштаваны і адпраўлены ў віленскую турму за тое, што трымаў яго ў сябе дома і даваў чытаць іншым. Прыкладна ў гэты час блізкі сябра В. Дуніна-Марцінкевіча Арцём Вярыга-Дарэўскі перакладае паэму на беларускую мову. На жаль, пераклад не захаваўся.

Але найбольш уражвае той факт, што малады Янка Купала пад уражаннем гэтага твора бярэ сабе псеўданім Вайдэлота (1908 год), а свае пераклады з "Конрада Валенрода" ўпершыню публікуе ў 1930 годзе ў часопісе "Полымя". Вось гэта якраз і дае падставы гаварыць пра валенрадызм як з'яву ў жыццёвым і творчым лёсе Янкі Купалы савецкага часу.

**Галіна ТЫЧКА**

## Сустрэча ў гімназіі

Гімназія N 2 беларускай сталіцы добра вядомая сваімі літаратурнымі традыцыямі, увагай да нацыянальнага прыгожага пісьменства. У апошнія гады гасцямі гімназістаў былі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, Анатоль Кудравец, Леанід Дранько-Майсюк.

Зусім нядаўна ў госці ў гімназію N 2 завітаў паэт Ганад Чарказян, які працуе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", бард Валерый Пазнякевіч, супрацоўнік газеты "Чырвоная змена". Госці чыталі вершы і спявалі песні, а на развітанне падаравалі гімназічнай бібліятэцы невялікі збор кніг.

**Мікола СЛАБАДСКІ**

## "Далягляды"

Гаворка не пра штогоднік выдавецтва "Мастацкая літаратура", на старонках якога, як вядома, змяшчаліся ў перакладзе на беларускую мову лепшыя творы пісьменнікаў далёкага замежжа, бо рознага шэрагу цяжкасці, а ў першую чаргу фінансавыя, прымусілі "Мастацкую літаратуру" адмовіцца ад "Даляглядаў". Тым не менш "Далягляды" зноў вярнуліся да нас. Праўда, у новай іпастасі. А вестка пра гэта прыйшла з Глыбокага. І, як падмацаванне, — першы выпуск новых "Даляглядаў", а менавіта так называецца альманах Глыбоцка-Полацкай філіі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. І маюць "Далягляды" падзагаловак "Глыбоччына паэтычная". А запрашае чытача ў гэты песенны край старшыня філіі Алесь Жыгуноў, назваўшы сваю невялічкую нататачку-зварот "Зямля тут такая — таленавітая..."




У зборніку — 14 аўтараў, тых, хто нарадзіўся ў гэтых мясцінах і па-ранейшаму жыве тут, а таксама ўраджэнцы іншых мясцін, для каго Глыбоччына стала другой радзімай. Не абыдзены ўвагай і былыя глыбачане, якія, пакінуўшы малую радзіму, не растрацілі да яе любові і замілавання. Спачатку ў альманаху змешчаны падборкі твораў членаў Саюза беларускіх пісьменнікаў Марыі Баравік, Віталя Гарановіча, Алеся Жыгунова, Тамаша Ляшонка. Кожны з гэтых аўтараў добра вядомы аматарам паэзіі. Як па публікацыях у перыядычным друку, так і па кнігах. У новых вершах — тыя ж матывы, якія аўтару найбольш блізкія і дарагія. М. Баравік, да прыкладу, звяртаецца да вечнага, яе лірычная гераіня імкнецца спасцігнуць найвышэйшы сэнс у веры да Бога. В. Гарановіч прываблівае вершамі аб прыродзе — вобразна насычанымі, з нечаканымі параўнаннямі: "Вочапам захад над буйнай ракой Сонца вядзерца трымае. Вечара летні густы спакой Далеч ва ўладу прымае. Сосны, як свечкі, пагаслыя днём, Вогнікам зорак успыхнуць. Месяц у рэчку нырне акунём Спіну пярэстую выгнуць". Моцнае прыцягненне родных мясцін і ў вершах Т. Ляшонка. Адначасова гучыць роздум лірычнага героя аб пражытым, прысутнічае жаданне разабрацца, а ці так жыў: "Я да світання не магу заснуць — Душу халодзіць успамінаў слота. І мары-крылы з лёгкасцю нясуць Туды, дзе сум, журба і адзінота". Змястоўнай атрымалася падборка А. Жыгунова. У яго вершах прываблівае той роздум, у аснову якога пакладзена трываласць зямной маралі, філасофія, што мацуецца на народнай мудрасці. А ў выніку жыццё паўстае ў яго супярэчнасці і разам з тым лагічнасці. Лірычны герой А. Жыгунова ў пастаяннай празе маральнага і духоўнага ўдасканалення, ён многа пераацэньвае, але гэта не заўсёды прыносіць належнае здавальненне. У рэшце рэшт такое жыццё. Знаходзіш адказ на адно пытанне, другое — прыходзяць наступныя:

*У Бога паверыў, а лепшым не стаў.*
*Ляжу на пасцелі, пасланай мне з траў,*
*Бо іншай пасцелі ну проста няма.*
*А восень лютуе, а заўтра — зіма.*
*Ды роднасць людскую душою спасціг,*
*Я сёння смуткую адразу за ўсіх,*
*Чужы чалавек, толькі ён мне радня,*
*І сонца ўзыдзе над намі штодня.*
*Як сталася так, як магло гэтак быць,*
*Што мы развучыліся проста любіць*
*І крычма крычаць: чалавек у бядзе!?*
*А хтосьці ўсміхнецца, як ён прападзе.*

Змешчаны і творы тых, хто пакуль больш вядомы па публікацыях у раённым друку: Ганны Вязіцкай, Алены Зінкевіч, Ганны Зінкевіч, Юрася Касцюка, Станіслава Лося, Машы Новікавай, Святланы Новік, Галіны Сутулы, Ніны Хайноўскай, Андруся Храпавіцкага. Кніжка атрымалася цікавай і, што таксама немалаважна, выдадзена на добрай паперы. Такім чынам, пачатак добрай справе пакладзены.

**Лявон ЮРЧЫК**

ПАЭЗІЯ

Мікола МЯТЛІЦКІ



# Балады лёсу

## Садаўшчанка

*Не сагрэе печ-ляжанка*
*Маразоў жыццёвых страх.*
*Ходзіць звыкла Садаўшчанка*
*Па суседскіх хутарах.*

*То ў Адэлі, то ў Яніны*
*Пад наглядам позніх зор*
*Перакажа ўсе навіны:*
*Хто жывы, а хто памёр.*

*Ухвалу за дзень дасць Богу,*
*Гаспадыні — за цяпло*
*І кіруецца ў дарогу,*
*Толькі сонца узышло.*

*Як атрутная паганка,*
*Доля-згубніца ў яе.*
*Вып'е чарку Садаўшчанка,*
*Горка, смутна запяе.*

*У дарунак ёй — хусціна,*
*Гляне ўцешна, як дзіця.*
*Адзінокая быліна*
*Ў лютым холадзе жыцця,*

*Бо вярэдліва да ранку*
*Гойстры, нібыта клінок,*
*Точыць одум Садаўшчанку:*
*У магіле спіць сынок.*

*Не ад нечысці нямецкай*
*У вайны віхурах знік —*
*Паў у Арміі Савецкай*
*Маладзенькі прызыўнік.*

*Захліпнецца сэрца горка:*
*Ля чужачага сяла*
*Па-над сынам зблякла зорка*
*І магіла зарасла.*

*Ёй паўсюдна прывітанка*
*І прытулак на вятрах.*
*Носіць боль свой Садаўшчанка*
*Па суседскіх хутарах.*

*Дабрысці старой нялёгка,*
*Снегам хутар занясло.*
*І міргае ценька, дрогка*
*Ў шыбах позняе святло.*

## Вансовіч

*Франтамі ў роце пахавальнай*
*Прайшоў. І ў пераможны год*
*Прынёс у вёску з далі дальняй*
*Паўчамадана "ўзнагарод".*

*Ў пяску бразгочуць ардэнамі*
*Яго мурзатыя хлапцы.*
*Гукне ўначы: "Масква за намі!" —*
*І сняцца мёртвыя байцы.*

*Зрэдчас калі аброніць слова,*
*Стрыжэ з-пад броў, як ваўкалак,*
*Нібы яго жыцця палова*
*Даўным-даўно магільны шлак.*

*Сабе спакойна вершыць копы,*
*Калі вязуць труну з сяла.*
*Як ні гукала — ў далакопы*
*Больш смерць яго не наняла.*

## Феліцыя

*Між берагамі заміраў паром.*
*У схованцы сутонлівага трума*
*Феліцыя ў абдымках жаркіх кума*
*Піла любошчаў хмельна церпкі ром.*

*А з берагу нямогліца-стары*
*Трос кулаком, каўтаючы аскому,*
*Гукаў яе, распусніцу, дадому,*
*Пасля, махнуўшы, соўгаўся ў бары.*

*Яна стаяла смелая прад ім,*
*Вачэй зялёных бунтавала кара.*
*І калаціўся ў гневе лютым старац,*
*Каўтаў, зжаўцелы, з люлькі едкі дым.*

*"Забі!" — сваволяй дыхала яна,*
*Паклаўшы пальцы на тугі жывоцік.*
*Шарэюць вочы слёзныя ў самоце,*
*Кляне бацькоў угнеўна — іх віна:*

*Усіх сватоў павымяталі прэч*
*І выдалі — за старца-багацея.*
*І толькі змрок над рэчкай загусцее,*
*Бяжыць-шукае з хлопцамі сустрэч.*

## Франя

*Зачэпіш словам — люта гляне,*
*Бы камень коціцца з гары.*
*Жыве самотніцаю Франя*
*У цёмным свірне на двары.*

*Наробіць рогату і груку,*
*Усіх цікаўнікаў ззаве:*
*Прынесла з хвойніка гадзюку*
*На двор ізноў у рукаве.*

*Яе пахваляць у старанні,*
*Цукерку торкнуць — і лады,*
*Бо памуціўся розум Франі*
*Ящчэ ў ваенныя гады.*

*Малою выпала пабачыць,*
*Як рабаўнік у хату лез.*
*Спярша ў яе, пасля у бацьку*
*Страляў разбойніцкі абрэз.*

*У хаце сёстры на выданні,*
*У кожнай — вабны ухажор.*
*А ёй адно, "зляканай Франі",*
*Сядзі, пільнуй бацькоўскі двор.*

*Вось так і старасць прычакала*
*На ўлонні роднага двара.*
*Па смерці бацькавай забрала*
*Дажыць малодшая сястра.*

*Нязвыкла ўсё тут — у вандроўку*
*Лясамі рушыла наўпрост.*
*Сваю шукаючы Дубоўку,*
*Зайшла за Вілію праз мост.*

*Галосячы, вандруе Франя,*
*Усё ваколле абышла.*
*Каму у вочы ні загляне, —*
*Ніхто не чуў яе сяла!*

## Дорка

*Уночы з небнай абалоні*
*Пагляне ясніцаю зорка.*
*Пякуць няшчадна, ціснуць скроні,*
*Каўтае лекі ў цемры Дорка.*

*Хаціну бацькаву пад дачу*
*Адладаваў.*
*"Як чужаніца!" —*
*І ён, сівы, бязгучна плача,*
*Тугой душу дзярэ граніца.*

*Франтоў прамераў, курным дымам*
*Спаўна надыхаўся — бывала.*
*Цяпер чужынаю радзіма,*
*Мяжой адсечаная, стала.*

*І вось: атлёты ля Катлоўкі*
*Трасуць шторaз пажыткі-транты.*
*І рэжуць сэрца шкетаў слоўцы*
*Лязом зняваг:*
*— Акупанты!*

*І сярод ночы позірк пільны*
*Акіне лёсу пуцявіны,*
*І прывядуць да хаты ў Вільні*
*Праз ноч скупыя прыпаміны.*

*Ці думаў свету абаронца,*
*Што ён, пражыўшы век суровы,*
*На захадзе жыцця і сонца*
*Такой удзякі ўчуе словы?*

*Дыміць дзяркатая махорка.*
*Шарэе ў шыбах кволы золак.*
*Ды не заплюшчыць вока Дорка —*
*Абраза точыць, як асколак.*

*І выйдзе ранкам на гасцінец,*
*Падасца звыкла ў бок граніцы*
*Вайны астатні пехацінец*
*З тугой нязбытнай чужаніцы.*

## Уладак

*На кастры саган ля кладак*
*Дымна дыхае імглой.*
*Лодку новую Уладак*
*Поіць чорнаю смалой.*

*Хата высака на строме*
*Ў голлі яблынь, бы ў вянку.*
*Гэлька ў слодычнай утоме*
*Пасабляе мужыку.*

*І загар — пазнака лета —*
*Грае, чэпкі, на плячах.*
*Водзіць бёдрамі кабета,*
*Бляск спакусы у вачах.*

*Ды не бачыць жонкі Уладак,*
*Не спускае воч з ракі.*
*Звабна боўтаюць ля кладак*
*Шчупакі ды судакі.*

*Вось і лодка, як малодка,*
*Перакуленай ляжыць.*
*Вёслы граюць спрытна, ходка.*
*Туманец густы імжыць.*

*Гэлька пальчыкам ківае.*
*Шчэ не ведае яна,*
*Што не кожны выплывае*
*З вірам точанага дна.*



Фота К. Дробава

ПРОЗА

# ДВА АПАВЯДАННІ

Васіль ТКАЧОЎ



## Дурань

Скараход ляжаў з заплюшчанымі вачыма, але з-пад павек, нібы аднекуль з-пад кругляка-каменя, выкацілася вялікая — з гарошыну, мусіць, — сляза. Яна патрымалася крыху ў куточку вачэй, затым мокрым слядком спаўзла, драбнеючы, да вуха хворага. І згубілася...

Ён, тугі ў плячах, каранасты і ўвогуле моцны з выгляду чалавек, ляжаў пад кропельніцай. Яго ратаваў прэднізалон — гармон, сумна-радасна вядомы кожнаму астматыку. Скараход, калі першы раз трапіў з бронхамі ў пульманалогію, доўга не мог запомніць назву гэтых лекаў: дужа мудрагелістым, замежным здавалася слова. Затое цяпер разбудзі сярод ночы — скажа: “Прэднізалон!” Смешна ўспомніць, але тады ж сусед па палаце, вярнуўшыся са сталоўкі, адразу пачынаў корпацца ў тумбачцы, даставаў адтуль прынесеную жонкай ежу — сала, курыную ножку, вараныя яйкі — і ўплятаў за дзве шчакі. Калі ж на яго касіў вачыма Скараход, той, крыўляючы сківіцамі, быццам апраўдваўся:

— Пачакай, пачакай, пачне прэднізалон рабіць сваё дзела — тады я на цябе падзіўлюся.

Скараход адно што і зрабіў, дык гэта лыпнуў вачмі і адвярнуўся. А пазней, калі, як і абяцаў сусед па палаце, той загадкавы прэднізалон моцна падмяў яго пад сябе, ён тэрмінова наказаў сваім, каб забяспечылі харчамі. “Ад бальнічных смокча пад лыжачкай!” Прэднізалон і разнёс яго, небараку, — такі апетыт выклікаў, што вымушаны быў сярод ночы падсілкоўвацца. Знаёмыя, сустрэўшыся на вуліцы, азіраліся ўслед: Скараход гэта ці не? Быццам — ён, быццам — не...

Прэднізалон Скараход прымае кожны дзень — без гармонаў ён ужо не жыток. Чаго і дамогся, калі даведаўся, што гэта за трасца такая, дык гэта аднаго — споўз, паступова скарачаючы дозу, з некалькі пілюлек да адной. Бо сам адчуў: трэба пазбаўляцца ад прэднізалону, а то не атрымліваецца і шнуркі завязаць — жывот перашкаджае. Зноў жа — сэрца... Праўду кажуць: адно лечыш, другое калечыш.

Лежачы пад кропельніцай, Скараход успамінаў Узбекістан, дзе жыў пэўны час пасля арміі і адкуль паспеў з’ехаць да распаду СССР. Чым ганарыўся, хваліў сябе за дальнабачнасць: пакуль гляджу наперад — не прападу і сам, не дам прапасці і сваім скараходзікам.

Сёння яны, дарэчы, павінны прыехаць да яго. Святлана і Паўлік. Верка не зможа — у яе на першым плане малады муж, а не бацька. Мядовы месяц. Святлана вучыцца ў тэхнікуме, цяпер у яе канікулы. Паўлік, падскрэбак, у чацвёртым класе. “Добра, што дзеці прыедуць”, — разважае Скараход, расплюшчвае вочы, глядзіць на дзверы. Ціха. Пакуль няма. Толькі сусед Пятровіч, як і ён раней, пяць гадоў назад, чмякае і чмякае ротам: прэднізалон, халера!

Ага, вось і дзеці. Яны вітаюцца з бацькам, Скараход ледзь прыкметна ўсміхаецца: задаволены. Не забываюць. Малайцы.

— Сядайце, — прапаноўвае ён.

— Сядзем, — кажа Святлана, а сама мітусіцца: напакоўвае тумбачку харчамі, паклала зверху, на ўскрайчык, некалькі сістэм (кропельніц), свежыя газеты.

І таксама сядае побач з Паўлікам на падстаўленае ім крэсла.

— Што там, дома? — вытрымаўшы паўзу, глядзіць на дзяцей Скараход.

— Нармальна, — ківае Паўлік.

— Дома добра, — усміхаецца Святлана. Маўчаць. Скараход, відаць, успомніў дом, які стаіць амаль у самым цэнтры райгарадка; ад Гомеля, дзе ён цяпер ляжыць у пульманалогіі, паўгадзіны язды на аўтобусе.

— Сена ўсцягнулі на вышкі? — Скараход паглядзеў на кропельніцу, на дзяцей.

— Ага. Зацягнулі. І адразу да цябе, — адказала Святлана.

— Адны ўсцягвалі? Ці Верка са сваім памаглі?

— Адны... — зноў адказала Святлана.

Скараход незадаволены, хмыкае:

— А яны, бач, запанелі. Толькі грошай дай, бацька. А дулю! Хопіць! Усяму калі-небудзь бывае канец. Вяселле ім зрабі, яшчэ якую-небудзь трасцу прыдумаюць. Я гэта ім успомню. Спаць яны будуць мне ў абдымку! А... а тарфакрошку ў хлеў яны не перакінулі? Каля брамы ляжала куча. Я іх прасіў.

— Не бачыла я, — нясмела варухнула плечуком дачка.

— І я не бачыў, — схлусіў Паўлік, бо тая тарфакрошка як ляжала, так і ляжыць.

— Паслеплі, бачу, усе, — буркліва вымавіў Скараход. — Лячыцца трэба. Акуляры купляць.

— Тата, — пастаралася ўсміхнуцца Святлана, — табе ж нельга хвалявацца. У цябе ж сэрца хворае.

Быццам паслухаўся. Але праз хвіліну пацікавіўся:

— Ліпу на дровы папілілі? Ці так і ляжыць?

Святлана і Паўлік пераглянуліся. Скараход зразумеў: і не браліся за ліпу.

— Ясна, — зноў скрывіўся, бы ад болю. — Як дзень ясна. Вам бы толькі ўсім цягнуць з мяне апошнія жылы. Толькі б есці ды піць. Адчуваю, без мяне там і трусы падохнуць. Павел, трусоў корміш?

— Кармлю... — Паўлік апусціў галаву.

— “Кармлю...” Бурак, пэўна, кінеш адзін на ўсіх — і гуляць. Глядзі, за кожнага адкажаш. За кожнага! Спытаю! Таpчанку, матка ўчора гаварыла, зламалі. Хто зламаў? Маўчыце. А што тут скажаш? Ламаць не будаваць, маць вашу!.. Вы хоць печ не разваліце, пакуль я тут. Света!

— Ну, што? — на вачах дачкі ўспыхнулі слёзы.

— Ты не плач, не плач. Масква слязам не верыць, а я што — павінен верыць? Не плач. Памагай матцы. Хопіць гуляць, хопіць!

— Памагаю... — дачка выцерла насоўкай вільгаць на вачах.

— Ведаю, як ты памагаеш. У адрозненне ад вас, я не сляпы. Ведаю-ю... Р... работнічкі, маць вашу!..

Святлана і Паўлік сядзелі перад бацькам і румзалі. Не саромеліся нават вусатага дзядзькі, Пятровіча, які спярша корпаўся ў пакунках з ежай, а потым, захапіўшыся, разявіў рот і сачыў, чырванеючы, за Скараходам.

Дзеці моўчкі падняліся. Моўчкі падаліся да дзвярэй. Скараход выцягнуў з вены іголку, прамакнуў кроў кавалачкам ваты. Хацеў было дагнаць іх, але не змог: закружылася галава, пацяжэла цела.

— Су... сусед... Пятровіч, — паклікаў ён.

Не бачыў Скараход, што Пятровіч выслізнуў з палаты ўслед за яго дзецьмі і, затрымаўшы тых у калідоры, быццам апраўдваўся за бацьку:

— Вы яму даруйце. Гэта хвароба ўсё... Ды і вы ж... і вы ж трохі разумнейшымі будзьце. “Папілілі ліпу на дровы?” — “Так точна!” — “Крошку занеслі?” — “А як жа!” Разумнейшымі, ага, будзьце. А пакуль бацька вернецца — папілуеце і занесяце. Яго прэднізалон тут надоўга затрымае...

Пятровіч з гэтымі думкамі і ў палату вярнуўся. І яшчэ сказаў ужо мёртваму Скараходу:

— Дурань!

## Рэба

Ледзь прачнуўшыся, Рэба глянуў на маці, якая тапталася каля печы, і сказаў пагрозліва:

— Пахмяляй, іначай спалю хату!

— Палі, будзеш у пуні жыць, — абыякава мовіла маці, стаўляючы вілачнікам у печ чыгунок. — Мне ўжо і жыць... Мо не пералетаю. Палі, палі, сынок, хату. Запалкі даць?

Рэба рычэў, бы паранены мядзведзь, ускокваў, піхаў нагамі ўсё, што траплялася на шляху, рассыпаў мацюкі, бы трос паміж пальцаў камякі сухой зямлі:

— Пахмяляй, сказаў!

— Каб ты хутчэй здох, — ціха, не пачуў бы сын, сказала старая і перахрысцілася. — Паплакала б раз, ды і забылася. Колькі жыву, столькі і мучаюся. Гэта немец праклятьі, ірад!.. Гэта ён, гад лупаты! Лепш бы забіў тады яго!.. Я б і не ведала, што бывае на аднаго чалавека столькі мучэнняў...

Старая выходзіла ў сенцы, неўзабаве вярталася з пачатай пляшкай, налівала трохі ў кубак, — каб адвязаўся Рэба, не дакучаў, — і зноў хавала самагон. Рэба ж, пракаўтнуўшы пададзенае маткай пітво, цёгся на вуліцу, пэўны час аглядаўся па баках, а тады валокся да крамы, хоць тая была яшчэ зачынена, але, ведаў, на ганку месца ёсць: можна пасядзець, пачакаць. Ён і сядзеў. Адзін. Іншы раз да яго падыходзіў Сцёпка, жыве якраз насупраць крамы, і тады яны сядзелі ўдвух, курылі і пільнавалі, каго б зачапіць, каб сарваць на пляшку. Калі не ў краме, дык ёсць у вёсцы кропкі, дзе прадаюць лепшы самагон, чым крамная гарэлка.

Сёння Рэба сядзіць адзін, Сцёпкі нешта не відаць. Хоць гукні — вунь яготныя вокны, зусім блізка. Аднак Рэба не рашаецца, баіцца, што высуне галаву з акна Сцёпкава жонка, і тады не здабравацъ: гвалту будзе на ўсю вёску. “Спіць, гад!” — думае Рэба і шкадуе, што сёння Сцёпка, відаць, яшчэ не пасварыўся з жонкай, а то быў бы тут як тут.

Рэба прыхінуўся спіной да дзвярэй крамы і неўпрыкмет задрамаў. Яму прысніўся сон, быццам ён збіраў грыбы, і было іх столькі, нібы бульбы пасля трусілкі на калгасным полі. Доўга ён драмаў ці не — сказаць не можа, але сон пра грыбы яму спадабаўся, і ён пашкадаваў, што яго раскатурхаў нарэшце Сцёпка.

— Нічога няма? — вісела яго лахматая галава над лысай Рэбавай.

— Няма, — адказаў без асаблівай ахвоты Рэба.

— І ў мяне, — уздыхнуў Сцёпка і сеў побач. — А пенсію тваю матка што, усю адбірае?

— Хай бярэ, — цвяроза меркаваў Рэба. — Я ж прап’ю з табой, а жэрці што? Але яна мяне пахмяляе. Прыпугну, што хату падпалю, — дык і налье.

Сцёпка зажмурыў вочы, а тады мовіў асцярожна, нібы між іншым:

— Перад табой, Рэба, немцы ў вялікім даўгу. Таму што ты доўга не мог навучыцца гаварыць слова “рыба”. Ён жа цябе, немец, агрэў па макацёру прыкладам.

— Здох той немец даўно. Калі не забілі ў вайну.

— А за таго немца павінен адказаць той, які жыве сёння. Ці не так? Яго сын, брат, га?

— Можа, — Рэба пазяхнуў. — Але не ўспамінай вайну. Не трэба.

— Я б, можа, і не ўспомніў, але ж яны, немцы, самі пра сябе нагадалі. Сёння ў нашу вёску прыязджаюць германцы.

— То ж без зброі... — уцягнуў галаву ў плечы Рэба. — То добрыя немцы. Іх любіць трэба.

— Любі. Тваё дзела. Але ж могуць яны раскашэліцца хоць раз перад табой? На маркі? Хаця — навошта нам маркі? За іх у нас не возьмеш... Няхай хоць пару пляшак шнапсу дадуць — і ніякіх фокусаў. Вунь, вунь аўтобус... і легкавікі. Едуць, едуць немцы. — Сцёпка ўсхапіўся, падцягнуўся ажно на мысках ботаў, каб пабачыць, куды паруліла нямецкая дэлегацыя. — У кантору. Але нічога, нічога, грамадзяне! Знойдзем і там! Знойдзем! Пайшлі, пайшлі, Рэба, за кампенсацыяй!

Рэба маўчаў. Ён нават не глядзеў на Сцёпку. Ён успомніў вайну. З усяе вайны, праўда, запомніў адно — як ударыў яго немец. Для яго вайна пачалася і скончылася гэтым эпізодам. А ўжо пазней, калі трэба было хадзіць у школу, то навука ў яго не пайшла, затое прымалі, як свайго, у бальніцах.

— Дык ты ідзеш ці не? — насупіўся Сцёпка.

Рэба з крэктам устаў, атрос пыл з портак, заківаў галавой:

— Не, не, не! Я баюся немца...

— Дык гэта ж добры, сам гаварыў, немец.

— Усё роўна — баюся.

— Эх ты! — уздыхнуў Сцёпка, махнуў рукой і сеў на тое месца, якое вызваліў Рэба. — А я думаў, ты смелы... Думаў, што можаш у яго, фрыца, кампенсацыю папытаць. А ты?!. Думай тады, дзе разбагацець на бутэльку.

— Мне ніхто не дасць, — зморшчыўся Рэба. — Матка папярэдзіла людзей, каб не давалі. Злы я, кажа, калі нап’юся. А ці ж я злы, Сцёпка?

— Злы не злы, а нікому кепскага нічога не зрабіў, — сказаў Сцёпка і ікнуў. — Во, нехта ўспамінае. Зінка, хто ж яшчэ. Зараз высуне галаву з акна і так гыркне, што...

Сцёпка не дагаварыў — з-за вугла крамы вытыркнуўся Пахомчык, стары халасцяк, чалавек неакрэсленых гадоў. Ён разявіў рот, быццам здзівіўся, убачыўшы на ганку Рэбу і Сцёпку.

— А загрызці ёсць чым? — нарэшце знайшоўся Пахомчык і паказаў бутэльку. — Як знаў, што вы тут. Сёння я вас частую, заўтра — вы мяне.

— Пра што можа быць гаворка? — засвяціўся твар у Сцёпкі.

Рэба ж стаяў усё яшчэ пахмурны, бы дзень позняй восені.

— Гайда за вугал! — загадаў Пахомчык.

За ім ахвотна патупалі. Там, паміж цаглін, была прыхавана чарка, у цэлафанавым пакецыку ляжаў акрайчык хлеба. Выпілі. Хлеб высах, не ламаўся, таму Сцёпка пабег да дзічкі, знайшоў некалькі паданкаў. Яны яшчэ лепш, чым той чэрствы хлеб. Калі самагон запаліў усярэдку лямпачкі, Сцёпка пажаліўся Пахомчыку на Рэбу, які не жадае сарваць з немцаў, што прыехалі ў вёску, кампенсацыю за таго фрыца, што ў вайну выбіў з галавы ў яго частку розуму.

— І правільна робіць, — не падтрымаў Сцёпку Пахомчык. — Як гэта — пайсці да чужых людзей і прасіць? Гэта ў суседа можна. Хай і дулю іншы раз пакажа. Дык то наша дуля, мясцовая. А калі немец варсане, то яна, тая імпартная дуля, будзе доўга смярдзець. Не ідзі, Рэба. Не слухай.

— Не пайду, — павесялеў Рэба. — Не пайду. Матка сварыцца будзе, калі пачуе... Ну яго, немца!..

Сцёпка нервова плюнуў, а Пахомчык адышоў на хвілінку, апусціў руку ў бур’ян і выцягнуў другую бутэльку.

...Рэба ляжаў на ўзбочыне, падклаўшы далонь пад галаву. Смаліла сонца. Шапка ляжала паблізу — за метр ад яго. Нешта не відаць Рэбавай маткі: наказаў старой сам старшыня калгаса, каб завалакла п’янтоса дадому, каб не сарамаціў калгас і вяскоўцаў перад нямецкімі гасцямі. А яны, немцы, ходзяць па вёсцы, знаёмяцца з жыццём людзей. Неўпрыкмет і на Рэбу натрапілі. Адзін з гасцей рагатнуў, паказаў пальцам:

— П’ян, так?

Старшыня разгубіўся, пачырванеў. Выручыла яго Сымоніха, старая, але жвавая бабулька, якая прымазалася да гасцей і хадзіла з імі па вуліцы, дзе ёй было ўсё знаёма-перазнаёма, але дома не было чаго рабіць, таму і шлындала. Яна, смела зірнуўшы на немца, што паказаў на Рэбу пальцам, сказала гучна і з нейкім непрыхаваным папрокам:

— Ён жа на сваёй зямельцы ляжыць, панок!





## *Майстра сваёй справы*

УЛАДЗІМІРУ ЗАБЕЛУ — 60



**Уладзімір Забела працаваў рэжысёрам-пастаноўшчыкам у Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Коласа, галоўным рэжысёрам Брэсцкага абласнога тэатра, у Мінскім абласным драмтэатры (г. Маладзечна), дзе ім створана шмат цікавых творчых прац. Такія спектаклі, як "Амністыя" М. Матукоўскага, "Не трывожся, мама!" Н. Думбадзе, "Цыліндр" Эдуарда дэ Філіпа, "Бярозавая галінка" Ю. Візбара, "Хітрыкі Скапэна" Ж.-Б. Мальера, "Каўказскі мелавы круг" Б. Брэхта, "Жаніцьба Бальзамінава" А. Астроўскага і іншыя, атрымалі высокую ацэнку крытыкі і гледачоў.**

**Усяго ж ім створана каля 50 тэатральных і тэлевізійных спектакляў, творчыя тэлепартрэты вядомых дзеячаў беларускай культуры і мастацтва, такіх, як Іван Шамякін, Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Андрэй Макаёнак, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Васіль Быкаў і інш.**

**З 1973 г. У. Забела супрацоўнічае з Беларускім тэлебачаннем, дзе вялікі арганізацыйны і творчы вопыт, атрыманы ў час працы ў тэатрах, даў яму магчымасць раскрыць новыя грані свайго рэжысёрскага таленту ў розных жанрах пастановачнага тэлебачання і асабліва ў жанры тэлеспектакля.**

**Яго работы "Крыло цішыні" паводле Я. Сіпакова, "Лісце каштанаў" паводле У. Караткевіча, "Завеі, снежань" паводле І. Мележа, "Плач перапёлкі" паводле І. Чыгрынава, "Я, Іван Дамінікавіч" (старонкі жыцця і творчасці Янкі Купалы), "Тры гадзіны на сачыненне" (аб праблемах школы) — неаднаразова паказваліся па БТ, а таксама па тэлебачанні Грузіі, Малдавіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, маюць дыпломы ўсесаюзных тэлефестываляў.**

**У гэтых працах праявіліся характэрныя для У. Забелы як для рэжысёра-пастаноўшчыка беражлівыя намаганні і адносіны да захавання літаратурнай першаасновы пры пераносе на відэарад, пастаноўка непасрэднай псіхалагічнай задачы для артыстаў, пошук новых пастановачных вырашэнняў.**

**У 1982 годзе праца рэжысёра-пастаноўшчыка была адзначана Дзяржаўнай прэміяй РБ, а ў 1990 — званнем "Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі".**

**Больш чым 20 гадоў У. Забела паспяхова займаецца выкладчыцкай дзейнасцю. З 1972 г. ён выкладае рэжысуру ў Мінскім інстытуце культуры, з 1986 года з'яўляецца мастацкім кіраўніком аддзялення "рэжысура драмы", а з 1990 г. — мастацкім кіраўніком аддзялення "рэжысура тэлебачання" ў Беларускай акадэміі мастацтваў. На другім Рэспубліканскім тэатральным фестывалі "Маладзечанская сакавіца-95" ён быў адзначаны дыпломам за выхаванне таленавітых і працаздольных рэжысёрскіх кадраў.**

**У. МІШЧАНЧУК**

ВАНДРОЎКІ

# Таямніцы Карла Барамея

***Мушу прызнацца: нічога не ведаю пра Карла Барамея, імем якога названы касцёл у Пінску. Энцыклапедыі не спатолілі маю цікаўнасць — толькі распалілі. Нібыта загучала нейкая таямнічая фанетыка фактаў: Каралін, кароль, Карл... Гэты храм, помнік архітэктуры барока, з'явіўся ў колішнім прадмесці Каралін пры канцы 18-га стагоддзя, прычым будавацца пачаў праз 66 гадоў пасля зруйнавання пінскага Каралінскага замка шведскім войскам, загад якому зыходзіў ад самога Карла XII.***

***Цяпер старажытная культавая камяніца — у цэнтры горада. Шыльда на сцяне сведчыць, што касцёл Карла Барамея ахоўваецца дзяржавай. Насупраць увахода зрэдчас прыпыняюцца "Ікарусы", і гэта вельмі зручна для тых, хто бывае тут па вечарах.***

### ВЕЧАР З "ВЕЧАРОЎ"

Набажэнствы ў касцёле Карла Барамея не спраўляюць. Доўгі час яго трактавалі як "памяшканне для народнагаспадарчых патрэб". А з сярэдзіны 90-х у аднаўленым будынку пачаў збірацца пінскі люд, каб спрычыніцца да сакраментаў музычнага мастацтва. Так, намаганнямі культурнай грамады адмысловы архітэктурны помнік ператварыўся ў Пінскую гарадскую канцэртную залу на 120 месцаў. У планах было нават зрабіць музычны цэнтр — з гатэлем для гастралёраў і артыстычнай кавярняй, бо зусім побач з касцёлам ёсць прыдатная камяніца, якую меркавалася злучыць з канцэртнай залай у цэласны архітэктурны ансамбль, дабудаваўшы пераход-галерэю. Прыгожа! Ды, на жаль, рэальнае жыццё паказала свой жорсткі нораў. Натхнёныя перспектывай паляпшэння жыллёвых умоў насельнікі дома пагадзіліся паспрыяць у гэтым і "бліжняму", прапісаўшы ў сваіх кватэрах, як дасведчаныя людзі кажуць, столькі прэтэндэнтаў на адсяленне, што ад цалкам рэальнага праекта засталася ўрэшце фантастычная мара.

Што да католікаў, дык яны на гэты храм не прэтэндуюць. Дарэчы, іх галоўная святыня ўпрыгожвае старажытны цэнтр Пінска і вядзе свой радавод ад колішняй драўлянай пабудовы 14-га стагоддзя. Канчаткова сфармаваны архітэктурны ансамбль датуецца 16—18 стст., ахоўваецца дзяржавай і вядомы як касцёл ды кляштар францысканцаў. На жаль, мне давялося пабачыць яго толькі звонку. Мімаходзь прытуліўшыся да замкнёных дзвярэй, за якімі манашка рэпеціравала вячэрнюю імшу, я ўчула густы голас аргана. Кажуць, паводле сваёй магутнасці гэты інструмент — другі ў Еўропе пасля славутага кракаўскага.

●

Які арган быў у касцёле Карла Барамея — застаецца таямніцай. А для канцэртнай залы горад набыў сучасны электронны інструмент, што дазваляе ладзіць у Пінску арганныя вечары. Сюды часцяком прыязджае вядучы беларускі арганіст Канстанцін Шараў: упадабаў, відаць, гэтую незвычайную, утульную, маленькую музычную выспу. Наогул, артысты любяць выступаць у Пінску. Тут спяваў, напрыклад, вялікі бас Барыс Штокалаў, які быў у захапленні ад акустычных якасцяў залы. А Наталля Гайда збіраецца прыехаць яшчэ...

Каб жывы дух мастацтва саграваў суровыя сцены, што зрабіліся добрым домам для меламанаў, дырэктар залы Яўген Рамашок са сваімі памочнікамі распрацоўвае афішу на ўвесь сезон, да канцэртнага жыцця далучаюцца і калектывы ДМШ N 1. І кожны сезон — да гонару Пінска! — праводзіцца ўласны фірмовы фестываль.

"Лютаўскія музычныя вечары" (так называецца гэты традыцыйны фестываль) сёлета былі пятыя. Сярод удзельнікаў — вакальная група "Камерата" пад кіраўніцтвам Ігара Мельнікава, вядомая піяністка, салістка сталічнай філармоніі Таццяна Старчанка, лаўрэат міжнароднага конкурсу маладых арганіст Расціслаў Выграненка...

Фестывальным абвяшчаўся ўвесь месяц, але канцэрты адбываліся па выхадных. І таму з "Лютаўскіх музычных вечароў" я выбрала адзін: самы, на маю думку, незвычайны і лепшы для знаёмства з музычным Пінскам, бо ўдзельнічалі ў ім толькі мясцовыя выканаўцы.

●

Напэўна, чытач ужо здагадаўся, што гэта была мая першая вандроўка ў Пінск. І той, каму таксама даводзілася начным цягніком-"кругасветкай", што рухаецца рыхтык па-пластунску, пераадольваць дарогу даўжынёю ў працоўны дзень, — той зразумее і мае пакуты, і здзіўленне: а як жа сюды шведы даходзілі?! Але галоўнае здзіўленне, захапленне і радасць — ад пінчукоў, ад іх самабытнага і самадастатковага ладу жыцця, іх паглыбленасці ва ўласную мудрасць і гасціннай адкрытасці... І касцёл на шумнай вуліцы, ператвораны ў канцэртную залу (а заадно і ў выставачную: на сценах размясцілася мастацкая экспазіцыя), і музычны фестываль, дый ці не ўсё, пра што ніжэй будзе гаворка, — ёсць праявы таямнічай палескай душы. Ці ж не так?

Людміла Семянюк на беразе Піны гадавалася, у сталіцы атрымала адукацыю харавога дырыжора, вярнулася да роднага берага. Колькі гадоў таму прадстаўляла Пінскі народны хор палескай песні на Міжнародным фестывалі "Магутны Божа" ў Магілёве. За выступленне ў адпаведнай намінацыі далі дыплом. А Людміле настолькі спадабаўся дух фестывалю, што захацела яна прыехаць туды яшчэ.

Праз год прыехала... з магнітафонам. Запісала багата духоўнай музыкі. З усёй гэтай разнастайнасці для сябе вылучыла новы беларускі твор — кантату Аляксандра Літвіноўскага "Да Маці Божай" на малітоўныя тэксты са зборніка кс. Адама Станкевіча. Яе трактоўка Мінскім абласным камерным хорам і аркестрам "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута здавалася вяршыняй майстэрства. Але Людміла Семянюк захацела выпрабаваць уласны прафесіяналізм. А для гэтага патрэбны быў хор акадэмічнага кшталту. Яна ўзялася за яго стварэнне.

Можа, і не варта сёння ўспамінаць, колькі арганізацыйных, матэрыяльных, маральных і творчых праблем давялося пераадолець: галоўнае, што ўжо другі год Людміла працуе з камерным хорам, які завецца "Покліч". Калектыў існуе на базе Палаца культуры "Трыкатажнік": самадзейных артыстаў тут прынялі, як родных, стварылі ўмовы для рэпетыцый, пашылі элегантныя канцэртныя касцюмы. Адбылася першая гастрольная вандроўка — у Германію. Хто спявае ў хоры? Пераважна педагогі, прычым амаль усе маюць пачатковую музычную адукацыю, прынамсі, ноты чытаць умеюць.

Рыхтуючыся да сёлетніх "Лютаўскіх музычных вечароў", хормайстар здабыла экземпляр кантаты А. Літвіноўскага, а заадно і фрагменты з яго "Stabat Mater" для голасу і аргана, каб прапанаваць для выканання пінскаму салоўку — Сашу Чаркасу. (Ён, дарэчы, браў удзел і ў выкананні кантаты "Да Маці Божай", і выступаў з разнастайнай сольнай праграмай у І аддзяленні фестывальнага канцэрта.)

Хор "Покліч" парадаваў імкненнем да непаўторнага рэпертуарнага аблічча, у якім выразна і годна пазначаны беларускія рысы. "Хваліце імя Гасподне" А. Туранкова, нязвыклая апрацоўка "Зязюленькі" са спадчыны М. Куліковіча, бліскучая і дасціпная "Полька на "па-па" К. Галкоўскага. Побач — вытанчаная скандынаўская харавая мініяцюра, і меладраматычная "Легенда" П. Чайкоўскага, і руская песня... Пры гэтым вядзецца і пошук адпаведнага стылю выканання.

Самаму галоўнаму чалавеку, дзякуючы якому яна стала дырыжорам, — сваёй маме прысвяціла Людміла Семянюк прэм'еру кантаты А. Літвіноўскага "Да Маці Божай". Гераіні прысвячэння, да таго ж яшчэ — імяніннінцы, перапоўненая зала наладзіла авацыю. І ўрэшце сцішылася на чвэрць гадзіны, узяўшы пад увагу просьбу хормайстра не пляскаць у паўзах паміж часткамі твора.

Праўда, і надзвычай прыгожая, высакародная музыка, пра якую ўжо неаднойчы даводзілася мне пісаць, і самааддане выкананне, у якім, апроч хору "Покліч", удзельнічалі Струнны квартэт ДМШ N 1 пад кіраўніцтвам Ірыны Філіпчук, юныя вакалісты Антон Машлякевіч ды Саша Чаркас, габаіст Віталь Верамейчык, — усё гэта правакавала эмацыйную рэакцыю ў адказ, і самым непасрэдным слухачам не заўсёды ўдавалася стрымліваць сверб у далонях...

А якія гарачыя апладысменты грымнулі потым! Асабліва калі публіка даведалася, што кампазітар прыехаў на гэты своеасаблівы аўтарскі канцэрт, адначасова з творчай брыгадай Беларускага радыё, якая планавала запісаць музычныя таленты Пінска.

Аляксандра Літвіноўскага выклікалі на сцэну, яго павітала начальнік аддзела культуры Пінскага гарвыканкама Тамара Лазіцкая. Рэдактар мясцовага тэлеканала звярнуўся па інтэрв'ю. А кіраўнік гарадскога камернага аркестра, ён жа дырэктар ДМШ N 2 Генадзь Арлоў папрасіў аўтарскага дазволу зрабіць аранжыроўку партытуры ў разліку на флейту, габой і кларнет. Бо разам са сваім калектывам і з хорам "Покліч" ён запрошаны на міжнародны музычны сімпозіум у Польшчу, дзе абавязкова трэба паказаць гэты сучасны беларускі духоўны твор...



*Аляксандр Чаркас.*

Пінская прэм'ера нагадвала кранальнае свята ў коле сяброў. Таму і кур'ёзы ўспрымаліся з усмешкай: назву кантаты, напрыклад, чамусьці пераклалі, напісаўшы на афішы і паўтарыўшы са сцэны недарэчна-нязвыклае — "О Матери Божей", а яе аўтара публічна прадставілі як "маладога таленавітага кампазітара-пачаткоўца", хаця А. Літвіноўскага даўно ўжо ведаюць не толькі Мінск і ўся музычная Беларусь, яго творы выконваюць у Еўропе, і не толькі нашы айчынныя артысты...

І ўсё ж як прыемна, калі родная глыбінка без аніякай падказкі "зверху" ці "збоку" адкрывае новы для сябе творчы талент, а той у сваю чаргу знаходзіць новых сапраўдных паклоннікаў. І — чулых інтэрпрэтатараў, якія нават на дзённых рэпетыцыях уражваюць выразнасцю дыкцыі, дакладнасцю тэмпаў, неабыякавасцю да мастацкага вобраза.

### "МЫ АДКРЫЛІ... ПАЛЕСКАЕ ЗОЛАТА!"

Здаецца, галоўныя ўражанні нашага кампазітара ад пінскай вандроўкі сканцэнтраваліся ў гэтай фразе. Тут і ўдзячнасць, і захапленне. Захапленне, якое ў творцы-індывідуала можа выклікаць толькі надзвычай выбітная з'ява, выбітная на штодзённа звыклым, хай сабе й мастацкім, тле тутэйшага музычнага асяроддзя. Залаты самародак, здатны выклікаць захапленне і ў крытыка, і ў скептыка, — гэта пеўчы голас трынаццацігадовага пінскага школьніка Сашы Чаркаса.

Вядома, гонар адкрыцця рэдкаснага таленту належыць не нам. За свой сямігадовы сцэнічны стаж (выступаць у канцэртах пачаў з шасці гадоў!) Саша заваяваў лаўры многіх конкурсаў і фестываляў, сярод якіх "Залатыя ключы", "Усе мы родам з дзяцінства",

# Мужнасць і сардэчнасць

ЛАРЫСЕ КАРОТКАЙ — 80



**Гэтыя два паняцці, бадай, найлепш стасуюцца да жыццёвага шляху Ларысы Лявонцьеўны. Канечне, сюды можна дадаць шчырасць, адкрытасць, чуласць, але першыя ўсё ж дамінуюць. Мужнасць у гады Вялікай Айчыннай вайны, сардэчнасць у мірным жыцці.**

**Ларыса Кароткая пражыла доўгае і няпростае жыццё. Ларыса Кароткая пражыла жыццё вялікае. Нарадзілася ў мястэчку Астрашыцкі Гарадок, што пад Мінскам. Бацька працаваў фельчарам, маці — медыцынскай сястрой. Там жа, у Астрашыцкім Гарадку, скончыла няпоўную сярэднюю школу. Пачала выкладаць рускую мову і літаратуру на рабфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта і ў 5-й чыгуначнай вячэрняй школе г. Мінска, адначасова вучылася ў Мінскім педагагічным інстытуце. Закончыўшы яго, да пачатку вайны працавала выкладчыкам рускай і беларускай мовы ў Астрашыцкім Гарадку.**

**З прыходам фашысцкіх акупантаў стала актыўным удзельнікам антыфашысцкага падполля ў родных мясцінах, затым была партызанкай брыгады "Штурмавая", упаўнаважанай асобага аддзела партызанскага атрада "За Айчыну". А як ваявала Ларыса Лявонцьеўна, можна даведацца з дакументальна-мастацкай аповесці Вольгі Сіманавай "Мы будзем жыць", што напісана па-руску і вытрымала два выданні.**

**Пасля вызвалення Беларусі зноў вярнулася да выкладчыцкай працы — працавала ў Астрашыцкім Гарадку, у Талькаўскай сярэдняй школе Пухавіцкага раёна, у Прылуцкай сярэдняй школе Мінскага раёна. Вучылася ў аспірантуры на філалагічным факультэце БДУ, абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму "Антыцаркоўная традыцыя ў старажытнарускай літаратуры". І назаўсёды звязала сваю працоўную біяграфію з гэтай вышэйшай навучальнай установай — выкладчыца, старшая выкладчыца, дацэнт філалагічнага факультэта.**

**Друкавацца Л. Кароткая пачала ў 1946 годзе ў газетах "Піянер Беларусі" і "Зорька". З 1960-га выступае з літаратурна-крытычнымі артыкуламі, рэцэнзіямі. З'яўляецца аўтарам 9 манаграфій, вучэбна-метадычных дапаможнікаў.**

**Асноўны даследчыцкі накірунак Ларысы Лявонцьеўны — старажытная беларуская і руская літаратура. Сярод яе прац — "Публіцыстыка XIII—XVI стст. у барацьбе з царкоўна-рэлігійнай ідэалогіяй", "Антыцаркоўная сатыра XVII стагоддзя", "На шляху да атэізму. Антыцаркоўная традыцыя ў старажытнарускай літаратуры". Шырокі рэзананс мелі хрэстаматыі "Старажытная руская літаратура ў даследаваннях", "Руская літаратура XVIII ст." і іншыя, адным са складальнікаў якіх стала Л. Кароткая.**

**У полі зроку Ларысы Лявонцьеўны і сучасная беларуская літаратура. Аб гэтым засведчыла і кніга Л. Кароткай "Жывое, роднае...", у якой разглядаецца творчасць Івана Навуменкі, Ніла Гілевіча, Алега Лойкі, даследуецца беларускі фальклор. І, нарэшце, нельга не сказаць, што Ларыса Лявонцьеўна, як маці, выхавала дастойнага сына — знакамітага крытыка і літаратуразнаўцу Варлена Бечыка. Яна парупілася, каб творчая спадчына Варлена Леанідавіча пасля яго заўчаснай смерці ў 1985 годзе была як мага паўней выдадзена: уклала кнігі В. Бечыка "Выбранае" і "Радкі і жыццё".**

**У гэтыя дні Ларысе Лявонцьеўне споўнілася 80 гадоў! Віншуем яе, мужную і сардэчную жанчыну, шчырага чалавека з юбілеем і жадаем яшчэ доўгіх год жыцця і новых творчых поспехаў.**

"ЛіМ"—ФОТА




*Ігар Лучанок: "Чуецца музыка дзіўная..."*

*Фота А. Прупаса*

МЕРКАВАННЕ

# "Адлюстраваць усе зрухі душы..."

Прырода, аб'ектыўная рэчаіснасць распарадзіліся так, што народы расселены па нацыянальных і дзяржаўных "кватэрах", што творчыя дасягненні, у тым ліку і ў галіне мастацкай літаратуры, кожнага з іх адгароджаны моўнымі бар'ерамі. Універсальным і эфектыўным сродкам, які паслабляе, робіць ніжэйшымі гэтыя бар'еры, з'яўляецца пераклад пісьмовых і вусных тэкстаў з адной мовы на іншую ці іншыя. Наглядна і пераканаўча даказвае гэта на прыкладзе беларускай мастацкай літаратуры пачатку XX стагоддзя М. Воінаў у манаграфіі "Плён супольнасці".

Манаграфія ў значнай ступені прысвечана даследаванню праблем мастацкага перакладу. Тут акрэсліваюцца "здабыткі пераважна ў галіне мастацкага перакладу, роля і значэнне апошняга ў станаўленні і развіцці нацыянальнай школы перакладаў", паказваюцца "на прыкладзе лепшых узораў індывідуальныя адкрыцці нацыянальнага пісьмовага перакладу", ацэньваецца "значэнне дзейнасці перакладчыкаў у выхаванні духоўнасці, грамадзянскасці, інтарэсаў, пачуццяў беларускага народа", раскрываецца дыялектыка нацыянальнага і агульначалавечага ў спадчыне перакладчыкаў, бо "кожная нацыянальная культура жывіцца не толькі са сваіх уласных крыніц, але і чэрпае з духоўнага багацця іншых братніх народаў..."

Вырашэнне адной праблемы нараджае новую праблему. Часта апошняя на парадак ці больш вышэйшая за папярэднюю, што вызначае прагрэс у тым ці іншым пытанні. Пераклад вылучыў, зрабіў настойлівай неабходнасцю ўнармаванне мовы як інструмента перакладу, удасканаленне яе як сродку зносін. Побач з гэтым ці ў рамках гэтай праблемы "неабходна было выпрацаваць адпаведную тэрміналогію па многіх галінах навукі, вытворчасці, жыццядзейнасці грамадства..." Саму перакладчыцкую дзейнасць аўтар вельмі правільна адносіць да лепшых школ мастацкага майстэрства, магутных сродкаў пашырэння стылістычнага дыяпазону пісьменніка-перакладчыка, развіцця мовы, узбагачэння яе за кошт адкрыццяў замежных аўтараў.

Даследчык паглыбляецца і ў больш канкрэтныя пытанні — у спецыфіку перакладу вершаваных, празаічных, драматычных твораў і новай публіцыстычнай, навукова-папулярнай, тэхнічнай і сельскагаспадарчай літаратуры. Найбольш поўна раскрываецца спецыфіка паэтычнага перакладу на прыкладах дзейнасці Я. Купалы і М. Багдановіча. Багацце і разнастайнасць фактычнага матэрыялу далі магчымасць аўтару вылучыць аналіз іх перакладчыцкай дзейнасці ў асобныя раздзелы: "Перакладчыцкае майстэрства Я. Купалы" і "М. Багдановіч — перакладчык сусветнай паэзіі".

Побач з глыбокім аналізам пісьменніцкага і перакладчыцкага таленту Я. Купалы аўтар тонка прыкмячае яго мовазнаўчыя здольнасці, удасканаленне мовы, выпрацоўванне лексічных і граматычных норм, патрабавальнае стаўленне да валодання ёю.

Таленавітыя пераклады Я. Купалам твораў лепшых рускіх, украінскіх і польскіх паэтаў сведчаць аб яго глыбокім веданні гэтых трох славянскіх моў, што само па сабе гаворыць аб мовазнаўчых і моватворчых здольнасцях вялікага беларускага песняра.

М. Багдановіч, як вядома, ведаў дасканала некалькі замежных моў. Яшчэ ў 1902—1908 гг., калі вучыўся ў Ніжагародскай мужчынскай гімназіі, а затым у Яраслаўскай (закончыў у 1911 г.), ён трывала авалодаў лацінскай, нямецкай і французскай мовамі. Ведаў ён, безумоўна, украінскую, польскую, а рускую тым больш. Да гэтага пераліку трэба дадаць грэчаскую і італьянскую. "Грунтоўная лінгвістычная падрыхтоўка, — зазначае аўтар, — дазволіла М. Багдановічу ў сваёй перакладчыцкай практыцы абыходзіцца часцей за ўсё без падрадкоўніка, працаваць непасрэдна з арыгіналам".

У сваёй перакладчыцкай дзейнасці М. Багдановіч не толькі ўдасканальваў беларускую мову як інструмент прыгожага пісьменства, але і абараняў яе ў гэтай якасці. Яскравае сведчанне таму адказ М. Багдановіча добраму свайму яраслаўскаму сябру, загадчыку літаратурнага аддзела рэдакцыі газеты "Голас" М. Агурцову. На яго пытанне: "Чаму Вы, народны беларускі паэт, напоўнілі Вашу кніжачку ("Вянок") санетамі, рандо, трыялетамі і іншымі чужымі народу формамі? Акрамя таго, Вы амаль да кожнага верша далі па эпіграфу ледзь не на ўсіх еўрапейскіх мовах. Навошта гэта?" М. Багдановіч адказвае: "За беларускай мовай не хочуць прызнаваць самастойнасці і самабытнасці. Не хочуць дапускаць і думкі, што на гэтай мове можна адлюстраваць усе зрухі душы чалавека і даць любую літаратурную яе форму. Я сваёй кніжачкай хацеў паказаць, што ўсё гэта магчыма. А для гэтага патрэбна было беларускую мову паставіць побач з еўрапейскімі мовамі".

Узровень багдановічаўскага таленту перакладчыка і мовазнаўцы (у прамым значэнні гэтага слова) характарызуецца і тым, што ён перакладаў не толькі на беларускую мову, але і з беларускай на рускую. Вядомыя і пераклады М. Багдановіча ўкраінскай паэзіі на рускую мову, што стала яго важкім укладам у садружнасць усходнеславянскіх літаратур і моў.

М. Багдановіч разам з Я. Купалам у пачатку XX ст. былі, па сутнасці, першымі і самымі знакамітымі мастакамі-перакладчыкамі. Яны пераўвасаблялі сродкамі сваёй мовы не асобныя словы, радкі, а сістэму ўзаемадзеяння іх у мастацкай завершанасці, змест твора, яго стылёвыя асаблівасці, яны арганічна сплаўлялі змест і форму паэтычнага твора.

Галоўнай заслугай аўтара манаграфіі з'яўляецца, на наш погляд, раскрыццё "кухні літаратурна-мастацкага перакладу і значэння яго для ўзаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння літаратур розных народаў на прыкладзе ў асноўным беларускай, украінскай і польскай літаратур на памежжы XIX і XX стагоддзяў, ролі перакладу ва ўсеагульным выкарыстанні індывідуальных творчых здабыткаў таго ці іншага народа. Сапраўды, пераклад — гэта і сам плён супольнасці, і сродак спасціжэння гэтага плёну.

**Канстанцін УСОВІЧ,**
**загадчык музея-лабараторыі Ф. Скарыны ГДУ імя Ф. Скарыны**

# "Я — спрадвечны шукальнік..."

Калі літаратары збіраюцца разам, то паэтаў заўсёды болей. Так і ў самім творчым саюзе, так і на нядаўнім семінары маладых. Бачыць свет праз каляровую прызму вобразаў, пражываць унутранае як несумненную рэальнасць, перадаваць пачуцці і думкі суладнымі радкамі — гэта, вядома ж, вялікая радасць і дарунак звыш. Праўда, не ва ўсіх творчы імпульс аднолькава моцны. Пройдзе паўдзесятка гадоў, і многія будуць дзівіцца: а куды з паэзіі дзяўчаты падзеліся? Яны не падзенуцца, проста памяняюць форму самарэалізацыі...

Арганізацыйны падзел на дзве групы прайшоў няпроста, але ў духу дэмакратыі: кіраўнікоў выбіралі, зыходзячы з літаратурных густаў, ступені дасведчанасці, а падчас і звычайнай інтуіцыі.

Да падбору ўдзельнікаў арганізатары паставіліся адказна, выпадковых людзей амаль не было. Кандыдатуры прадстаўлялі "Чырвоная змена", "Маладосць", "Крыніца", "Першацвет", абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў, дзяржаўныя камітэты па друку і справах моладзі. Назіралася адно значная дыстанцыя ў ступені майстравітасці: адны паэты толькі спрабавалі голас, другія ўжо вызначыліся тэматычна і стылёва. Былі і такія, што як бы "завіслі" паміж вучнямі і настаўнікамі. Сярод іх, на мой погляд, Галіна Дубянецкая і Мікола Віч.

Паміж традыцыяналістамі і наватарамі — у асноўным прадстаўнікамі Бум-бамліта — раз-пораз усчыналіся дыскусіі, адчуваўся светапоглядны антаганізм. Прычым горад браў "падкаванасцю" і амбіцыямі, а глыбінка — натуральнасцю самавыяўлення і свежасцю бачання.

Што рыхтуецца вялікая агульная нізка для "ЛіМа", было сказана на адкрыцці семінара, але вершы прынеслі не ўсе. Часткова творы былі сабраны напярэдадні кансультантам СБП Зміцерам Вішнёвым.

Падчас абмеркавання вершаў Віктара Жыбуля мне ўдалося запісаць асобныя фрагменты. Прывяду іх дзеля ўяўлення пра атмасферу групавых заняткаў.

**"Паэт стварае для сябе іншы свет і жыве ў ім сур'ёзна. Яму, здаецца, добра і ўтульна нават у "страшылках" з мерцвякамі."**

**"Перад намі сучасны кубафутурызм, на які руская паэзія перахварэла на пачатку стагоддзя. Віртуальная рэальнасць."**

**"Прыкольна!"**

**"Побач з канструктывістам адчуваецца і Жыбуль-лірык. Вельмі арганічная паэзія, няма нічога лішняга."**

**"Надакучыла светлае і ўзнёслае і нашай паэзіі. Ствараем нейкую белую калону і молімся на яе."**

**"У мяне ўражанне штучнасці вобразаў. Словы скампаноўваюцца, каб было як мага вычварней ("зацыферблачаны"). Аж галава разбалелася ад такіх вершаў..."**

**"Як у каго, а ў мяне крытэрый адзін: калі кранае — гэта паэзія."**

**"Мне б хацелася, каб Жыбуль знайшоў сябе. Пакуль што ён шукае. Плённа, цікава, але шукае."**

На заканчэнне прывяду выказванне Навума Гальпяровіча, пад якім не раздумваючы падпісаліся б усе кіраўнікі паэтычных секцый — і Леанід Дранько-Майсюк, і Любоў Турбіна, і я: "Заўсёды варта памятаць, што мы толькі інструменты, якія транслююць шэпт Бога".

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## Ірына ДАРАФЕЙЧУК

●

*А мне Дзвіна заўсёды птушкай*
*мроіцца —*
*Ўзляціць спалоханая, следу не пакіне.*
*Ўзмахне крыламі*
*над самотным Полацкам*
*І кінецца за жураўліным клінам.*

*Тужлівая, загадкавая, горкая,*
*Параненая нашым раўнадушшам,*
*З адбітымі саборамі і зоркамі,*
*Пакрыўджаная незямная птушка...*

*Калі яна не адлятае ў вырай,*
*Дык толькі з-за таго, што нават сёння*
*Яшчэ чыюсьці адчувае шчырасць,*
*Яшчэ сядае некаму ў далоні.*

*А мне Дзвіна заўсёды птушкай сніцца,*
*Уздрыгваюць вясёлкавыя крылы...*
*Не кожнаму вада*
*Даверыць таямніцы,*
*Не кожнаму зямля душу адкрые...*

●

*Ты ў рэшце рэшт раскажаш мне аб тым,*
*Каму належаў той няўлоўны профіль,*
*Што ты намаляваў на мокрым шкле,*
*Не пажадаўшы мне раскрыць прычыну*
*Яе з'яўлення між табой і мной...*

*Я ў рэшце рэшт перажыву сваё*
*Няўдалае каханне да партрэта*
*Ці да няяснай цені на сцяне*
*Маёй непатрывожанай кватэры,*
*Ў якую толькі ты пасмеў зайсці...*

*Мы ў рэшце рэшт сумеем уцячы*
*Ад тых, што побач. І зажыць прыгожа,*
*Нягледзячы на рознасць адчуванняў*
*І прадчуванняў... роўную нулю...*
*Ды гэта будзе ўжо другая казка...*

г. Полацк

## Віктар ЖЫБУЛЬ

●

*Я — стваральнік зарослых быллём*
*дэканструкцый,*
*растваральнік самотных*
*і светлых ілюзій,*
*затыкальнік вушэй ад сухіх інтрадукцый,*
*забівальнік мышэй у гнілой кукурузе.*

*Я выношваю ў торбе уран і плутоній,*
*назіраючы бляск ланцуговых рэакцый.*
*Я — спрадвечны шукальнік*
*інакшых гармоній*
*у кутах слізгацення*
*праменных дыфракцый.*

*Незнарок наступіў я на папараць-кветку,*
*заблукаўшы ў сутонні тэхнічных рэалій.*
*Я выцягваю палец з абрыдлай разеткі.*
*На душы асядае цыяністы калій.*

### Выходжу

*Выходжу*
*спатыкаючыся ў цемры*
*аб халоднае каменне*
*Выходжу*
*цюкаючыся лбом*
*аб нябачныя празрыстыя сцены*
*шукаючы навобмацак святло Выходжу*
*пахіла сунучыся цёмнымі калідорамі*
*скрыўленымі на манер*
*спружынаў лесвіцамі*
*рухаючыся адчыняючы й зачыняючы*
*ўсё новыя й новыя дзверы Выходжу*
*прабіваючыся праз завалы заклапянелага*
*ламачча ціснуся пхаючыся*
*ў вузкія адтуліны*
*паўзу раздзіраючы ў кроў апошні нос але*
*Выходжу бягу зміятаючы ўсё навокал*
*Выходжу разрываючы на шматкі*
*шызую завесу Выходжу*
*Выходжу Выходжу*

### Сандзень

*мы мылі*
*неба*
*самі*
*сваімі рукамі*
*удзень цёрлі на пральнай дошцы*
*кавалкам духмянага мыла*
*ажно да дзірак*
*азонавых*
*самі*
*сваімі рукамі*
*драілі неба*
*уначы паласкалі*
*ў растворы эфектыўнага*
*зорнага парашку*
*потым павесілі над зямлёю*
*сушыцца*

*А можна ж было*
*ўзяць яго*
*скамечыць*
*ды запхаць у пральную машыну*
*замежнай вытворчасці!*

г. Мінск

## Ярына ДАШЫНА

### Радзіма

*Кветкай першай, блакітнай вясной —*
*незнаёмая радасць.*
*Ты — усмешка матулі маёй*
*і далоняў шурпатасць.*
*Па-над соннай ракою агні*
*і загадкавасць сада.*
*Дахі хат, што буслы будуць сніць*
*на чужацкіх прысадах.*
*Ты — як зорка, што з цёмнай начы*
*прыляцела іскрынкай*
*І прыціхла ў мяне на плячы*
*напамінкам — радзімкай.*

●

*Заламалі дрэўца —*
*тонкую таполю.*
*Карані ў зямліцы,*
*ды завяла голле.*
*Крумкачы паселі*
*у засохлым брудзе.*
*Як не будзе песні,*
*то й жыцця не будзе.*
*Бур'яны ды зелле*
*ля старой капліцы.*
*Дзе ж мае карэнні?*
*Дзе ж мая зямліца?*

Брэсцкі р-н

## Таццяна БАРЫСІК

●

*Дзе над рэчкай вербы хіляцца тужліва,*
*Краю ёсць гаротны, краю нешчаслівы.*
*Там дасюль па вёсках жнуць*
*сярпочкам жыта,*
*Вокны хат пакінутых дошкамі забіты.*
*На зямлю-бядачку неба шле праклёны,*
*Чарнабыл шуміць там, а не гай зялёны.*
*Чарнабылам едкім зараслі палеткі,*
*На іх гаспадарыць скваппая суседка,*
*А зямелькі дзеткі — дочкі ды сыночкі —*
*Споены, атручаны, разагнаны ўпрочкі.*
*Там не чуюць песень пушчы ды дубровы.*
*Вуснамі засмяглымі шэпчуцца замовы.*
*Не пяюць — складаюць, як калісьці, оды.*
*Кажуць, значна лепей стала*
*жыць народу...*

г. Магілёў



*Пераможцу рэспубліканскага конкурсу Віктара ЖЫБУЛЯ віншуюць Зіновій ПРЫГОДЗІЧ і Вера СІЛЬВАНЮК.*



*Заняткі ў секцыі прозы. Кіруе Генрых ДАЛІДОВІЧ.*
*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ, Яўгена ПЯСЕЦКАГА*

## Алесь ТУРОВІЧ

### Тэрра

*Зямля стала зусім маленькай,*
*Калі ўсе пачалі гуляць у Тэтрыс.*
*Яна стала бясконцай сметніцай,*
*Куды скідваюцца бясплотныя*
*Рознакаляровыя кубікі.*
*Нельга ў сметніцы выкідваць цэлафан і*
*Сінтэтыку — бо яны стагоддзямі будуць*
*Ляжаць у зямлі. Хаця, ужо можна —*
*Бо кубікі ўсё адно яе накрыюць.*

●

Пісьменніку К.

*Не паспеў сказаць —*
*Пачулі.*
*Не паспеў напісаць —*
*Спісалі.*
*Не паспеў надрукаваць —*
*Уручылі прэмію.*
*Не паспеў выступіць на ўрачыстасці —*
*Выдалі ордэр на арышт.*
*Не паспелі арыштаваць —*
*Увялі ў школьныя падручнікі.*
*Не паспелі ўвесці ў праграму —*
*Стала знікаць мова.*
*Не паспела знікнуць мова —*
*Нарабілі перакладаў.*
*Трэба забараніць чытаць тыя пераклады,*
*Каб іншыя мовы не зніклі.*

г. Мінск

(Працяг на стар. 14—15)



## ЧАСАПІС

## Землякі помняць Мележа

Люты — месяц нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Івана Паўлавіча Мележа. Сёлета аўтару сусветна вядомых раманаў "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" споўнілася б 78 год.

Вечар памяці Івана Мележа адбыўся ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны. Студэнты чыталі ўрыўкі з твораў слыннага пісьменніка-земляка, а выкладчыкі, якім пашчасціла сустракацца з ім, дзяліліся ўражаннямі аб тых хвілінах.

Мерапрыемствы, прысвечаныя дню нараджэння Івана Мележа, праведзены таксама ў многіх бібліятэках і школах Гомельшчыны.

Ігар ЛЯСНЫ

## З кагорты лімаўцаў

Георгій Колас не дажыў да свайго 70-годдзя, заўчасна памёр 18 снежня 1994 года. 30 сакавіка 1930 года сям'я была раскулачана, і ён разам з бацькамі апынуўся на спецпасяленні ў Гаінскім раёне Комі-Пярмяцкай нацыянальнай акругі. Вызвалілі 14 верасня 1945 года. Скончыў філалагічны факультэт Кудымкарскага настаўніцкага інстытута, а потым акцёрскі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Два гады працаваў акцёрам Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра ў Мінску. У 1961—1964 гадах з'яўляўся супрацоўнікам "ЛіМа". З артыкуламі па пытаннях тэатральнага мастацтва і драматургіі выступаў з 1953 года. Аўтар шэрагу кніг, а таксама звыш дваццаці пяці сцэнарыяў дакументальных і навукова-папулярных фільмаў.

## Тэатральныя сустрэчы ў музеі

Калі ў музей ідуць на выставу глядзець творы мастацтва, гэта натуральна. Калі ідуць у музей на канцэрт слухаць музыку, гэта зразумела. Калі ў музей ідуць на спектакль, гэта неардынарна, але зразумела і натуральна. Пад дахам музея сустракаюцца музы. Мельпамена і Кліо ладзяць свае сумоўі пад дахам Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Гэты музей разам з тэатрам "Зьніч" пачаў ажыццяўляць праект "Тэатральныя сустрэчы ў музеі". Звычайна гэтыя сустрэчы адбываюцца ў кантэксце тых ці іншых музейных экспазіцый альбо выстаў. У рэпертуары Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" дастаткова спектакляў, каб быць сугучнымі іх настрою і зместу.

Адбываецца гэта так. Навучэнцы школ, гімназій, ліцэяў знаёмяцца з выставачнай экспазіцыяй. Потым мастацкая рэальнасць мяняецца, ператвараючыся ў драматычнае дзейства: яны глядзяць спектакль, які захоўвае ўнутраную повязь з вобразамі выставы. Пасля пабачанага і пачутага гледачы могуць выказаць свае эмоцыі, асацыяцыі і асэнсаванні на аркушах паперы (у прадмове перад спектаклем іх да таго заахвочваюць) альбо не выказаць... Як хто захоча...

Праект стартаваў летась са спектаклем "Белы сон" па творах Ларысы Геніюш. Дзве сёлетнія тэатральныя сустрэчы ў музеі адбыліся на працягу апошніх тыдняў студзеня. Язэп Драздовіч — Янка Купала; Язэп Драздовіч — Максім Багдановіч. Такая адбылася повязь.

Ні слова, ні жэста не прапусцілі маладыя гледачы, сочачы за фантастычнай у сваім майстэрстве актрысай Галінай Дзягілевай у спектаклі "Мне сняцца сны аб Беларусі". Жывы гук гітары (акампаніраваў Кірыл Успенскі) надаў спектаклю выкшталтных фарбаў. А праз тыдзень ужо іншая маладая публіка пасля сустрэчы з творчасцю Драздовіча перажывала смутак і радасць і гучна падпявала акцёрам Вячаславу Статкевічу і Аляксандру Шундрыку ў спектаклі па творах Багдановіча.

Тэатральныя сустрэчы ў музеі будуць мець працяг...

І. З.

## "Кантакты і дыялогі", N 1

Да 200-годдзя з дня нараджэння А. Пушкіна Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны рыхтуе зборнік "А. С. Пушкін і Беларусь". Увазе чытача прапануецца адзін з артыкулаў — "Пушкінскі юбілей 1899 года ў Мінску" І. Сцяпуніна. Супрацоўнік міністэрства адукацыі Францыі Ж.-П. Жанто летась правёў сацыялінгвістычнае апытанне ў Мінску. Матэрыялы яго змешчаны пад назвай "Папярэднія высновы беларусазнаўчага сацыялінгвістычнага апытання". А. Мальдзіс ("...Уважаю сваім народам") расказвае пра мастака Л. Дабражынскага. У нумары ёсць пастаянныя раздзелы "Беларускае замежжа", "Рэцэнзуем кнігі", "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце".

# "Я — спрадвечны шукальнік..."

(Працяг. Пачатак на стар. 13)

### Таццяна БОНДАРАВА

●

*Сінія зоркі на пругкіх далонях ялін;*
*Казачным цьмяным блакітам*
*іскрацца сумёты;*
*Стомлена,*
*сонна ўздыхае вятрыска залётны,*
*Сцежку згубіўшы*
*ў сплясенні густых вершалін.*

*Шэпчуцца дрэвы*
*(напэўна, пра нас і гамоняць).*
*З цёмных галін, патрывожаны,*
*падае снег.*
*Сіняя зічка чакае ў цябе на далоні...*
*Толькі — навошта? Ты ёсць.*
*Ты прыйшоў да мяне.*

●

*Спалучае сучаснасць*
*У штодзённым узоры*
*Нітку светлага шчасця*
*З ніткай цёмнага гора.*

*І сплятаюцца ў тайну*
*Пад рукой нетаропкай —*
*Як адказ і пытанне,*
*Як сняжынка і кропля,*

*Як канец і працяг,*
*Як прысуд і збавенне —*
*Незваротнасць быцця*
*І бясконцасць імгнення.*

Віцебскі р-н

### Сяргей ПРЫЛУЦКІ

●

*Па квадратных плошчах*
*туды-сюды*
*бадзяюцца натоўпы*
*рыкаюць*
*аблізваюць*
*сухія косткі транспарантаў*
*б'юцца ілбамі аб краты*

*у тым заапарку*
*ніколі не будзе мяне*

г. Брэст

### Юрый АРЭСТАЎ

●

*Разляцелася па полі*
*Варанні, нібы вуголле*
*Адгарэўшых век свой зорак,*
*Ззяўшых некалі ў прасторы.*
*Будзе час — і нашы душы*
*Нехта велічны патушыць,*
*І ў агаленым тумане*
*Чорных птушак болей стане.*

г. Рагачоў

### Серж МІНСКЕВІЧ

## Секунды

*Спрасаваныя ў словах*
*думкі на волі*
*Горш некаторым за ядзерны выбух.*

*Бедная нябесная зорка*
*Упала, дзе стаяла чарга.*

## На вуліцы Мінска

*— Гэй, чалавек,*
*Я дару табе свае вершы...*
*На беларускай...*
*Прабач...*

*Страшная чорная ноч,*
*Калі страшныя людзі.*

*У навальніцу — вар'яцтва —*
*Хавацца пад плешку цвіка!*



Хвілінка паэзіі. Любоў ТУРБІНА і вучаніца Мінскай СШ N191 Ксенія БРЭЧКА.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА

*Халодны цуд сняжынкі*
*Растае на адкрытай далоньцы.*

*Гадзіннік без маятніка —*
*забаўка, непатрэбіца.*
*А чалавек без сэрца?*

*Чаму жыццё не кінастужка,*
*З якое можна выразаць боль?!*

г. Мінск

### Вікторыя САЛАЎЁВА

●

*Басаножа ляцець сярод калоссяў,*
*Як прыліў — па акіянскай хвалі,*
*Васількі — блакітных кропляў россып —*
*У букет збіраць, каб абмывалі*
*Вусны мне расістыя пялёсткі.*
*Прадчуваць смак ветранай свабоды*
*І галінкі вербнай дотык хвосткі...*
*Шчырасці вучыцца.*
*У прыроды.*

г. Мінск

### Алена ГІНЬКО

●

*Я думала душой,*
*а быў патрэбен розум...*
*Я ж думала душой,*
*бо я была з табой.*
*Я думала душой,*
*адкінуўшы цвярозасць,*
*бо я жыла табой,*
*і я была табой.*
*Я думала?..*
*Ды ну!..*
*Я ў мроіве лунала.*
*Цяпер сябе кляну*
*адну —*
*адну —*
*адну...*

г. Віцебск

### Ганна БАНДАРЭНКА

## Схавай мяне, мама...

*Як мы любілі ў хованкі гуляць!*
*Азарт і смех зліваліся у адзінстве.*
*Матулі вочы, здольныя схаваць,*
*не раз дапамагалі мне у дзяцінстве.*
*— Схавай мяне, мама!*

*Я маму зноў прымушана прасіць:*
*— Ад здрады і памылак, ад маркоты,*
*Ад болю і жыццёвых навальніц,*
*Ад жорсткасці, ад зла і ад гаркоты:*
*— Схавай мяне, мама!*

г. Светлагорск

### Анатоль БРУСЕВІЧ

## Мае вочы

*Мае вочы, бы кратэры Марса,*
*пустыя.*
*Я халодны і выліты зноў*
*на падлогу.*
*Мае вочы, нібыта рамансы*
*чужыя,*
*у якіх я кахаю любоў*
*да чужога.*
*Мае вочы зліваюцца ўшчэнт*
*з мадэрновым.*
*Мае вочы падобныя з мовай*
*Сусвету.*
*Я стаміўся ад радасных бед*
*і стомы,*
*і настрой мой заўсёды*
*зімова-летні.*

г. Гродна

### Вальжына МОРТ

## Крыўда

*Мара — не быць*
*абароненым ад смерці.*
*Ціха вуснамі вусны*
*згрэбсці.*
*Спі, дзіцятка, спі...*

*Мовіць словы,*
*на якія можна адказаць*
*толькі маўчаннем*
*і кідаць іх*
*па начах мне.*
*Спі, дзіцятка, спі...*

*Мы надта маладыя,*
*каб жыць,*
*і старыя,*
*каб збірацца на вайну.*
*Наш занятак —*
*хутчэй астыць.*



Вальжына МАРТЫНАВА (МОРТ) і Алена ЗАНКАВЕЦ.



Не сумуй, снегавік, што зіма канчаецца...

Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ

*Наша справа —*
*пайсці на дно.*
*Наша ганьба —*
*наша слава.*
*Наша справа —*
*наша мара —*
*не быць абароненым*
*ад смерці.*
*Ціха вуснамі вусны*
*Ну, і добра*
*Спі, дзіцятка, спі...*
г. Мінск

Віталь КЛУНЕЙКА

•

*Падбітае юнацтва стогне,*
*падвешанае за рабрыну*
*якойсьці не юнацкай стомай,*
*забруджанай смуродным дымам.*
*А па-над сінім краем лесу*
*Ўсё больш змяркаецца пад вечар,*
*дзень не вытрымлівае стрэсу*
*і мне кладзе яго на плечы.*
г. Гродна

Марыля ЛАГОДЗІЧ

•

*Верш без рыфмы і без радкоў:*
*проста словы, словы без сэнсу...*
*Мы у коле дзеяў і сноў,*
*на прыступках жыцця і смерці.*

*Верш без назвы і без пакут,*
*без пачатка і заканчэння.*
*Нехта шэпча "застанься тут",*
*нехта кажа "да пабачэння"...*
г. Брэст

Андрэй КУЗЬНЕЧЫК

•

*Адчыняюцца дзверы, крочыць*
*Па старэнькіх масніцах лета.*
*Сонца промень цікаўна сочыць*
*За радком у блакноце гэтым.*

*У мяне з ім заўжды канфлікты*
*Аб паэзіі, этыкеце.*
*Вось ізноўку не надта сціпла,*
*Прайдзісвет, у блакнот мой лезе.*

*"Ах ты цэнзар! — крычу я гнеўна, —*
*Дзе згубіў ты апошні сорам?!*
*Ты забыўся, спадар, напэўна,*
*Што цэнзура па-за законам!"*

*І ўсміхнуся пасля: "Ну, што ты,*
*Не зважай, не крыўдуй так моцна..."*
*Ўсё ж прыемна, што хоць і ўпотай*
*Твае вершы чытае сонца.*
г. Мінск

Ірына ПОЎХ

•

*Змярканне з вясёлкай*
*у крэсле*
*У маім спачывае пакоі,*
*былое бязлітасна крэсліць,*
*душу наталяе спакоем.*

*Ласкавай, пяшчотнай коткай*
*прытуліцца вечар да печкі,*
*і голасу цёплыя ноткі*
*прыпыняць бязглуздыя спрэчкі.*
Жабінкаўскі р-н

Ганна ПАНАМАРЭНКА

•

*Мы нараджаемся ад болю.*
*Мы паміраем ад свята,*
*Нам выбірае нехта долю,*
*Сусвет і месца ля стала.*

*Нам нехта кроіць шлях і веру,*
*Сяброў, радзіму, нават кроў.*
*Я ж, апантаная, не веру,*
*Што можна выкраіць любоў.*

*Мы нараджаемся ад смагі,*
*Мы паміраем ад маны.*
*Жывём для спатолення прагі*
*Пазнання, страсці і вайны.*

*Нас нехта торгае за паскі*
*І мы сыходзім у нябыт,*
*Дзе кожны з нас вачамі цацкі*
*Глядзіць у сонечны блакіт.*

*Хто ж нараджаецца для цуда,*
*Той паміраe на крыжы...*
*На што патрэбен быў Іуда?*
*Дзеля акрэслення мяжы.*

•

*Не трэба ганьбіць боскі падарунак*
*І мудраваць над стратамі жыцця.*
*Боль — гэта шлях, і выбраўшы кірунак*
*Ты мусіш шлях трымаць да небыцця.*

*Але, глядзі — мо дрэўца пры дарозе,*
*Ручай халодны, ягадны бур'ян*
*І ёсць той самы светлы боскі позірк,*
*Які пасланы для гаення ран.*
г. Магілёў

# Іншае ў іншым: палюбіць?..

## СПРОБА ТЭАТРАЛЬНАГА АНАЛІЗУ ПАД УЗДЗЕЯННЕМ ДЭРЫДЫ

"Мы цікавыя адно аднаму хіба сваёю непадобнасцю". Выснова спаквалля прайшлася па ўсіх баках чалавечай дзейнасці.

"Чым больш варыянтаў мае від, тым больш у яго шанцаў выжыць". Гэта — таксама хтосьці выснаваў, сцвердзіў і нават мастацтва прыняло фармулёўку ад біялогіі. Асабліва блізка да сэрца — мастацтва тэатральнае. Такое чуллівае, такое ўспрымальнае, такое збіральнае: ледзь штосьці дзесьці з'явіцца — прыём, эстэтычны кірунак, інтанацыя, мода на памер ілба ці форму клубоў — усё апынаецца ў ягонай збройні. Так што наша сёлетняя, канца тысячагоддзя тутэйшая тэатральная прыцягальнасць, вабнасць, чытайце — адрознасць адно ад аднаго палягае не адно ў мастацкай, чысцютка мастацкай галіне.

Адметнасць палягае і ў тым імпэце, з якім Рускі тэатр Беларусі пад кіраўніцтвам Барыса Луцэнкі прадстаўляе "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы, — на беларускай мове, упэўнена, разлічана, зухавата-жорстка, у рэзкім тэмпарытме, са спевамі Аляксея Шадзько (акцёра, якога адметна сфармавалі музычныя імпрэзы), без лірычных перабольшанняў, але і без чаканага заглыблення ў пакрыёмую аўтарскую сутнасць.

Адметнасць палягае і ў тым, як Нацыянальны Купалаўскі прадстаўляе свайго адноўленага "Касцюмера", прысвячаючы спектакль акцёру Рускага тэатра Аляксандру Кіставу і ўсім трагічным акцёрам. Гэта — жаданне-просьба Мікалая Пінігіна, рэжысёра спектакля, свядчанне глыбіннай павагі чалавека пэўнага культурнага гарту да чалавека іншай культуры, — жыццёвы ідэал абодвух, магчыма, вызначыў Дэрыда, сцвердзіўшы: "Палюбі іншае ў іншым".

Адметнасць і ў тым, з якой далікатнаю настойлівасцю купалаўцы аднавілі свайго "Касцюмера" (з хворым сэрцам мусіў пакінуць яго Мікалай Яроменка, выканаўца адной з галоўных роляў). Валянцін Белахвосцік, тэатральны мэтр сэр Джон, задае спектаклю дакладны і часам дзёрзкі тэмп, — такі, што нават па смерці ягонага героя атачэнне не пераводзіць дых, не прыпыняецца, не тармозіць. Паплечнікі сэра Джона будуць іграць Шэкспіра — Шэкспіра, якога немагчыма стала іграць з-за Гітлера, асабістага ворага старога мэтра! Сэр Джон, адной чы ачоліўшы сваю трупу, яшчэ доўга будзе вызначаць яе дзеянні...

Вызначальнымі, ключавымі постацямі першай драматычнай сцэны рэспублікі, — Нацыянальнай сцэны, — робяцца Князь Вітаўт і Ромул Вялікі. Сам Гамлет Рускай сцэны Беларусі (каторы ўжо, ды гэты раз не самы пераканальны — Барыса Луцэнкі) з вечным "Пытаннем: быць альбо не быць", як герой на ўсе часы, саступае героям вастрыні нашага часу, — Купалаўскім дзяржаўнікам, якія кажуць пэўна: адзін — быць, другі — не быць. Вітаўтава "быць" — дзяржаве, годнасці люду паспалітага, як і ўсяму, што ў Вітаўтавай дзяржаве мае быць і мае месца. Ромулава "не быць" — усяму, што вярзецца й дзеецца ў Ромулавай дзяржаве, "не быць" і самой дзяржаве таксама. Кожны з праваднікоў вырашае паводле свайго статуса, сваёй уплывовасці, важкасці, значнасці свайго адметнага праваднірства. (У першым выпадку яно відавочнае, агульназразумелае і бясспрэчнае, у другім хісткае, сумнеўнае, але не менш вынікова.) Абодва выказваюцца пэўна. Абодва фармулююць проста, даступна, дасціпна.

Іх выканаўцы-акцёры не страшаць гледача сучаснымі палітычнымі алюзіямі, не ціснуць на вытлумачэнне рэчаіснасці, бо палітыка іхніх персанажаў не мае ў гэтым патрэбы, — яна была напраўду вялікаю. Палітыка аднаго — у пабудове ды ўмацаванні. Другога — у патуранні знішчэнню й разбурэнню. Вітаўтава дзяржава, паводле Вітаўта, вартая будучыні. Ромулава дзяржава, паводле Ромула, няварта існавання ўвогуле. Ён можа хіба спрыяць яе знішчэнню. Або лепей: паспрыяць яе знішчэнню Ромул можа.

Асабістыя акцёрскія якасці Генадзя Давыдзькі (Вітаўт) ды Аўгуста Мілаванава (Ромул) адыграюць вырашальную ролю ў маштабах асоб, прадстаўленых з купалаўскіх падмосткаў. І першы, і другі мусяць шмат прамаўляць. Асноўныя, гістарычна-вызначальныя дзеянні Вітаўта ды Ромула застаюцца за кулісамі. Маштаб (веліч) дзеянняў публіка мусіць прымаць на веру, — яго падтрымлівае гісторыя, ды не навука як такая, а, хутчэй, папулярныя факты, дасціпна апрацаваныя драматургамі. Для мудрага гледача рэжысёр абодвух спектакляў Валерый Раеўскі трапна й ненавязліва пазначае трагічныя дэталі: Вітаўт аддае ў заклад сваіх хлопчыкаў, асуджаючы на гібель; гіне, ратуючыся ад нашэсця, і Ромулава дачка. Пра кожную з гэтых трагедый Раеўскі апавядае з нотай аптымізму: героям не бракуе паплечнікаў. Але жыцця аднаго Вітаўта, але жыцця аднаго Ромула яўна нестае, каб у абвешчаным маштабе спраўдзіліся дзяржаўныя захады абодвух.

Ці не таму і Вітаўта, і Ромула перастрэла наступная, найноўшая адметнасць, — яркая ў сваёй пазасезоннай вастрыні, выбітная сваёй аўдыторыяй, падкрэслена й скіравана сямейнай, — "Маленькі лорд Фаўнтлярой" Ф. Бернет (аўтарка дзіцячых бестселераў мінулага стагоддзя "Маленькая прынцэса", "Таямнічы сад"). Пастаноўка Андрэя Андросіка на сцэне Рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Там, паводле класіка, любіцца думка сямейная. Там апяваецца сям'я, як каштоўнасць безумоўная і як вялікая ўзнагарода лёсу. Ягонаю воляю граф Дарынкур спачатку быў пазбаўлены гэтай радасці, — у выкананні Анатоля Жука (паралельна з ім гэтую ролю выконвае Віктар Лебедзеў) граф выдае на чалавека зацятага, жорсткага, падазронага. Старая як свет высакароднасць, — дзіцячая высакароднасць, услед за Бернет падкрэслівае Андросік, — пераварае зацятасць у настойлівасць, а жорсткасць — у нязломную волю, з якой вызначаецца будучыня замка, графства і старога Дарынкура. На сцэне гэтую будучыню ўвасабляе хлопчык Седрык Эрал, прадстаўлены Мікітам Гузоўскім. Хлопчык, які змушае дзеда палюбіць... Напачатку — палюбіць самога сябе, графа Дарынкура, палюбіць — значыць, даць веры, што і яму, Дарынкуру, неабходна тое звычайнае і чалавечае, што ўвасабляе сабою ён, Седрык, Седрыкава маці (Таццяна Жданава), лэдзі Лорыдэйл (Вера Кавалерава), адвакат Хэвішэм (Аляксандр Палазкоў)... Што ён, Дарынкур, варты іх высакародства. Таго высакародства, якое змушае любіць нават іншае ў іншым. А любові наўрад ці бывае замнога.

Так нязмушана Андрэй Андросік сфармуляваў надзею сёлетняга тэатральнага сезона: пільна прыглядзецца да іншага ў іншых і абавязкова заўважыць іх вартасці. А любоў? А любоў — гэта ўжо іншая гісторыя.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

ПАДЗЕЯ

# Як мінчукі сталі... "магдэбуржцамі"

Гэтая дата ў календарах чырвонай фарбай не пазначана, але калі б з'явілася калінебудзь задумка выпусціць спецыяльны каляндар для горада Мінска, адзначыўшы ў ім штодня ўсе больш-менш значныя падзеі, юбілейныя даты (а такое выданне выклікала б вялікі інтарэс!), дык, безумоўна, яна заслужыла б такую адзнаку, бо дзень гэты для сталіцы нашай дзяржавы адметны. Асабліва ж — сёлета. 500 гадоў таму, 14 сакавіка 1499 года, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Аляксандр Казіміравіч дараваў Мінску грамату, паводле якой гораду давалася "на вечныя часы права нямецкае, што называецца майтборскім". Інакш кажучы, Мінск набыў магдэбургскае права.

Упершыню яно з'явілася ў горадзе Магдэбургу, у Германіі. Ямчэ восем стагоддзяў назад, калі весці адлік ад нашых дзён. Гарады, якія атрымлівалі такое права (а яно з Магдэбурга пачало распаўсюджвацца не толькі па ўсёй Германіі, а і ў іншыя краіны), маглі ўводзіць мясцовае самакіраванне, атрымлівалі розныя гаранты, і сярод іх — гарантыю асабістай свабоды. Пасля гэтага не падначальваліся феадалам, якія валодалі населенымі пунктамі, што знаходзіліся вакол горада. Гараджане маглі свабодна займацца любым рамяством, гандлем, вызваляліся ад феадальных павіннасцяў.

Каб атрымаць магдэбургскае права, мала было жадання жыхароў. Праводзіўся свайго роду адбор прэтэндэнтаў на яго. Прымаліся пад увагу эканамічны стан горада, яго аўтарытэт сярод іншых гарадоў, магчымасць пастаўляць патрэбныя сродкі ў дзяржаўную казну. І Мінск не адразу атрымаў магдэбургскае права. Яго абышлі, у прыватнасці, такія гарады, як Брэст, Слуцк, Гродна, Полацк, якія "магдэбургскімі" сталі адпаведна ў 1390, 1441, 1496, 1498 гадах.

Самакіраваннем у "магдэбургскім" горадзе займаўся выбарны орган — магістрат, які свае пасяджэнні праводзіў у ратушы. У Мінску яна знаходзілася ў цэнтры плошчы Верхняга рынку (цяпер плошча Свабоды). На жаль, гэты будынак, як і многія іншыя унікальныя гістарычныя помнікі, не захаваўся. Праўда, да знішчэння ратушы бальшавікі не маюць ніякага дачынення. Яе знеслі яшчэ ў 1857 годзе. А зрабілі гэта паводле рэзалюцыі імператара Мікалая І. Фармальна таму, што будынак быццам закрываў царкву, што знаходзілася на гэтай жа плошчы. Але пачатак абыякаваму стаўленню да ратушы па сутнасці быў пакладзены яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя, калі Мінск быў пазбаўлены магдэбургскага права.

...У Мінску прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная гэтай важнай даце ў гісторыі сталіцы. У перспектыве маркуецца аднавіць і саму ратушу.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ПАМЯЦЬ

# Спецыялізацыя — старажытная літаратура

Дзевятнаццацігадовым юнаком Аляксандр Коршунаў быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Разам з войскамі 3-га Беларускага фронту ўдзельнічаў у вызваленні Оршы, Віцебска. Ды нядоўга ваяваў — у адным з баёў быў цяжка паранены, а ў выніку — ампутацыя нагі. 20 кастрычніка 1944 года дэмабілізаваўся як інвалід Вялікай Айчыннай вайны. Пакінці пасней у 1941 годзе скончыць сярэднюю школу, паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Дыплом аб вышэйшай адукацыі атрымаў у 1950-м. Пасля вучыўся ў аспірантуры пры кафедры рускай літаратуры Ленінградскага універсітэта, дзе спецыялізаваўся па старажытнай беларускай літаратуры. Гэта і вызначыла накірункі далейшай даследчыцкай дзейнасці Аляксандра Фаміча. Працуючы з 1954 года малодшым, а потым старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, ён вывучаў творчасць Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, А. Каменскага, А. Філіповіча і іншых выдатных прадстаўнікоў, якія стаялі ля вытокаў беларускай літаратуры і культуры ў цэлым. А пачатак мэтанакіраванай, шматграннай рабоце А. Коршунава быў пакладзены кандыдацкай дысертацыяй "Афанасій Філіповіч і яго грамадска-літаратурная дзейнасць. З гісторыі грамадскай думкі ў Беларусі першай паловы XVII стагоддзя". А. Коршунаў друкаваўся з 1955 года. Выступаў у "Весцях АН БССР", часопісах "Полымя", "Маладосць", "Нёман", у навуковых зборніках. У 1965 годзе выйшла яго кніга "Афанасий Филипович. Жизнь и творчество". А. Коршунаў прымаў актыўны ўдзел у напісанні двухтомнага даследавання на рускай мове "Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры" і "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры" і разам з іншымі аўтарамі быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа.

Не стала Аляксандра Фаміча 12 ліпеня 1991 года. Нарадзіўся ён 75 гадоў назад у вёсцы Палішына Горацкага раёна.

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Нёман" выказвае глыбокае спачуванне ПАРХІМОВІЧ Наталлі Альбертаўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю маці.**

ПЕРАКЛАДЫ

Аляксандр ПУШКІН

# "Мір вам, няшчасныя паэты..."

•

*О муза агнявой сатыры!*
*Прыйдзі на мой зазыўны кліч!*
*Не трэба мне грымучай ліры,*
*Падай мне Ювеналаў біч!*
*Не перайманьнікам халодным,*
*Не перакладчыкам галодным,*
*Не задуменным рыфмачам*
*Рыхтую язвы эпіграм!*
*Мір вам, няшчасныя паэты,*
*Мір вам, з часопісаў клеўрэты,*
*Мір вам, прадажныя жрацы!*
*А вы, заілыя юнцы, —*
*Наперад! Вашу сволач буду*
*Я мучыць, сорамам караць!*
*Калі ж каго я і забуду,*
*Прашу, паны, мне нагадаць!*
*О, колькі іх, нахабна-бледных,*
*О, колькі лбоў шырока-медных*
*Гатовы ад мяне прыняць*
*Непазабыўную пячаць!*
1825

•

*Ты з лаянкай ірвешся ў схватку?*
*Разлік з табой без пахвалы:*
*Ну, так! я лодар, без занятку,*
*А ты нядбайнік дзелавы.*
1820

•

*Вам ні ў чым няма раскошы;*
*Шчасце?.. з ім у вас разлад:*
*І краса вас не прыгожыць,*
*І дасціпнасць неўпапад.*
1825

•

*"Эмілій, як паэт, — сапраўдны,*
*А чалавек пусты, не той".*
*— "Чым поўны ты,*
*паяц прыбраны?*
*А, разумею, сам сабой;*
*Ты поўны дрэні, мілы мой!"*
1821

## Гісторыя вершатворца

*Ён слухае прывычным вухам*
*Свіст;*
*І крэмзае адзіным духам*
*Ліст;*
*Пасля чуцён нялюбы Свету*
*Гук;*
*Пасля друкуе ўсё — і ў Лету*
*Бух!*
1818

## Парада

*Павер: калі сляпнёў і камароў*
*Вакол цябе раіцца па выданнях,*
*Не разважай,*
*не трась пачціўых слоў*
*І не пярэч на піск і шум нахабных.*
*Ні логіка, ні густ для іх не страх.*
*Не сціішыш род іх аніякай драмай.*
*Злавацца — грэх,*
*ды ўсё ж зрабі замах*
*І сцебані іх хвосткай эпіграмай.*
1825

## Добры чалавек

*Так, Фірс вучоны невыносны,*
*Педант надзьмуты,*
*быццам злосны —*
*Заўжды з азмрочаным чалом —*
*І ведае ўсяго патроху.*
*Люблю цябе, сусед Пахом, —*
*Ты проста пень, і слава богу.*
1819

## Цікаўны

*— Што ж новага?*
*"Скрозь спакой".*
*— Эй, не хітры:*
*гаворыш ты не тое.*
*Не сорамна: я ж сябра твой,*
*Як ад чужога, ты ўсё вечна тоіш.*
*Сярдуеш ты: усмешкі не відно.*
*Не ўпарціся,*
*а што з табой такое?..*
*"Ох, адчапіся, знаю я адно,*
*Што дурань ты,*
*а гэта ўжо старое".*
1816

## Шавец

ПРЫТЧА

*Шавец аднойчы разглядаў карціну*
*І на памылку ў ботах указаў;*
*Мастак зрабіў папраўку за хвіліну,*
*"Здаецца,*
*твар намаляваны крыва...*
*І грудзі, як агалены, глядзі..."*
*Тут Апялес усклікнуў нецярпліва:*
*"Судзі, ды вышэй бота не судзі!"*
*Прыяцеля я маю на прыкмеце:*
*Не знаю, у якім бы ён прадмеце*
*Быў знатаком,*
*ён спец крытыкаваць,*
*Ды чорт яго нясе судзіць аб свеце:*
*Каб спрабаваў*
*пра боты меркаваць!*
1829

•

*Напаўмудрэц, напаўбарон,*
*Напаўтупы, напаўпадлюка,*
*Напаўкупец, ды ёсць парука,*
*Што ўсё-ткі будзе поўны ён.*
1824

## Прыяцелям

*Зайздроснікі,*
*пра вас пакуль нічога...*
*Здаецца мне,*
*мой быстры гнеў пагас;*
*Але з вачэй я не спускаю вас*
*І калі-небудзь выберу любога:*
*Ад кіпцюроў не ўнікне ліхадзей,*
*Як налячу бязлітасны, нязваны,*
*Так кружыцца ў аблоках*
*ястраб прагны*
*І сцеражэ індычак і гусей.*
1825

## Мая эпітафія

*Тут пахаваны Пушкін;*
*з музай маладою,*
*З лянотай, любячы,*
*правёў вясёлы век,*
*І не рабіў ён добрага,*
*ды быў душою,*
*Дальбог, дабрэйшы чалавек.*
1815

**Пераклаў Юрась СВІРКА**

АРХІВЫ

# ...Напісанае застаецца

У фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа зберагаецца больш за 30 тысяч экспанатаў. У кожнага з іх — свой лёс, свая легенда. І кожны прадмет патрабуе асэнсавання, даследавання.

У рукапісным, бадай, самым каштоўным, фондзе захоўваецца паштоўка, напісаная Якубам Коласам у 1910 годзе з турмы невядомай асобе. У 1962 годзе ў публікацыі Д. Міцкевіча і М. Базарэвіча ў часопісе "Беларусь", N 12, пра гэтую паштоўку толькі згадвалася, але яна не была надрукавана, як і не ўвайшла ў пазнейшы Збор твораў Якуба Коласа ў 14-ці тамах.

Пры дэталёвым азнаямленні з тэкстам і паштовымі рэквізітамі і супастаўленні з вядомымі фактамі з жыццяпісу Якуба Коласа стала зразумела, якая каштоўная інфармацыя закладзена ў тэксце паштоўкі.

Прынамсі, звернемся да арыгінала на рускай мове:

**Адрас:** Г. Вильня
Виленская улица д. N 20
откр. К. Мицкевича
**Паштовыя штампы:** Минск. губ.: 1.8.10
**Вильня:** 2.8.10

На адвароце тэкст:

Минск, 24/VII. Ваше письмо я получил только сегодня — два дня спустя после отправки Вами письма. Уже сравнительно давно я писал А. Н., что ничего не имею против. Об этом же я лично говорил Ш., который как-то у меня был. Все имеющиеся работы отдаю в Ваше распоряжение. Уведомите о дальнейшем. Крепко жму Вашу руку. Я. К. К. Мицкевич.

Паштоўка напісана Якубам Коласам 24 ліпеня 1910 года, патрапіла на пошту толькі праз восем дзён. Аднак выклікае цікавасць той факт, што з Мінска да Вільні паштоўка была дастаўлена ўсяго за суткі, пра што сведчаць паштовыя штампы, якія добра расчытваюцца. Неверагодна! Напрыканцы XX стагоддзя аб гэтым можна толькі марыць!

Далей трэба было даведацца, каму адрасавана паштоўка і якія асобы ў ёй зашыфраваны — зразумела: з турмы пісалася з аглядкай. А самае галоўнае — пра што ідзе размова. Сапраўды, дэтэктыўная гісторыя чакала мяне.

Адрасата адшукала я лёгка. Маючы пад рукамі кнігу Лявона Луцкевіча "Вандроўкі па Вільні", якую летась перадала ў музей старшыня ЗБС "Бацькаўшчына" спадарыня Ганна Сурмач, знайшла, што па адрасе: Віленская вуліца, д. N 20 — у 1910 годзе знаходзілася рэдакцыя газеты "Наша Ніва". Паштоўка напісана адной асобе, магчыма, Антону Луцкевічу, ці, можа, Вацлаву Ластоўскаму.

Ініцыялы А. Н. (па-руску), зразумела, належаць Аляксандру Мікітавічу Уласаву, а вось Ш., трэба думаць, Ядвігіну Ш. — Антону Лявіцкаму. З гэтым пагадзіўся і даследчык жыцця і творчасці Ядвігіна Ш. спадар Уладзімір Содаль.

І тут ёсць свая навізна. Дагэтуль не выяўлена ніякіх матэрыялаў, якія б прама ці ўскосна пацвярджалі асабістае знаёмства Якуба Коласа і Ядвігіна Ш. Як вядома, у 1909—1910 гадах Ядвігін Ш. жыў у Вільні, працаваў сакратаром, загадчыкам літаратурнага аддзела "Нашай Нівы", а ўлетку 1910 года пешшу вандраваў па Беларусі. Гэта падарожжа пісьменнік апісаў у сваіх "Лістах з дарогі".

І зусім верагодна, што з роднай Карпілаўкі Ядвігін Ш. мог па нейкіх справах паехаць на дзень-другі ў Мінск і праведаць Якуба Коласа ў турме. Відаць, так і застануцца загадкай адносіны двух мастакоў слова — Ядвігіна Ш. і Якуба Коласа, якія пазней сталі далёкімі сваякамі — родны дзядзька Коласа Язэп Лёсік ажаніўся з дачкою Ядвігіна Ш. Вандай Лявіцкай.

Але ж вернемся да тэксту паштоўкі. Уважліва перачытала яе некалькі разоў. Размова не ішла аб друкаванні асобных вершаў ці невялікіх твораў у газеце, бо ўжо з восені 1908 года, калі Якуб Колас апынуўся за кратамі, у "Нашай Ніве" друкаваліся ягоныя творы, напісаныя ўжо ў турме.

На мой погляд, размова ішла толькі аб выданні кнігі. Восенню 1910 года ў Вільні якраз і выйшаў першы зборнік вершаў Якуба Коласа "Песні-жальбы" (выданне "Нашай Нівы").

Такім чынам, усё становіцца на свае месцы. Рэдакцыя газеты "Наша Ніва", каб падтрымаць зняволенага паэта, прапанавала Коласу сабраць свае вершы і выдаць кнігу. Ён адказвае паштоўкай, што нічога не мае супраць, што гаварыў аб гэтым з супрацоўнікамі "Нашай Нівы" А. Уласавым і Ядвігіным Ш., што аддае ўсе творы ў работу і чакае паведамлення аб тым, як ідуць справы.

...Некалькі радкоў скупога тэксту на разарванай на тры часткі паштоўцы, быццам некалькі новых цаглінак у падмурак Коласавай спадчыны, папоўняць старонкі жыцця і творчасці народнага песняра.





**Вера МІЦКЕВІЧ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Заслужыў пры жыцці помнік. Але трымаецца скромна, расказаў па сакрэце: ляжыць пад павецццю. Ды другі раз у бандытаў не прыме зарплаты гранітам.

•

Цар-звон не званіў, царпушка не страляла. Расійскім уладарам здавён была ўласціва гігантаманія. Гэта пры Леніне — Сталіне стваралася сама вялікая ў свеце дзяржава. Дзіва што аднойчы яна сама развалілася. Ці вылечылася ад гігантаманіі Масква? Не, бо нядаўна ўстанавіла найвышэйшы помнік Пятру. А цяпер спрабуюць падараваць стометровы манумент Амерыцы. Прапануй такое нам, хоць нам бронза і трэба, мы і то пагрэбавалі б.

•

Пісьмо незадаволенага чытача. Не ўсё гладка пад гэтым Коўзкім. Я б такім не даваў волі. Вярзуць нешта з выглядам філасофскім, а самі сваволяць, сякуць і колюць. Прыстойна ўсё на 16-ай старонцы, дык на табе — ці не радыеактыўны стронцый. Хачу запытацца ў кіраўніцтва: нашто нам тое з'едлівае яхідства? Можна бэсціць усенародна, але каб лагодна.

•

Вынесці Леніна з маўзалея? Так, але маўзалей захаваць у якасці музея. Мець нават на трыбуне постаці былых "карыфеяў". Ды ці ўдасца аднавіць калоны пальмяных дэманстрантаў, а па ўсёй краіне — шэрагі арыштантаў?

•

За подзвігі і пот горкі ўрад даваў металічныя зоркі. Ды калі яшчэ — гэта прызнаць трэба — за подзвігі абяцалі зоркі на небе.

•

Многіх пазнаеш са спіны. Твар часам мала што дадае да абліччаў гэтых людзей. Дык няма ж такой манеры хадзіць задам наперад.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3910.
Нумар падпісаны ў друк 18.3.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1282/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12